Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№8 (4552) 26 лютага 2010 г.







# «Голас сэрца Айчынай пачуты…»

Пятро Прыходзька… Пятро Фёдаравіч… Здаецца, што зусім нядаўна ён сярод блізкіх яму людзей у невялічкім кафэ, што ў метрах ста ад яго кватэры, адзначаў сваё 85-годдзе. Запрасіў толькі тых, каго хацеў бачыць і з кім яму было добра. На жаль, не ўсе прыйшлі і Пятро Фёдаравіч вельмі з-за гэтага перажываў, нібыта ведаў, што больш такіх святочных застолляў з яго ўдзелам не будзе. Жанчыны яму дарылі кветкі, паэты— вершы. І ён не шкадаваў нікому добрых слоў, успамінаў, калі з кім і як пазнаёміўся, цытаваў вершы сваіх землякоў Аркадзя Куляшова, Аляксея Пысіна, Алеся Пісьмянкова. Ён любіў іх, ганарыўся імі і нярэдка казаў пысінскімі радкамі: “Ведайце: калі мяне не стане — Я ў сваю дывізію пайшоў”.

І 30 лістапада 2006 года паэт пайшоў ад нас, пайшоў “у сваю дывізію”, пакінуўшы нам некалькі дзесяткаў паэтычных зборнікаў, сярод якіх: “Голас сэрца”, “Ранак над Эльбай”, “Пасля развітання”, “Вішнёвы агонь”, “Калінавыя зоры”, “Лірыка”, “Лісты з паходаў”, “Вячэрняя паверка”, “Парог памяці”, “Споведзь любові”, кнігу нарысаў “На новых землях” і зборнікі вершаў для дзяцей.

Першыя свае творы надрукаваў ён у 1936 годзе ў Хоцімскай раённай газеце, а ўжо ў 1937 годзе — у рэспубліканскай “Чырвонай змене”. Сваю працоўную дзейнасць Пятро Прыходзька пачаў у 1936 годзе кіраўніком спраў Хоцімскага райкама камсамола. Пасля заканчэння Магілёўскай газетнай партыйнай школы быў адказным сакратаром хоцімскай раённай газеты “Калгасная звязда”. У 1939 годзе паступіў у Камуністычны інстытут журналістыкі імя С. М. Кірава ў Мінску і тут жа быў прызваны ў Савецкую Армію. Удзельнічаў у баях на Бранскім фронце, на Курскай дузе, удзельнічаў у вызваленні Беларусі, Польшчы, у баях за Берлін. Пасля перамогі над фашысцкай Германіяй Пятро Прыходзька застаўся служыць у Чэхаславакіі. І ён мог бы, напэўна, заняць высокую пасаду, але не бачыў сябе вайскоўцам, таму накіраваў ліст у ЦК КПБ, у якім пісаў: “У адарванасці ад роднай літаратуры, ад роднага народа я не магу перадаць тое, што сказаў бы ў сваіх песнях, у сваіх вершах на прасторах роднай зямлі. І калі я не вярнуся ў абсягі мілай Беларусі, я прападу як паэт”. Але не пра матэрыяльныя выгоды клапаціўся малады франтавік Пятро Прыходзька, не пра кар’еру, а думаў пра Беларусь, якая ляжала ў руінах. І ён вярнуўся. Працаваў у акруговай газеце “Во славу Родины”, іншых выданнях. У 1953 годзе дэмабілізаваўся ў званні падпалкоўніка. Адчуўшы, што не хапае літаратурнай адукацыі, пайшоў вучыцца на Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Пасля працаваў у часопісе “Беларусь”, газетах “Звязда”, “Літаратура і мастацтва”, на мінскай студыі дакументальных фільмаў. Быў рэдактарам выдавецтва “Беларусь”, а ў 1972 — 1979 гадах — старшым рэдактарам выдавецтва “Мастацкая літаратура”. Узнагароджаны двума ордэнамі Чырвонай Зоркі, двума ордэнамі Айчыннай Вайны ІІ ступені і медалямі. За зборнік “Парог памяці” Пятро Прыходзька стаў лаўрэатам літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова.

У 2005 годзе ў выдавецтве “Беларуская навука” выйшла апошняя прыжыццёвая кніга Пятра Прыходзькі “На хвалях часу. Кніга сардэчнай памяці”. У гэтай кнізе сапраўды многа сэрца… А кнігі ўспамінаў чытаюцца і ўспрымаюцца ў залежнасці ад таго, з якой мэтай яны пісаліся: ці хацеў аўтар паказаць эпоху, ці сябе ў цэнтры эпохі, ці вядзе лік уласным крыўдам і поспехам, ці выпісвае партрэты сучаснікаў. Паэт-ветэран Пятро Прыходзька ў кнізе расказвае пра свой час, любуючыся не сабой, а тымі, з кім давялося быць разам: Аркадзем Куляшовым, Піменам Панчанкам, Піліпам Пестракам, Максімам Танкам, Валянцінам Таўлаем, Анатолем Вялюгіным… І тым самым ствараe і свой — творчы і чалавечы — партрэт. Расповед паэта гучыць бясхітрасна і даверліва. Таму, відаць, і сяброўскія адносіны з калегамі па пяры былі вельмі шчырымі. Менавіта Пятро Прыходзька пасля вайны прывёз у Мінск на сустрэчу з Аркадзем Куляшовым яго апальнага бацьку, якому, як падазронаму ў сувязях з немцамі, было забаронена выязджаць з вёскі. Максім Танк па сваёй ініцыятыве даў рэкамендацыю маладому паэту Пятру Прыходзьку ў Саюз пісьменнікаў. Піліп Пестрак чытаў яму вершы Клюева і Пастэрнака якраз у той час, калі пачынаецца чарговы віток барацьбы з крамольнымі паэтамі... У кнізе вельмі шмат паэзіі — аўтар шчодра цытуе любімыя вершы, і ў тэксце, які адлюстроўвае эпоху, яны гучаць асабліва кранальна.

Да апошніх дзён свайго жыцця Пятро Прыходзька жыў літаратурай. Ён заўсёды ўдзельнічаў у газетных і часопісных апытаннях, часта выступаў у абарону роднай мовы ў газеце “Звязда”, друкаваўся з новымі вершамі і рэцэнзіямі не толькі на новыя кнігі, але і на часопісныя публікацыі, якія яго ўразілі, часам дапамагаў матэрыяльна тым ці іншым літаратарам. Калі быў аб’яўлены конкурс на стварэнне Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь, ён, як і многія паэты, паспрабаваў свае сілы ў гэтай пачэснай справе. І сёння, узгадваючы Пятра Фёдаравіча, мы ўдзячныя яму за тое, што ён жыў, тварыў і ніколі звысоку не глядзеў на нас, сваіх маладзейшых таварышаў па пяры, а заўсёды знаходзіў час і магчымасць, каб сказаць нам добрае слова. Напрыканцы працытую свой верш, прысвячаны памяці Пятра Прыходзькі...

Голас сэрца Айчынай пачуты,
І калінавых зорак святло
Над зямлёю ў заснежаным лютым
Да людзей назаўжды прарасло,
Каб і ранак над Эльбай адбыўся,
Дзе з салдатамі міру паэт,
Нібы з вечнасці, з рэчкі напіўся,
Прад сабою пабачыўшы свет,
У якім будзе водгулле грому
І апаленых вёрстаў працяг,
Дзе святая дарога дадому
Не знікае, не знікне ў снягах.
І паспець да вячэрняй малітвы
Зможа кожны і зможа павек,
Каб акопаў крывавыя рытвы
Не дыміліся ў роднай траве.
Парог памяці будзе заўсёды,
І вішнёвы агонь, каравай
Будзе цёплы, як радасці подых,
Як той памятны велічны май,
Бо паэты жывуць, не знікаюць,
Як нябёсы, як зоры, як свет,
І няма прыгажэй таго краю,
Дзе Айчынай пачуты паэт...

Віктар ШНІП

## Пункцірам

● Народнаму артысту Расійскай Федэрацыі Юрыю Антонаву споўнілася 65 гадоў. З гэтай нагоды, як паведамілі ў прэс-службе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Аляксандр Лукашэнка павіншаваў нашага знанага земляка: "Мы ганарымся тым, што ваша жыццё і творчы лёс непарыўна звязаны з беларускай зямлёй, дзе вы зрабілі першыя крокі ў музыцы і атрымалі пуцёўку ў вялікае творчае жыццё. У нашай краіне вы заваявалі сэрцы адданых прыхільнікаў, якія з нецярпеннем чакаюць сустрэч з любімым артыстам".

● У Віцебскім абласным музеі Героя Савецкага Саюза Міная Шмырова працуе выстаўка праекта "Ганаровыя грамадзяне Віцебска — удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны". Яна прысвечана памяці Веры Кулагінай, якая ў гады вайны ўзначаліла адну з груп віцебскіх падпольшчыкаў. У экспазіцыю ўвайшлі архіўныя дакументы, фотаздымкі, узнагароды, якія адлюстроўваюць не толькі жыццёвы шлях Веры Кулагінай, але і лёс жанчын на вайне ў цэлым. Выстаўкавы праект працягнуць экспазіцыі пра партызанскіх камбрыгаў Даніла Райцава, Міхаіла Біруліна, Мікалая Сакмаркіна, а таксама пра актыўных удзельнікаў партызанскага і падпольнага руху.

● Перасоўныя бібліятэкі (бібліёбусы) могуць з'явіцца ў Гомельскай вобласці ў бліжэйшы час. З такой ініцыятывай выступіў старшыня аблвыканкама Аляксандр Якабсон. Як адзначыў начальнік аддзела культуры Гомельскага аблвыканкама Дзмітрый Чумакоў, праца бібліёбусаў разглядаецца як адзін з кірункаў аптымізацыі бібліятэчнай сеткі рэгіёна. У малых населеных пунктах утрымліваць бібліятэкі становіцца эканамічна немэтазгодна. Таму бібліёбусы дапамогуць вырашыць адразу некалькі задач: і зэканоміць сродкі, і данесці кнігу да кожнага жыхара.

● Пашырэнне выкарыстання беларускай мовы ва ўстановах культуры будзе вітацца ў Міністэрстве культуры. Міністр Павел Латушка падкрэсліў, што пашырэнне ўжытку беларускай мовы ў нашым жыцці не павінна адбывацца прымусова. "Вельмі важна кожнаму з нас зразумець, што беларуская мова з'яўляецца складнікам нашай культуры, нашай гісторыка-культурнай спадчыны. Яна прыйшла да нас ад нашых прадзедаў і бацькоў, і гэта мы павінны захаваць і перадаць нашым дзецям. Абсалютна натуральным з'яўляецца адначасовае развіццё і беларускай культуры, і беларускай мовы", — адзначыў Павел Латушка.

● Па ініцыятыве шэрага дзяржаўных устаноў распачынаецца агульнанацыянальная кампанія па рэстаўрацыі (кансервацыі) Навагрудскага замка. У межах акцыі прадугледжаны збор сродкаў на рэстаўрацыйныя працы шляхам пералічэння іх з рэспубліканскага, абласнога, раённага бюджэтаў, праведзення шэрага тыражоў латарэі "Скарбніца", а для прыватных ці карпаратыўных ахвяраванняў адкрыты пазабюджэтны мэтавы рахунак аддзела культуры Навагрудскага райвыканкама.

● Фінансавыя складанасці мінулага года паўплывалі і на дзейнасць сферы культуры і ў Лунінецкім раёне, аднак, набыткі тут пераважаюць. Папрыгажэлі Дамы культуры ў аграгарадках Велута і Вулька-2, дзе рамонтна-будаўнічыя работы выконваліся за сродкі Дзяржаўнай праграмы адраджэння і развіцця вёскі. Сіламі гаспадарчай групы аддзела культуры райвыканкама ажыццёўлена рэканструкцыя Язвінскага СДК. Сёлета працягнецца капітальны рамонт Дома культуры ў вёсцы Любань, пачнецца — у Бастыні і Красная Волі.

Падрыхтавалі Павел РАДЫНА, Віктар ЗАЯЦ і Таццяна КАНАПАЦКАЯ

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Са слязамі на вачах...

У мінулую суботу ў мемарыяльнай зале Дома літаратара адбыўся віншавальны канцэрт для пісьменнікаў-ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і вайны ў Афганістане, прысвечаны Дню абаронцаў Айчыны.

З вітальным словам выступіў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец. Ён пажадаў удзельнікам вайны бадзёрасці і натхнення, нагадаў пра новы праект Саюза пісьменнікаў Беларусі па выданні твораў пісьменнікаў-ветэранаў.

Аднак, абаронцы Айчыны — не толькі мужчыны. Сярод пісьменнікаў вылучаецца і мужная жанчына Ала Кірылава-Чорная. Яе дзяцінства прайшло ў блакадным Ленінградзе. Хто лепш за яе ведае сапраўдную цану хлеба… Пранікнёныя вершы Кірылавай-Чорнай не могуць не ўражваць — у іх сапраўды адчуваецца ўся жудаснасць той цяжкай і крывавай вайны.

На канцэрце выступіў Акадэмічны ансамбль песні і танца Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Выконваліся вядомыя песні ваенных часоў, якія ветэраны з задавальненнем падхоплівалі — са слязамі на вачах.



Уладзімір ПАДАЛЯК
Фота аўтара

# Адраджэнне традыцый

Днямі ў Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Я. Карскага адбылася прэзентацыя першага нумара літаратурнага альманаха "На Нёманскай хвалі", падрыхтаванага Гродзенскім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі. У альманах увайшлі творы членаў абласнога аддзялення, якія пішуць на беларускай і рускай мовах, маюць ад двух да пятнаццаці выдадзеных аўтарскіх кніг, шмат публікацый у перыядычным друку розных узроўняў, сваіх прыхільнікаў і чытачоў, відавочна, розныя пісьменніцкі вопыт і стыль, тэматычны кірунак і ступені літаратурнага таленту.

Затое ўсіх яднае агульная рыса — імкненне ствараць у літаратуры вобраз цудоўнага і непаўторнага Прынёманскага краю, адлюстраваць падзеі і з'явы, што адбываліся і адбываюцца тут; паказаць сучаснага гарадзенца, яго асобаснае станаўленне і суадносіны з акаляючым светам рэальна, змястоўна, праўдзіва, мастацкі дасканала. Першы сумесны калектыўны зборнік паказаў, што ў гродзенскіх пісьменнікаў ёсць для гэтага ўсе падставы: і талент, і жаданне, і патрыятычнае пачуццё.

Нашы калегі ў іншых абласных цэнтрах — Брэсце, Віцебску, Гомелі — ужо маюць падобныя выданні. Гродзенская пісьменніцкая арганізацыя падрыхтавала яго ўпершыню. Але традыцыя выдання літаратурных альманахаў на Гродзеншчыне даволі даўняя. Так, у 1956 і 1958 гг. выйшаў альманах "Нёман", які ўключаў творы пісьменнікаў Гродзенскай вобласці. У 1968-м — літаратуразнаўчы альманах "Наднёманскія былі", у якім прадстаўлены даследаванні мясцовых літаратуразнаўцаў і крытыкаў пра літаратурны рух на Гродзеншчыне і найбольш вядомых пісьменнікаў краю (Э. Ажэшка, М. Васілёк, В. Быкаў). Аўтары артыкулаў краю выкладчыкі Гродзенскага дзяржаўнага педінстытута імя Янкі Купалы.

У 1986 годзе з'явіўся літаратурны альманах "Краю, мой Нёман", у якім раздзел "З літаратурнай мінуўшчыны". У прадмове В. Быкаў пісаў, што "гэты калектыўны зборнік — плён працы гродзенскіх пісьменнікаў, значная частка нашай духоўнай культуры". Рэгіянальны гісторыка-культурны часопіс "Свіцязь" выходзіў у 1994 — 1995 гг. Ён адлюстроўваў даследаванні гісторыкаў і краязнаўцаў, друкаваў творы Л. Ялоўчык, А. Руцкай, А. Пяткевіча, Ю. Гуменюка і інш.

З 2001-га выходзіць літаратурна-мастацкі альманах "Нябесны знак" (6 выпускаў, заснавальнік і галоўны рэдактар — М. Шаўчонак, член нашага аддзялення). Пры абласной газеце "Гродзенская праўда" ў 2002 — 2005 гг. выдаваўся альманах "Галасы" (4 выпускі, укладальнік — Юрка Голуб), у якім змяшчаліся лепшыя творы з "Літаратурнай старонкі" газеты. Выданне новага літаратурнага альманаха з'яўляецца лагічным працягам літаратурнай традыцыі Гродзеншчыны.

Людміла КЕБІЧ,
старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ

## Юбілеі

Сваё 85-годдзе адзначыла Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Яна з'яўляецца адной з буйнейшых бібліятэк у краіне, інфармацыйным цэнтрам, які забяспечвае дзейнасць вучоных і спецыялістаў нашай краіны, навукова-даследчым цэнтрам у галіне бібліятэказнаўства, гісторыі кнігі, інфармацыйных тэхналогій.

# Навука, культура, духоўнасць

Урачыстыя мерапрыемствы з нагоды юбілею адкрыла II Міжнародная навуковая канферэнцыя маладых навукоўцаў і спецыялістаў "Бібліятэкі ў інфармацыйнай прасторы: праблемы і тэндэнцыі".

Дырэктар ЦНБ НАН Беларусі Наталля Бярозкіна павіншавала ўсіх прысутных са святам, зазначыўшы, што, нягледзячы на свой узрост, бібліятэка па-ранейшаму застаецца ў цэнтры падзей, укараняе ўсё найноўшае, прагрэсіўнае, робіць стаўку на моладзь, таму што менавіта ад моладзі залежыць будучыня нашай навукі, культуры, адукацыі.

На пленарным пасяджэнні Алена Даўгаполава, кандыдат педагагічных навук, намеснік дырэктара НББ, распавяла пра некаторыя аспекты эфектыўнасці выкарыстання баз дадзеных.

Ірына Стралкова, кандыдат педагагічных навук, намеснік дырэктара бібліятэкі БДУКіМ, расказала пра кіраванне прафесійнай кар'ерай: магчымасці і перспектывы для маладых спецыялістаў. Мікалай Яцэвіч, кандыдат педагагічных навук, дэкан факультэта інфармацыйна-дакументальных камунікацый БДУКіМ, засяродзіў увагу прысутных на інавацыйнай адукацыі як фактары ўстойлівага развіцця бібліятэк.

Удзельнікі форуму абмеркавалі актуальныя праблемы бібліятэчнай справы, узаемадзеянне, формы, метады і кірункі дзейнасці бібліятэк, іх інфармацыйныя рэсурсы і паслугі, пытанні фарміравання, выкарыстання і захавання фондаў рэдкіх кніг і рукапісаў, традыцыі ды інавацыі ў выстаўчачнай дзейнасці.

Была падрыхтавана тэматычная выстаўка "Скарбніца навуковых ведаў: да 85-годдзя ЦНБ НАН Беларусі", на якой прадстаўлены выданні бібліятэкі: манаграфіі, зборнікі навуковых артыкулаў, бібліяграфічныя паказальнікі, артыкулы супрацоўнікаў у часопісах, зборніках матэрыялаў міжнародных і рэспубліканскіх навуковых канферэнцый.

У чытальнай зале аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ладзілася другая адметная выстаўка "Скарбніца духоўнай спадчыны". Яна складалася з дзвюх частак. Першая прысвячалася членам-карэспандэнтам Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. У экспазіцыі — рукапісная архіўная спадчына, рэдкія фотаздымкі беларускіх вучоных і пісьменнікаў, разнастайныя матэрыялы, аўтарскія пасведчанні аб вынаходніцтвах, газетныя артыкулы, граматы, дыпломы… Дарэчы, многія дакументы дэманстраваліся наведвальнікам упершыню.

Другая частка выстаўкі — кніжная экспазіцыя выданняў XV — XX стагоддзяў рэлігійнага, юрыдычнага, гістарычнага і мастацкага зместу з раздзеламі "Заходнееўрапейская і беларуская кніга XV — XIX стст.", "Кірылічная кніга XVI — XIX стст.", "Руская кніга XVIII — XX стст.", "Мастацтва кнігі XIX — XX стст.".

Віктар КАВАЛЁЎ

## Памяць



18 лютага 1945 года войскі 3-га Беларускага фронту акружылі горад і крэпасць Кенігсберг. У гэты ж дзень загінуў камандуючы фронтам генерал арміі Іван Чарняхоўскі. Некалькі тыдняў артылерыя абстрэльвала варожую групоўку снарадамі з надпісамі "За Чарняхоўскага!".

# Герой, чалавек-легенда

Яму было толькі трыццаць дзевяць гадоў (самы малады генерал арміі), як выпадковы асколак нечакана абарваў жыццё. Усяго тыдзень Іван Данілавіч не дажыў да звання маршала, якое яму збіралася прысвоіць 23 лютага.

Роўна праз 65 гадоў пасля гібелі легендарнага камандуючага ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны прайшла акцыя Федэральнага агенцтва "Расупрацоўніцтва" — "Праўда вайны ў дакументах".

З уступным словам да гасцей і ўдзельнікаў акцыі звярнуўся намеснік дырэктара музея Вячаслаў Казачонак. Загадчыца аддзела ваеннафрантавой гісторыі музея Святлана Язерская праканцэнтравала экспрэс-выстаўку, прысвечаную 65-годдзю з дня гібелі Івана Чарняхоўскага. Перад вучнямі мінскай гімназіі № 11, якая носіць імя І. Чарняхоўскага, выступілі ветэраны Вялікай Айчыннай вайны Барыс Бокаў, Валерый Бярдзееў і Міхаіл Жукоўскі, якія распавялі пра тое, якім чалавекам і камандуючым быў Іван Чарняхоўскі.

Саветнік Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь, прадстаўнік "Расупрацоўніцтва" Аляксандр Фёдараў перадаў у дар музею кнігі, якія аб'ектыўна паказваюць падзеі Другой сусветнай вайны.

Анатоль КУДЛАСЕВІЧ

На здымку: падчас сустрэчы ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны з вучнямі мінскай гімназіі № 11 імя І. Чарняхоўскага.

Фота Кастуся Дробава

## Хойнікі-2010

# Акцыя запланавана

У Саюз пісьменнікаў Беларусі звярнулася кіраўніцтва Хойніцкага райвыканкама з просьбай падараваць раённаму краязнаўчаму музею кнігі беларускіх пісьменнікаў з дарчымі аўтарскімі надпісамі.

Зыходзячы з таго, што ў верасні сёлетняга года менавіта ў Хойніках будуць праводзіцца цэнтральныя мерапрыемствы Дня беларускага пісьменства, а раённы краязнаўчы музей у сувязі з гэтым будзе перанесены ў будынак сядзібна-паркавага комплексу канца XIX — XX стст., Саюз пісьменнікаў Беларусі разглядае вышэйзгаданы зварот падставай для арганізацыі святочнай дабрачыннай акцыі і паведамляе, што кнігі з аўтографамі іх аўтараў будуць прымацца ў Доме літаратара (Мінск, вул. Фрунзе, 5), у прыёмнай СПБ.

Ул. інф.

## Літ-абсягі

У Лідзе выйшаў першы ў гісторыі навучальны дапаможнік па стэнаграфіі на беларускай мове. Айчынная сістэма стэнаграфіі дазваляе дасягаць тых жа паказчыкаў хуткасці і чытэльнасці, як і руская. Але ж у кожным канкрэтным выпадку гэтыя паказчыкі залежаць выключна ад дасведу і навыкаў канкрэтнага стэнаграфіста.




# Першы, айчынны

Хуткасць — неабходная якасць добрага пісара. Пра гэта гаворыцца і ў шумерскай прымаўцы: "Толькі той сапраўдны пісар, чыя рука не адстае ад вуснаў". Стэнаграфія (грэч. stenos — вузкі, цесны і grapho — пішу) — гэта хуткаснае пісьмо (пераўзыходзіць хуткасць звычайнага ў 4 — 7 разоў), заснаванае на выкарыстанні спецыяльных сістэм знакаў і скарачэнняў слоў, што дазваляе весці сінхронны запіс жывой мовы. Дарэчы, у старажытным Егіпце было заўважана: час, які ідзе на стварэнне іерогліфа, значна большы, чым той, што ідзе на вымаўленне слова. Таму яшчэ ў Егіпце пачалі выкарыстоўваць спрошчаныя іерогліфы, каб наблізіць тэмп пісьма да хуткасці маўлення. Далейшае развіццё хуткапісу адбываецца ў Грэцыі і Рыме. Аўтарам старажытнага рымскага хуткаснага пісьма лічыцца Цірон. Лацінскі хуткапіс так і завўся — "цыронавы ноты". Сам тэрмін "стэнаграфія" ўведзены ў Англіі ў 1602 годзе Дж. Уілісам.

У ланцужок разваг і гістарычных фактаў, якія датычаць развіцця стэнаграфіі, нядаўна дадалося яшчэ адно звяно: у Беларусі пабачыў свет вучэбны дапаможнік "Стэнаграфія". Неабходнасць і актуальнасць такога выдання відавочная, паколькі без беларускай сістэмы стэнаграфіі айчынная лінгвістычная сістэма была няпоўная.

Аўтар дапаможніка — выкладчык Лідскага каледжа Станіслаў Суднік — заснаваўся на добра распрацаванай і эфектыўнай сістэме М. Сакалова, якая ляжала ў аснове адзінай сістэмы стэнаграфіі СССР і знаходзіцца ў аснове рускамоўнай стэнаграфіі Беларусі.

У ходзе працы над дапаможнікам былі прааналізаваныя Адзіная сістэма стэнаграфіі СССР, адна з сістэм стэнаграфіі Расіі, сістэма стэнаграфіі Польшчы. Таксама быў зроблены запыт у Акадэмію навук Украіны, адкуль прыйшоў адказ, што ўкраінскай сістэмы стэнаграфіі не існуе.

Падчас працы рэалізоўваліся два асноўныя прынцыпы: як мага больш ашчадна падысці да сістэмы Сакалова і як мага больш поўна ўлічыць асаблівасці беларускай лінгвістычнай сістэмы. Распрацаваную сістэму — вынік кампрамісу паміж гэтымі двума прынцыпамі — Станіслаў Суднік выкладаў на працягу апошніх чатырох гадоў у Лідскім педагагічным каледжы.

У раздзел "Тэксты для стэнаграфавання" аўтар уключыў урыўкі з твораў Уладзіміра Караткевіча, Васіля Быкава, Віктара Казько, Адама Мальдзіса, Кастуся Тарасава, Івана Чыгрынава, Янкі Сіпакова.

Віктар КАВАЛЁЎ

## Арт-лінія

# Святло Лявона Баразны

**Святло і моц душы рупліўца беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння 1960-х, мастака-патрыёта з душою падзвіжніка і вандроўцы; даследчыка і асветніка, надзеленага універсальным творчым талентам, адчуе кожны неабыякавы чалавек, які завітае на выстаўку "Лявон Баразна. Спадчына". Яна працуе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі да 8 красавіка.**

Яго імя, яго творчы свет многія нашы сучаснікі, нават людзі даволі сталыя, успрымаюць як адкрыццё. Але нямала сярод нас і тых, каму пашчасціла спрычыніцца да гэтай магутнай і светлай асобы. Калегі ды колішнія студэнты Лявона Баразны, родзічы і сябры, якія сабраліся на вернісажы, прымеркаваным да 80-годдзя з дня яго нараджэння, сваімі жывымі, назіральнымі згадкамі нібы ўзнаўлялі яскравую постаць майстра. Параўноўвалі яго дзейнасць са справамі вялікага папярэдніка — Язэпа Драздовіча, называлі смелым бескампраміснасным першапраходцам на няпростым шляху вяртання беларусаў да сябе, да сваёй існай, старажытнай, багатай і высакароднай культуры.

Лявон Баразна скончыў Мінскае мастацкае вучылішча; мастацка-прамысловы факультэт, аддзяленне ткацтва, Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (дыпломная работа —габелен "Мінск"). З 1957 года ўдзельнічаў у мастацкіх выстаўках. Быў галоўным мастаком Мастацкага фонду БССР, і ў тыя гады савецкай рэальнасці, калі беларуская мова "замінала будаўніцтву камуністычнага грамадства", не цураўся яе, роднай, у афіцыйным асяроддзі. А вывучаючы наш нацыянальны касцюм (потым гэтую справу годна працягваў незабыўны Міхась Раманюк), "перабуў" беларусаў з лапцей у аўтэнтычныя чаравікі ды боты...

"Ён з'яўляецца адным са стваральнікаў нацыянальнай тэматыкі ў беларускім мастацтве 1960-х, адным з заснавальнікаў сучаснай беларускай сцэнаграфіі і стваральнікам каларыстычнага беларускага сцэнічнага касцюма. Ён першы з беларускіх мастакоў пачаў занатоўваць узоры ткацтва з нацыянальнай арнаментыкай, складаючы і сістэматызуючы рэгіянальныя асаблівасці строяў. Ён змагаўся за ратаванне старога горада ад разбурэння, за падтрымку роднай мовы", — так характарызуе Л. Баразну мастацтвазнаўца Людміла Налівайка.

Выстаўка не ўражвае маштабамі. Яна ўзрушвае змястоўнасцю. Аркушы з альбома "Беларускія народныя арнаменты Палесся" да тонкасцяў захавалі непаўторныя ўзоры, перамаляваныя з вышываных наплечнікаў, каўняроў, манжэтаў і рукавоў сарочак, тасёмак, фартушкоў, ручнікоў: фотаапарата з каляровай плёнкай не было, мастак фіксаваў свае знаходкі на паперы-міліметроўцы акварэльнымі фарбамі, тушшу, гуашшу, пазначаючы імя і месца жыхарства ўладальніцы кожнай аўтэнтычнай рэчы. Мініяцюрныя эцюды люструюць не столькі гожыя куткі наваколля, колькі стан замілаванай мастакоўскай душы. Аўтапартрэты розных гадоў, твар маці, партрэт падлетка выяўляюць адметны дар Л. Баразны ў гэтым найскладаным жанры...

Зямны шлях Лявона Баразны абарваўся ўлетку 1972-га: мастак трагічна загінуў, не дажыўшы і да сваіх 44-х гадоў. Ён не забыты. Але для годнага ўшанавання імя Лявона Баразны добрых успамінаў пра яго, твораў з пастаянных экспазіцый у НММ Беларусі ды на роднай Талачыншчыне, у раённым гісторыка-краязнаўчым музеі, мала: усведамляючы гэта, яго паслядоўнікі, пераемнікі заклапочаныя тым, каб знайсці, сабраць, захаваць усю ацалелую мастацкую спадчыну таленавітага творцы і да наступнага юбілею зрабіць найбольш поўную выстаўку яго работ.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ



На здымку: Лявон Баразна "Раніца" (кардон, алей), 1971 год.

Фота Віктара Кавалёва

## Повязі

# Сяброўства літаратур — сяброўства народаў

Гэта засведчылі ўдзельнікі міжнароднага "круглага стала", які праходзіў пад назвай "Мастацкае слова — шлях да ўзаемаразумення" ў межах XVII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.

Беларускія пісьменнікі і кнігавыдаўцы сур'ёзна зацікаўлены сучаснымі літаратурамі іншых краін. Пра гэта сведчаць праекты выдавецтва "Літаратура і Мастацтва", у якіх прымаюць удзел пісьменнікі з Расіі, Украіны, Польшчы, Літвы, Сербіі, Чарнагорыі, Казахстана, Таджыкістана. Выдаюцца кнігі з серыі "Бібліятэка сусветнай літаратуры", пастаянна на старонках часопісаў "Полымя", "Нёман", газеты "Літаратура і мастацтва" з'яўляюцца пераклады, пашыраюцца творчыя кантакты з іншымі краінамі, — канстатаваў дырэктар РВУ "Літаратура і Мастацтва" Алесь Карлюкевіч.

Галоўны сродак узаемаўзбагачэння літаратур — пераклад твораў. Сёння імі займаюцца такія літаратары, як Мікола Мятліцкі, Іван Чарота, Юрый Сапажкоў, Казімір Камейша, Анатоль Зэкаў ды іншыя.

"У гісторыі літаратуры пераклад займае вельмі значнае месца. Праз пераклад да народаў прыходзяць новыя мастацкія ідэі, новыя творчыя думкі. Такім чынам людзі імкнуцца да збліжэння, узаемапазнання і ўзаемаразумення. Калі ўлічваць мінулыя гады, то тыя творчыя сувязі, якія мы маем цяпер, — сапраўдны літаратурны прарыў. Гэта



тое кола, з якога беларуская літаратура выходзіць на сусвет, і праз якое сусвет прыходзіць да нас", — упэўнены доктар філалагічных навук, прафесар, літаратуразнаўца і перакладчык Іван Чарота.

Галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" Раіса Баравікова папярэдзіла, што не павінна паўтарыцца сітуацыя з перакладам, нібыта мы апынуліся пасля катастрофы...

Перакладчыца і пастаянны аўтар часопіса "Нёман" Алена Чыжэўская адзначыла, што сёння кнігарні прапануюць прадукцыю не самай лепшай якасці. Чытачу прапануюцца кнігі для цікаўнасці і забавы, а вось для душы і сэрца — зусім няшмат. Запатрабаваныя ў асноўным дэтэктывы, кнігі для вольнага часу, фантастычная літаратура... Вось у гэтым стане пэўнай "беднаватасці" асабліва значэнне набываюць пераклады, якія ўзаемаўзбагачаюць сучасную літаратуру.

Галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Мікола Мятліцкі зазначыў: "Ніводнае беларускае выданне не павінна замыкацца толькі на сваім, нацыянальным. Літаратуры павінны сябраваць, а творы — перакладацца на розныя мовы. Так заўсёды адбываецца на старонках часопіса "Полымя". Нягледзячы на ўсе цяжкасці мая любоў да перакладаў нікoлі не знікне".

Вядомы таджыкскі пісьменнік Ато Хамдам падкрэсліў: "Агульнавядома, што ў аснове ўсіх поспехаў у галіне навукі і культуры, творчага ўздыму народа ляжыць кніга. І калі ёй надаецца добрая ўвага, кніга дае значны штуршок да прагрэсу. Я ўжо пяты раз наведваю Мінскую кніжную выставу. Кожны раз усё больш і больш пераконваюся, што сяброўства паміж нашымі краінамі мацнее. Гэты "круглы стол" павінен стаць прарывам да распрацоўкі творчых планаў на бліжэйшыя часы. Як мы будзем працаваць далей, залежыць толькі ад нас, ад нашага ўзаемаразумення і ўзаемападтрымкі. Я вельмі рады сяброўству нашых літаратур".

На "круглым стале" адбылася прэзентацыя кнігі Мішэля Дэона "Вышэйшае кола" з серыі "Бібліятэка сусветнай літаратуры", а таксама кніг Юрыя Сапажкова і Міколы Мятліцкага на таджыкскай мове.

Уладзімір ПАДАЛЯК

На здымку: сваімі развагамі дзеліцца Іван Чарота.

Фота Кастуся Дробава

## 3-пад пяра

Сустрэчу з паэтам Уладзіславам Шышыгіным арганізавала Ніна Шклярава, кіраўнік гомельскай школы маладога літаратара, дзе створаны гурток "Малады літаратар". Менавіта гуртκоўцы і былі ўдзячнымі слухачамі на гэтай паэтычнай вечарыне. Уладзіслаў выдаў тры зборнікі паэзіі. Першы — з назвай "Посторонний" — выйшаў у свет у 2002 годзе, другі зборнік "Звезда" выйшаў у 2005-м. Наступную кнігу ён назваў "Небесные струны". На вечары Уладзіслаў Шышыгін прачытаў вершы з апошняга зборніка, у адказ гуртκоўцы прачыталі свае паэтычныя творы і нават апавяданні, навелы і эсэ. Некаторыя творы гуртκоўцаў ужо друкаваліся ў "ЛіМе" — вершы Уладзіміра Чараўхіна, Дар'і Дарожкі, Алеся Бараноўскага. Цікавым было выступленне Яўгена Малевіча, які піша алегарычныя прыгодніцкія навелы на рускай мове. Таццяна Нілава прачытала некалькі твораў са сваёй першай кнігі "Готыка тонкіх падманаў".

Ала ДАДАШЭНКА

Плённай працай, цікавымі творчымі задумамі вызначаецца дзейнасць літаратурна-паэтычнага клуба "Вытокі", які быў створаны дванаццаць гадоў таму пры Дзяржынскай цэнтральнай раённай бібліятэцы. Нядаўна адбылося чарговае пасяджэнне аматараў паэзіі, якое праходзіла пад дэвізам "Слова Купалы да творчасці кліча". Адкрыла яго кіраўнік клуба Ірына Міхалёва. Затым дырэктар Дзяржынскай раённай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Валянціна Клімовіч падзялілася з прысутнымі творчымі планамі бібліятэкі і клуба на будучыню. Яна паведаміла, што ў першай дэкадзе планууецца правесці фестываль-конкурс, які вылучыць лепшых паэтаў для ўдзелу ў Мінскім абласным конкурсе. Бібліятэка, сумесна з рэдакцыяй раённай газеты "Сцяг Кастрычніка", таксама абвесціць літаратурна-творчы конкурс, прысвечаны 65-годдзю Перамогі пад назвай "Сэрцам да подзвіга дакраніся". Затым былі прадстаўлены словы паэтам "Вытокаў": свае новыя вершы прачыталі Аксана Хацкевіч, Галіна Казак, Сяргей Ліхачоў, Валянціна Сінявокая, Любоў Куртава, Алена Савіцкая ды іншыя.

Лявон ЦЕЛЕШ

Нядаўна споўнілася 21-я гадавіна вываду савецкіх войскаў з Афганістана. Тая вайна стала сапраўдным сімвалам пакалення 70 — 80 гадоў мінулага стагоддзя. Сваточная атмасфера панавала ў сценах Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфармацый і радыёэлектронікі. Прайшла выстава стралковай зброі, гучала музыка... Воінь-інтэрнацыяналісты ўжо даўно сталі для нас прыкладам ваенна-патрыятычнага выхавання моладзі. Іх вершы і песні з захапленнем слухаюць прадстаўнікі новага пакалення. Так было і гэтым разам. У перапоўненай актавай зале другога вучэбнага корпуса былі выкладчыкі БДУІР, прадстаўнікі Савета ветэранаў ВНУ, госці з адміністрацыі Савецкага раёна сталіцы... Прагучалі вершы на ваенную тэматыку, выступілі ўдзельнікі папулярнага гурта "Саланг".

Уладзімір СТАРАСЦЕНКА

"Халодная зброя. Традыцыі і сучаснасць" — выстаўка пад такой назвай працуе ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Дэманструецца больш як сто экспанатаў. Частку ўзораў гістарычнай халоднай зброі прадставіў сам музей са сваёй калекцыі. Ёсць і паляўнічая, турыстычная зброя, а таксама унікальныя аўтарскія клінкі з Дагестана. Экспанаты былі выраблены ў прамежку ад канца XIX стагоддзя да сярэдзіны XX. Гэта зброя расійская, японская і заходнееўрапейская вытворчасці. Дарэчы, як паведамілі ў музеі, некаторыя экспанаты маюцца ў Беларусі ў адзіным экземпляры, таму ўбачыць іх можна толькі тут.

Бажэна СТРОК

# Архівы пісьменніцкай душы

**Славамір Антановіч больш як палову жыцця прысвяціў праўдзіваму паказу мінуўшчыны. Яго раманы “Пётр Машеров”, “Призраки Можейковской крепости”, “В августе 91-го”, дакументальныя кнігі “Приговорённые к расстрелу”, “Жизнь вне закона”, “Ушедшие в бессмертие” сведчаць пра тое, што дакументалістыка — гэта не нудны пераказ фактаў з архіва, а сапраўднае мастацтва. Згадзіцеся, трэба быць проста майстрам, каб спалучыць у творы нявыдуманую рэальнасць, ад якой нельга ні на крок адступіць, і мастацкую выразнасць!**



Магчыма, такая багатая біяграфія Антановіча паўплывала на яго выбар тэм і аўтарскі стыль: спецкарэспандэнт газеты “Мінская праўда”, саветнік старшыні Вярхоўнага Суда, галоўны саветнік сакратарыята прэм’ер-міністра, загадчык аддзела Генеральнай пракуратуры, заслужаны журналіст Беларускага саюза журналістаў, член Саюза пісьменнікаў Беларусі... Вось тут, вядома, і хаваецца схільнасць да амаль матэматычнай дакладнасці, выверанасці фактаў чалавека, які займае кіруючыя пасады, і журналісцкая, пісьменніцкая вобразнасць!

Неафіцыйная атмасфера творчага вечара пісьменніка ў рэспубліканскім Доме журналіста дазволіла гасцям звяртаць увагу не толькі на высокія пасады і ўзнагароды Славаміра Валяр’янавіча, але і на яго асабістыя якасці. Так, напрыклад, адзначалася, што пісьменнік садзейнічаў наданню адной з сярэдніх школ Мінска імя Пятра Машэрава.

І так нязвыкла было чуць шчырыя, жартаўлівыя словы віншавання ад такіх звычайна сур’ёзных, разважлівых людзей, як суддзя Канстытуцыйнага суда В. Варановіч, першы намеснік старшыні БСЖ Р. Сакалоўскі, першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Г. Пашкоў.

Вядома ж, добраму настрою паспрыяла і цудоўная канцэртная праграма. Вядучы Андрэй Скарынкін не толькі выконваў сваю непасрэдную ролю, але і спяваў. Цудоўнымі танцамі і песнямі забаўлялі гасцей Юліяна Марозава, Наста Арцем’ева, Вераніка Сакалоўская. А вядомы кампазітар Алег Чыркун нават выканаў новы раманс...

Напэўна, зусім няважна, якую пасаду займае чалавек, колькі ў яго ўзнагарод, у колькіх тысячах кніг і архіваў будзе ўпісана яго імя. Галоўнае, чаго чалавек варты менавіта на тым месцы, дзе знаходзіцца, якой інфармацыяй і якасцямі напоўнены яго ўласныя архівы душы...

Надзея ПЯКАРСКАЯ

На здымку: Славамір Антановіч.

Фота аўтара

# Кніга — на адной кружэлцы



**“Электронная кніга — кніга дня сённяшняга і будучага” — такую назву меў “круглы стол”, арганізаваны падчас работы XVII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Яго арганізатары — Міністэрства інфармацыі краіны і Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Прадметам абмеркавання стала кніга на CD-дысках.**

Бібліятэкары, выдаўцы, кнігараспаўсюджвальнікі абменьваліся карысным досведам у адносна новай для Беларусі дзейнасці па выданні, распаўсюджванні і спажыванні электроннай кнігі, таксама дакументаў і матэрыялаў з электронных баз даных.

Як зазначыла намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Людміла Кірухіна, агульны фонд публічных бібліятэк краіны сёння складае каля 58 мільёнаў экземпляраў. І толькі каля 33 тысяч у ім (кропля ў моры!) — электронныя выданні. Хаця, пры добрых абставінах, такіх кніг павінна было быць каля 30 працэнтаў. Новымі інфармацыйнымі тэхналогіямі актыўна карыстаецца наш сучаснік, які без наяўнасці Інтэрнэта сябе ўжо не ўяўляе. Магчымасці доступу да фондаў літаральна ўсяго свету і пошуку матэрыялаў уражваюць магчымасцю далучэння да сусветнай культуры. Пры выкарыстанні электронных кніг узнікае шмат іншых праблем: тэхнічнага аснашчэння і мадэрнізацыі бібліятэк, магчымасцяў карыстання і ведання камп’ютэрных праграм. Узнікаюць пытанні, як захоўваць у скарбніцы такія кнігі, як сістэматызаваць іх і весці ўлік, як выдаваць чытачу і правяраць дыск пасля карыстання? Бясспрэчна: электронная кніга прадстаўляе дадатковыя ў параўнанні з кнігай на традыцыйных папяровых носьбітах магчымасці “прачытання”.

Аляксандр Нячай, дырэктар выдавецтва “Вышэйшая школа”, дзе актыўна вядзецца праца па стварэнні электронных кніг, пераважна для навучальных устаноў краіны, падкрэсліў: пакуль што электронны падручнік як самастойны сродак навучання не разглядаецца, CD-дыск дадаецца да асноўнай кнігі, і ў ім зазвычай змешчаныя ілюстрацыі альбо тэставыя заданні па тэме, лабараторныя працы. Нягледзячы на сваю падрыхтаванасць, выдавецтва актыўна пачало выпускаць такія кнігі толькі летась накладам 200-300 асобнікаў. Але напрацовак багата. Да прыкладу, дапаможнік “Традыцыйная мастацкая культура Беларусі” мае электронны дадатак, які можна глядзець на маніторы камп’ютэра і слухаць: гэта аўтэнтычныя песні альбо абрады, якія існавалі на нашай зямлі, з мясцовымі гаворкамі і інш. Такім чынам на CD-дыску ўтрымліваецца унікальны ілюстрацыйны матэрыял! На сёння немагчыма ўжо вывучаць замежныя мовы, не паслухаўшы, як прамаўляюцца тыя альбо іншыя словы. Таму нават падручнікі па замежных мовах для сярэдняй школы маюць электронны дадатак. Для заняткаў па мастацтве магчыма больш поўна паказваць карціны, размясціўшы іх на CD-кружэлцы, і такім чынам не рабіць дарагой (з-за каляровых ілюстрацый) асноўную папяровую кнігу.

Звярталі выступоўцы ўвагу і на іншыя перавагі. Да прыкладу, праз стварэнні электронных версіі можна далучыцца да некаторых старажытных фаліянтаў. Шмат вывезеных культурных каштоўнасцей таксама вяртаецца да нас выключна ў электронным выглядзе. Шмат новых магчымасцей узнікае па вывучэнні краязнаўчых матэрыялаў. Да прыкладу, Віцебская абласная бібліятэка імя У. І. Леніна сабрала адзіную ў рэгіёне электронную калекцыю з больш як 300 рэдкімі паўнатэкставымі дакументамі па гісторыі Віцебскай губерні. Існуе адпаведны праект “Віцебшчына — дакументная спадчына”. Збіраюцца матэрыялы па тэме “Памяць Віцебшчыны”, ды іншыя.

Але спецыялісты прызнаюцца: нават цяпер яшчэ дакладна невядома, колькі электронных кніг у Беларусі ёсць, што бібліятэкі могуць заказаць для сябе. Неабходна адпаведная нарматыўна-прававая база, у тым ліку і пра абавязковы экземпляр такіх незвычайных кніг.

Ірына ТУЛУПАВА

На здымку: дырэктар выдавецтва “Вышэйшая школа” Аляксандр Нячай.

Фота Кастуся Дробава

## Міхаіл Велер:

# «Калі хочаш насмяшыць Бога, раскажы пра свае планы»

**У XVII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы ўдзельнічаў вядомы расійскі пісьменнік.**



Падчас знаходжання ў Мінску Міхаіл Велер правёў шмат творчых сустрэч з чытачамі, студэнтамі БДУ, з яго ўдзелам адбыліся прэзентацыі кніг і прэс-канферэнцыі.

Сустракалі Велера апладысментамі і нават авацыямі. Каб трапіць на сустрэчу з аўтарам знакамітых бестселераў, трэба было паводзіць сябе па-сапраўднаму нахабна, распіхваючы і праціскаючыся паміж спінамі шматлікіх аматараў яго творчасці, якія прыходзіла амаль што па сто чалавек. А новую кнігу “Легенды Арбата” мінскія чытачы на выстаўцы раскупілі імгненна.

Міхаіл Велер — адзін з самых вядомых і любімых сучасных расійскіх пісьменнікаў. Тэарэтык літаратуры, арыгінальны філосаф, аўтар глыбокай публіцыстычнай прозы за сваё жыццё змяніў каля 30 прафесій. Ён працаваў лесарубам, паляўнічым-прамысловіком, пагоншчыкам жывёлы, журналістам, настаўнікам… Яго пяру належаць такія папулярныя кнігі, як “Легенды Невского проспекта”, “Всё о жизни”, “Приключения майора Звягина”, “Ножик Серёжи Довлатова”, “Великий последний шанс” ды шмат чаго іншага. Кнігі Міхаіла Велера на працягу доўгага часу выдаюцца велізарнымі па сённяшнім часе тыражамі, у агуле ён складае больш як 10 мільёнаў экземпляраў!

На сустрэчах з чытачамі пісьменнік паводзіў сябе як цікавы філосаф, выдатны гісторык і адметны гумарыст. Аматары яго творчасці пыталіся ў Міхаіла Велера пра сэнс жыцця, існаванне Бога, палітыку і эканоміку.

На пытанне, над якой кнігай ён зараз працуе, пісьменнік адназначыў: “Я заўсёды прытрымліваюся выдатнай прымаўкі: калі хочаш насмяшыць Бога, раскажы пра свае планы. Ці, як кажуць, не кажы “гоп”, пакуль не пераскочыш… Калі кніга, над якой я зараз працую, будзе цалкам зроблена, калі ўжо будзе вывозіцца са складаў у магазіны, — я ахвотна раскажу пра гэты твор”.

Уладзімір ПАДАЛЯК

На здымку: Міхаіл Велер.

## Віншуем

З 75-годдзем Барадуліна Рыгора Іванавіча, беларускага паэта, перакладчыка, эсэіста, народнага паэта Беларусі.

З 60-годдзем Трахімёнка Сяргея Аляксандравіча, беларускага пісьменніка і юрыста.

З 50-годдзем Канапельку Алу Іванаўну, беларускую паэтэсу.

З 60-годдзем Гурскую Алену Сяргееўну, беларускага літаратуразнаўца і крытыка.

## Юбілейны каляндар

120 гадоў Сваяку Казіміру (сапр. Стаповіч Канстанцін Мацвеевіч), беларускаму паэту, драматургу, публіцысту, беларускаму каталіцкаму святару.

90 гадоў Прыходзьку Пятру Фёдаравічу, беларускаму паэту і перакладчыку.

90 гадоў Коршаку Аляксею Ігнатавічу, беларускаму паэту.

85 гадоў Навуменку Івану Якаўлевічу, беларускаму празаіку, літаратуразнаўцу, заслужанаму дзеячу навукі Рэспублікі Беларусь, народнаму пісьменніку Беларусі.

80 гадоў Тарасу Валянціну Яфімавічу, беларускаму перакладчыку, паэту, празаіку.

75 гадоў Кусянкову Міколу Сяргеевічу, беларускаму паэту, празаіку.

## Конкурсы

# У галаве — французскія словы

Сёлетняя XVII Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш была ахутана рамантычным флёрам французскай культуры. Анонсы абяцалі, што завершыцца мерапрыемства ўзнагароджваннем маладога беларускага франкафона — пераможцу конкурсу на лепшае апавяданне на тэму “Словы ў галаве”, абвешчанага Пасольствам Францыі. У выніку падарункі ад краіны, дзе нарадзіўся верлібр, атрымалі чатыры лаўрэаты.

Вядучы цырымоніі, аташэ па пытаннях французскай мовы Пасольства Францыі ў Беларусі Бертран Ларвор распавёў, што першапачаткова планавалася ўручыць па два прызы за першае і другое месцы — у школьнай і студэнцкай катэгорыях. Але тэксты школьнікаў не адпавядалі патрабаванням конкурсу, таму было адзначана толькі апавяданне вучаніцы Паліны Федзюковіч, а астатнія ўзнагароды атрымалі студэнткі — Дар’я Баларчанка і Аляксандра Паўлава з Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта, а таксама Алеся Бірыла з БДУ. Падарункі беларускім франкафонам уручала французская дзіцячая пісьменніца Ан-Мары Поль.

Пасля ўзнагароджвання адна з лаўрэатак, студэнтка французскага факультэта МДЛУ Аляксандра Паўлава, дэманструе мне свае важкія падарункі — французскі слоўнік, “Казкі дня і ночы” Гі дэ Мапасана ды іншыя кніжкі: “Апавяданне, якое я даслала на конкурс, гэта “меланж”, — Аляксандра арыстакратычна ўплятае ў маўленне французскія словы, — сумесь паэзіі і прозы. Яно пра паэта, у якога словы ў галаве круцяцца, утвараючы рыфму, і гэтая рыфма пераліваецца ў вершы”.

Саша ДОРСКАЯ

# Найлепшы сродак паразумення

**При канцы мінулага года на пасаду намесніка міністра культуры Беларусі прызначаны Тадэуш СТРУЖЭЦКІ. У сферу службовых абавязкаў Тадэуша Іванавіча ўлучаецца дзейнасць музеяў, бібліятэк, клубаў і іншых устаноў культуры, народнай творчасці, навучальных устаноў культуры і мастацтва. Пра гэтыя галіны культурнага і шмат што іншае і распавядзе чытачам сённяшні госць "ЛіМа" — Тадэуш Стружэцкі.**



— Вы амаль усё жыццё прысвяцілі рабоце ў галіне культуры: працавалі ў міністэрстве начальнікам упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці, потым — саветнікам па пытаннях культуры Пасольства Беларусі ў Польшчы, цяпер займаеце пасаду намесніка міністра культуры. На вашу думку, ці вырашыліся пытанні, якія паўставалі перад міністэрствам на той час, што змянілася ў лепшы бок, ці наадварот, з'явіліся новыя праблемы?

— Безумоўна, гэтыя гады былі вельмі актыўныя для развіцця сферы культуры ў нашай краіне. Па-першае, сфарміравана паўнавартасная заканадаўчая, нарматыўная база, якая рэгламентуе дзейнасць устаноў культуры і ў цэлым сферу культуры. Па-другое, значна палепшылася матэрыяльна-тэхнічная база ўстаноў культуры, пашырылася і ўзбагацілася зместам іх дзейнасць, назапашаны вельмі цікавы вопыт. І, можа, самае галоўнае, — кадравы склад у сферы культуры таксама вырас за кошт папаўнення спецыялістамі з вышэйшай, сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. Сёння каля 90 працэнтаў работнікаў культуры маюць вышэйшую і сярэднюю спецыяльную адукацыю. За апошнія гады ў рэспубліцы сфарміравана паўнавартасная сістэма падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі спецыялістаў амаль па ўсіх запатрабаваных спецыяльнасцях і спецыялізацыях для ўстаноў культуры і мастацтва. Таму змены бачныя. Можа, менш бачныя тым, хто штодзённа працуе на ніве культуры, у адрозненне ад тых, хто сыходзіў і зноўку сюды вярнуўся, як адбылося ў маім выпадку.

Сфера культуры развівалася дынамічна разам з развіццём дзяржавы. Бо культура была, а тым больш сёння застаецца вельмі важным складнікам жыцця нашага грамадства. Яна павінна быць стратэгічным рэсурсам дзяржавы, які ўплывае на ўсе сферы жыцця і дзейнасці грамадства, а інвестыцыі ў культуру неабходна разглядаць як найбольш важныя і перспектыўныя ўкладанні ў яго будучыню.

— Падчас вашай працы ў Пасольстве ў Польшчы адкрылі Культурны цэнтр Беларусі. У нас шмат год дзейнічае Польскі інстытут у Мінску: ладзіць разнастайныя выстаўкі, музычныя імпрэзы, вечарыны. Дарэчы, польскіх інстытутаў па свеце каля двух дзесяткаў. Можа, трэба пераймаць у нечым вопыт суседзяў?

— Дакладней сказаць, мы, маю на ўвазе Пасольства Беларусі ў Польшчы, як асноўныя ініцыятары і арганізатары гэтага цэнтра, фарміравалі той першы вопыт, які сёння пачынае шырока развівацца. Таму пры пачатку арганізацыі дзейнасці Культурнага цэнтра Беларусі ў Польшчы мы імкнуліся максімальна выкарыстаць тыя магчымасці і дасягненні культуры і мастацтва, якія мае наша краіна. Гэта прыцягненне да выступленняў, гастрольных паездак нашых лепшых прафесійных і аматарскіх калектываў, запрашэнне вядомых дзеячаў культуры, арганізацыя выставак нашых вядомых мастакоў і выставак з фондаў дзяржаўных музеяў Беларусі, прэзентацыі кніг і літаратурныя сустрэчы, правядзенне разнастайных сумесных мерапрыемстваў. Геаграфія гэтых мерапрыемстваў ахоплівала не толькі Варшаву, Беласток, Гайнаўку, Гданьск, дзе кампактна пражываюць прадстаўнікі беларускай меншасці, але і шматлікія іншыя гарады і рэгіёны Польшчы.

Зразумела, што гэты культурны цэнтр будзе не апошнім: у перспектыве падобныя цэнтры будуць ствараццa і ў іншых краінах, таму што адным з важных кірункаў дзейнасці міністэрства, дзяржаўных органаў з'яўляецца актыўнае выкарыстанне сродкаў культуры для фарміравання пазітыўнага іміджу Беларусі ў свеце. Вопыт стварэння нашага першага цэнтра за мяжой вельмі важны. Мы ўжо маем прыклад пачатку дзейнасці культурна-адукацыйнага цэнтра ва Украіне, а ў перспектыве такія асяродкі беларускай культуры плануецца стварыць у Літве, Латвіі, Расіі і іншых краінах.

— Тадэуш Іванавіч, вы, так бы мовіць, чалавек у міністэрстве не чужы, мабыць, хутка ўвайшлі ў варунак міністэрскіх спраў і ўжо вызначыліся з прыярытэтнымі кірункамі сваёй працы?

— Безумоўна, хоць знаходзіўся чатыры гады ў Польшчы, але цесныя сувязі з Міністэрствам культуры не перарываліся, і многія мерапрыемствы пасольства ладзіла пры падтрымцы міністэрства, пры актыўным супрацоўніцтве з рознымі дзяржаўнымі і грамадскімі арганізацыямі Беларусі. Трэба нагадаць, што, напэўна, такога актыўнага перыяду прэзентацыі беларускай культуры ў Польшчы не было ніколі, бо за апошнія 4 гады штогод праводзілася больш як 100 разнастайных культурных мерапрыемстваў у розных рэгіёнах Польшчы, у фестывалях і конкурсах, святах прымалі ўдзел або выступалі з канцэртамі да 120 лепшых творчых калектываў з Беларусі.

Працуючы ў пасольстве, я выдатна ведаў, што робіцца на радзіме, таму пры вяртанні не было ніякіх праблем, каб актыўна ўключыцца ў рабочую дзейнасць, якой цяпер займаюся.

Калі ў цэлым гаварыць пра сённяшнія прыярытэты ў сферы культуры, то трэба было б назваць цэлы шэраг — пачынаючы ад актывізацыі дзейнасці па захаванні і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры да шырокай камп'ютэрызацыі і ўкаранення сучасных тэхналогій у сферы культуры. Дазволю сабе вызначыць толькі некаторыя з іх.

Мы маем вельмі разнастайную, багатую традыцыйную культуру і аматарскую мастацкую творчасць, якой, напэўна, не маюць ужо многія краіны свету. Трэба захаваць вядучыя творчыя калектывы, у першую чаргу тыя, якія маюць найменні "народны", "узорны", "заслужаны" і якія з'яўляюцца базавымі творчымі лабараторыямі, стымуляваць іх актыўную творчую і канцэртную дзейнасць.

Сёння вельмі важна падтрымаць працэсы рэфармавання сеткі ўстаноў культуры, адаптацыі іх да новых умоў: стварэнне на базе сельскіх клубаў дамоў і цэнтраў культуры, дамоў рамёстваў, культурна-адукацыйных ды культурна-спартыўных цэнтраў… Перад міністэрствам стаіць задача актывізацыі грамадскіх ініцыятыў, максімальна актыўнага супрацоўніцтва і рэалізацыі сумесных праектаў з дзяржаўным органамі, грамадскімі арганізацыямі і творчымі саюзамі. У якасці прыкладаў можна прывесці новыя цікавыя праекты, якія ўжо рэалізуюцца: "Культурная сталіца года", рэспубліканскі конкурс "Зорка ўзышла над Беларуссю"…

Вельмі значныя функцыі выконваюць сёння музейныя і бібліятэчныя ўстановы, якія, захоўваючы і зберагаючы гістарычную памяць і культурныя каштоўнасці краіны, з'яўляюцца важнымі культурна-адукацыйнымі цэнтрамі. Пастаяннае папаўненне іх фондаў, шырокая выставачная дзейнасць, паўнавартасная інфарматызацыя будзе спрыяць іх запатрабаванасці грамадствам.

Рэалізацыя творчага патэнцыялу не толькі ўстаноў культуры, але і шырокага грамадскага патэнцыялу з'яўляецца вельмі актуальнай, і на гэта павінны быць скіраваны высілкі органаў і ўстаноў культуры. 2010 год будзе насычаны вельмі цікавымі падзеямі — 80-годдзе У. Караткевіча, 200-годдзе І. Хруцкага, 600-годдзе Грунвальдскай бітвы і іншыя.

— Сёлета статус культурнай сталіцы нададзены Полацку. А як адбываецца адбор горада, які абвяшчаецца "Культурнай сталіцай Беларусі"?

— Праект вельмі цікавы і можа мець далёкую перспектыву. Бо асноўная яго задача — максімальная актывізацыя перш за ўсё мясцовых ініцыятыў, дзейнасці органаў улады, устаноў культуры, насельніцтва таго ці іншага горада, і стварэнне ўмоў для таго, каб жыхары пэўнага горада маглі мець больш шырокія магчымасці далучэння да лепшых здабыткаў нацыянальнай культуры. А гэта значыць: арганізацыя выступленняў, гастроляў вядучых творчых калектываў рэспублікі, выставак, творчых сустрэч з пісьменнікамі, мастакамі, дзеячамі культуры,

**Сёння Міністэрства культуры Беларусі аказвае і надалей будзе аказваць самую актыўную дапамогу Культурнаму цэнтру Беларусі ў Польшчы, з тым, каб не толькі прасоўваць дасягненні сваёй культуры, але і падтрымліваць дзейнасць тамтэйшых беларускіх суполак, творчых калектываў беларускай меншасці і г.д. Разам з тым чакаем, што і сам Культурны цэнтр будзе працаваць больш ініцыятыўна і разнастайна.**

кінапрэм'еры, правядзенне фестываляў…

Галоўнае, каб у рэспубліцы сфарміравалася конкурсная атмасфера, каб жаданне стаць культурнай сталіцай з'явілася ў многіх гарадоў. Гэтым разам, можа, не было шырокага конкурсу, але кожная вобласць прапанавала па адным, на іх погляд, з годных гарадоў, з якіх быў выбраны Полацк.

— Вы былі ініцыятарам, стаялі ля вытокаў фестывалю "Звіняць цымбалы і гармонік" і іншых. Апошнім часам ён як бы знаходзіцца ў баку. Можа, ён набудзе новае гучанне, як і іншыя фэсты?

— Прычына не ў самім фестывалі. Сам па сабе ён цікавы і унікальны — адзіны такога плана ў краіне. Яго роля і значэнне ў тым, што ён з самага пачатку фарміраваўся як творчая лабараторыя, стымуляваў развіццё рэгіянальных традыцый, дазваляў адкрываць новыя творчыя калектывы. Дзякуючы фестывалю, мы маем магчымасць знаёміцца з лепшымі дасягненнямі музычнай культуры і іншых краін. Але, на мой погляд, ён павінен з кожным годам, захоўваючы традыцыйныя мерапрыемствы, узбагачацца новым зместам. Тут шмат што залежыць ад яго арганізатараў, у тым ліку і яго шырокае асвятленне і папулярызацыя ў СМІ.

У гэтым годзе мы ўжо збіраліся з арганізатарамі, раіліся і спадзяёмся, што зможам рэалізаваць новыя падыходы. Напрыклад, увесці намінацыю "Настаўнік і вучань", каб паказаць пераемнасць традыцый у народным музіцыраванні, або знайсці аўтэнтычных музыкаў-выканаўцаў, якія не маюць спецыяльнай адукацыі, вучыліся на слых ад сваіх папярэднікаў і якія перадаюць гэту традыцыю сваім вучням. Плануем заснаваць спецыяльную прэмію імя Уладзіміра Грома, які стаяў ля вытокаў гэтага фестывалю.

Сёння ў рэспубліцы праводзяцца разнастайныя па кірунках фестывалі, хоць часта нас папракаюць, што іх занадта многа. Але маючы досвед іншых краін, магу сказаць, што гэта не зусім так. Галоўнае, каб фестывалі праводзіліся не толькі дзеля свята, а былі тым асялком, на якім адточваецца, дэманструецца той ці іншы від мастацтва, каб дазвалялі выявіць тэндэнцыі, якія адбываюцца ў развіцці розных жанраў: народны тэатр, харэаграфія, харавое мастацтва і іншыя, каб яны будаваліся на агульнанацыянальных і мясцовых культурна-гістарычных традыцыях. Калі прафесійнае мастацтва развіваецца пераважна па традыцыйных канонах, то аматарскія калектывы прадстаўляюць пастаянны жывы рух: мяняюцца склад калектыву, кіраўнікі, творчыя кірункі, стыль выканання, рэпертуар…

Такія калектывы павінны абавязкова мець і фінансавую падтрымку. Трэба разумець, што аматарскае мастацтва заснавана на ініцыятыве ўдзельнікаў, якая ацэньваецца матэрыяльна вельмі рэдка. У нас шмат выдатных творчых калектываў, якія працуюць і ў народным, і ў класічным жанрах. Напрыклад, ансамбль старадаўняй музыкі "Спадчына" з Дзяржынска. Хто са спецыялістаў сёння можа сказаць, што ён менш цікавы, чым прафесійны калектыў? Яны выдатна выконваюць творы беларускіх кампазітараў XVII — XVIII стагоддзяў. Часта нашы аматарскія калектывы адрозніваюцца ад прафесійных толькі тым, што яны працуюць на бясплатнай аснове.

— Ці палепшыцца фінансаванне ўстаноў культуры? Прыкладам, калі я быў у Дрыбінскім гісторыка-этнаграфічным музеі, яго дырэктар паведаміла, што яны за апошнія пяць год не атрымалі ніводнай капейчыны на набыццё экспанатаў…

— Перш за ўсё трэба адзначыць, што запатрабаванні нашых устаноў культуры значна вышэйшыя рэальных магчымасцей фінансавага забеспячэння. Гэта лагічна, так і павінна быць. Было б ненармальна, калі б установа культуры не ведала, куды падзець грошы. Такая ж сітуацыя і ў іншых краінах свету. Але, безумоўна, дзяржава павінна па магчымасці пакрываць асноўныя выдаткі, без якіх установа культуры паўнацэнна дзейнічаць не зможа.

Што датычыць фінансавання раённых устаноў культуры, тут многае залежыць ад магчымасцей мясцовых бюджэтаў і ад дакладнай ацэнкі ролі гэтых устаноў у жыцці горада або раёна ў разуменні мясцовых кіраўнікоў. Але ўстановы культуры павінны і самі зарабляць грошы. Як вядома, для сферы культуры, як і для іншых галін народнай гаспадаркі, даведзены планы аказання платных паслуг. Галоўнае, каб яны не станавіліся самамэтай і адпавядалі асноўным функцыянальным кірункам дзейнасці той ці іншай установы, не замінaлі агульнадаступнасці для карыстальнікаў.

Увогуле, нічога бясплатнага няма. Кожны чалавек павінен разумець, што лепшы ўзор народнага мастацтва таксама каштуе дорага. Добры спектакль павінен і каштаваць суадносна. Калі параўноўваць з той жа Польшчай, у нас паслугі сферы культуры ў разы меншыя. Напрыклад, там білет у тэатр каштуе мінімум пятнаццаць долараў. У варшаўскіх музеях квіткі ў музеі таксама значна даражэйшыя. Так, палякі маюць большы заробак, але не ў столькі разоў большы. У замежных краінах культурныя "прадукты" дарагія, і людзі ўспрымаюць гэта як норму.

— Тадэуш Іванавіч, ці паўстае цяпер кадравае пытанне, бо маладыя спецыялісты шукаюць, як кажуць, больш хлебнага месца. А на "культурныя" заробкі працуюць у асноўным на адным энтузіязме.

— Безумоўна, кадравая праблема ў сферы культуры заўсёды была актуальнай. Іншая справа — вакансій ва ўстановах культуры цяпер менш. Сёння, як і раней, у сферы культуры працуе вельмі многа энтузіястаў, таленавітых і самаадданых людзей. У работнікаў культуры, на жаль, заробак меншы, чым у іншых галінах народнай гаспадаркі. Але з кожным годам працэнт забеспячэння ўстаноў культуры спецыялістамі з вышэйшай ці сярэдняй спецыяльнай адукацыяй павялічваецца. Дзякуючы дзяржразмеркаванню абсалютная большасць выпускнікоў галіновых ВНУ размяркоўваецца, накіроўваецца і ўладкоўваецца ва ўстановы культуры.

У Беларусі за апошнія гады сфарміравалася паўнацэнная шматгаліновая сістэма падрыхтоўкі спецыялістаў: 524 дзіцячыя музычныя школы, школы мастацтваў, якія існуюць у кожным раёне і горадзе, 21 сярэдняя спецыяльная і 3 вышэйшыя навучальныя ўстановы. Вельмі важна, што нягледзячы на складаныя ўмовы, іх сетка не скарацілася, а наадварот — развіваецца...

— Па вялікім рахунку, пра развіццё краіны перш за ўсё мяркуюць па эканамічных паказчыках. У адным з інтэрв'ю Прэзідэнт нашай краіны Аляксандр Лукашэнка зазначыў: "Цывілізаванай дзяржавы без культуры няма"…

— Гэта вельмі ёмкая характарыстыка. Таму што сапраўды, кожная дзяржава ацэньваецца не толькі па нейкіх вытворчых дасягненнях. На мой погляд як прадстаўніка сферы культуры, можа, перш за ўсё — па дасягненнях нацыянальнай культуры. Бо культура — найлепшы сродак паразумення паміж людзьмі, найлепшы "народны дыпламат", які дазваляе ўсталяваць першыя кантакты. Спасылаючыся на досвед дыпламатычнай працы, магу гэта пацвердзіць. Прыкладам, усталёўліваліся кантакты, завязваліся знаёмствы на падставе правядзення нейкага цікавага канцэрта, выступлення, выстаўкі, а далей гэтыя кантакты пераходзілі ў іншую сферу, сферу гаспадарчых адносін. Нездарма сёння надаецца такая ўвага ролі культуры ў фарміраванні пазітыўнага іміджу нашай краіны ў свеце.

Гутарыў Віктар КАВАЛЁЎ

Фота аўтара

№ 8 26 лютага 2010 г. ЛіМ

Літаратура — своеасаблівая планета, населеная не іншапланецянамі, а іншадумцамі. Але нават тут, у самім эпіцэнтры, паміж яе жыхаратворцамі адбываюцца звады і непаразуменні. Адзін успрымае мастацтва праз прызму асобы мастака, а другі праз прызму яго творчасці.

Пагадзіцеся, гэта палярныя погляды. Знівеліраваць іх у вачах апанентаў — задача непамысная. Хіба таму, трэцяму, што паўстане між імі. Бо, хутчэй за ўсё, тое, што выстаіць пасля двубою, і станецца пралогам да ісціны. . .

Аддзел крытыкі «ЛіМа»

# Не раман і не эсэ, альбо Ці ўдасца пісьменніку «абдурыць прыроду»?

Чалавек у сваёй грахоўнай сутнасці не мае межаў літаральна ва ўсім: ні ў імкненні да дасканаласці і шчасця, ні ў дэградацыі і мімікрыі, скажам, у крывадушна публічным апраўданні нікчэмнасці ўласнага духу. Прычым ланцужок людскіх характарыстык можна доўжыць бясконца — як у станоўчым, так і ў адмоўным кірунках. Добра, калі сёй-той здольны зірнуць на сябе, любімага, непрадузята — з усімі заганамі і недахопамі. Але найчасцей гэтага не робяць, бо непрыемна, а часам і ўвогуле страшна.

У пэўным узросце ў чалавека ўзнікае вострая патрэба спыніцца ў жыццёвай мітусні і паглядзець на вынікі пройдзенага зямнога шляху. Рэагуюць на гэта, як правіла, па-рознаму — у залежнасці ад гнуткасці псіхікі. Адны разумеюць марнасць быцця і ў нямой пакоры рушаць далей, другія імкнуцца нешта кардынальна змяніць, хаця ўжо позна, а трэція ўвогуле не тлумяць галаву філасофскай непатрэбшчынай.

Узнікае такая патрэба і ў пісьменнікаў, асабліва падчас творчых крызісаў, калі перастае задавальняць напісанае, а перспектывы далейшага занятку бачацца туманнымі і нават бессэнсоўнымі. Нехта з гора пачынае піць, а нехта зацята шукае натхненне ў новым амплуа. Атрымліваецца не ва ўсіх. Творчы крызіс — гэта экзамен, які экстэрнам не здасі.

Што пісаць, калі не пішацца? Што рабіць, калі ранейшы занятак перастаў задавальняць? Адказаць на гэтыя (і не толькі) пытанні пастараўся Андрэй Федарэнка ў рамане-эсэ “Мяжа”, які друкаваўся ў №№ 4, 11 і 12 часопіса “Полымя” за 2009 год.

Па жанравым вызначэнні гэта не раман і не эсэ, а хутчэй дзённікавыя запісы розных гадоў кшталту “Роздуму на апошнім перагоне” Івана Шамякіна. Толькі пісаліся яны, у адрозненне ад класіка, не на вяршыні творчага ўздыму як падрахунак вялікай жыццёвай біяграфіі і ўнушальнай спадчыны, а ў перыяд творчага спаду, у час літаратурнай і ўзроставай мяжы, у чым прызнаецца і сам аўтар “Сечкі”.

Не лічу А. Федарэнку добрым раманістам. Гэта выдатны апавядальнік, талент якога лепш за ўсё праяўляецца ў малых жанравых формах. Сведчаннем гэтага з’яўляюцца яго цудоўныя маладосцеўскія апавяданні “У грыбах” і “Уночы”, дзе пісьменнік паказаў сябе тонкім псіхолагам і майстрам мастацкай дэталі, гэткім “беларускім Мапасанам і Чэхавым”. А “Мяжа” толькі пераканала ў слушнасці майго меркавання, бо раман-эсэ складаецца з невялікіх, часта завершаных і самастойных, частак, у якіх у сканцэнтраванай форме намаляваны пэўны жыццёвы эпізод з лагічнай ідэйнай высновай. Гэта той выпадак, калі касіць пад Янку Брыля зусім не сорамна, бо падобны стыль — заканамерны працяг эвалюцыі мастацкага мыслення пісьменніка, які ў пошуку самога сябе выйшаў на іншы ўзровень філасофскага асэнсавання рэчаіснасці і свайго месца ў ёй.

У пачатку твора А. Федарэнка піша: “Сорак пяць... Сур’ёзная лічба. Крытычная, небяспечная мяжа. З ёю не пажартуеш. Не па мне былі, хто гэтай мяжы нават не перасёк, — першыя імёны, якія прыходзяць у галаву: Чэхаў, Мапасан... Шукшын?.. Палуян, Багдановіч, Калюга... І тыя, хто дасягнуў гэтага слупа і проста на памежжы, на пагранічнай паласе зваліўся: Чорны, Гарэцкі... І тыя, хто ненамнога яе перасягнуў: Сыс, Пісьмянкоў, Асташонак... Так што проста фізічна дажыць да гэтай лічбы — хаця б дзеля таго, каб мець магчымасць і гонар упісаць яе ў анкету, назваць у паліклініцы ці, не дай Бог, у аддзяленні міліцыі — гэта, скажу вам, ужо маленькі подзвіг. Але вось ён здзейснены. І пазіраеш ты яшчэ на свет Божы, і топчаш пакуль гэтую зямлю, і трэба неяк апраўдваць сваё тут існаванне”.

Адчуваеце, куды гне аўтар? Сам таго, пэўна, не ўсведамляючы, ён пералічвае прозвішчы беларускіх класікаў і падсвядома імкнецца далучыцца да іх: маўляў, адпавядаю і паводле ўзросту, і творчых набыткаў... Але вось незадача: паміраць так рана пісьменніку яўна не хочацца. Таму і застаецца што завочна прымерваць сябе на нацыянальным пантэоне літаратурных мэтраў.

Чытаем далей: “... заступіўшы адной нагой на мяжу са слупам з лічбаю “45”, адчуў я цягу да падрахункаў, чысткі, рэвізіі — у галаве, у жыцці, у літаратуры, пачаў перабіраць, пераглядаць папкі з рэалізаваным і нерэалізаваным, розныя канспекты, планы, чарнавікі, пісьмы, дзённікі, скідваць сёетое на камп’ютэр, не надта задумваючыся, навошта. І са здзіўленнем убачыў, колькі ж многа ўсяго. Аповесці, раманы, абрыўкі апавяданняў, п’есы, сцэнарыі, проста думкі... І з горыччу адчуў, што не ведаю, якое знайсці гэтаму прымяненне”.

Не веру, што А. Федарэнка не ведае, навошта афармляе неаформленае ў часопісны варыянт. Хутчэй за ўсё амбітны аўтар проста баіцца забыцця: маўляў, дасі дуба (а гэта магчыма не толькі ў 45) — і хто будзе потым корпацца ў тваіх чарнавіках?! Безумоўна, лепш самому ўпарадкаваць спадчыну для будучых даследчыкаў. Калі разабрацца, ідэя А. Федарэнкі вартая пераймання. Мяркуйце самі: пакрочыць да Абрама на піва чарговы мэтр, пакінуўшы пасля сябе чамаданы незавершаных шэдэўраў, а тэкстолагам з Акадэміі навук давядзецца ламаць галаву пры складанні розных рэдакцый збораў твораў. З улікам гэтага бачыцца даволі перспектыўнай неабходнасць абавязковага падрахунку творчасці кожнага пісьменніка, які адолеў 45-гадовую мяжу. Дзеля, так бы мовіць, нацыянальнай бяспекі Літаратуры.

А. Федарэнка пытаецца: “Якая мэта нашага рамана? Яна пакуль такая: чалавек можа хоць крышку ўплываць на свой лёс, карэкціраваць, рэдагаваць яго? Ён можа, нават не маючы моцнага здароўя, пры пэўным раскладзе, пры пэўных адносінах да сябе хоць трохі падоўжыць свой век?” Гэтыя пытанні неаднаразова ўзнімаліся на старонках мастацкай і філасофскай літаратуры, прычым яшчэ з антычных часоў. Навошта зноў разбірацца ў тым, у чым, здавалася б, ужо даўно разабраліся іншыя? Напрошваецца заканамерны адказ: на ўласным прыкладзе займацца гэтым куды прыемней, асабліва калі службовае пісьменніцкае становішча выступае надзейным прыкрыццём амбітных інтарэсаў.

У эпілогу першай часткі твора А.Федарэнка сціпла адзначае: “У меру сіл мы (не раўнуючы — расійскі імператар, — заўв. С. Г.) хацелі прасачыць на адной канкрэтна ўзятай біяграфіі, на гэтых зведзеных у адно выпадках, гісторыях, сітуацыях зародак творчасці. Як у народзе кажуць — адкуль што бярэцца? Чалавек дзякуючы такой біяграфіі абавязкова рана ці позна павінен быў бы пісаць, ці ён ужо нарадзіўся “дзвінутым”?..”

Увагу пісьменніка прыцягваюць такія паняцці, як даўгалецце (“Чаму адны творцы могуць жыць адносна доўга, а другія, зусім не пакрыўджаныя ні здароўем, ні талентам, — мала?”), творчасць і жанчына (“Жанчына выклікае творчасць, спараджае яе, яна — лагода, пацалункі, секс, ежа, пахвальба; яна ж — небяспека, кроў, страх, боль...”) і загадка творчасці (“Гэта дабро ці зло? Гэта п’яўка, якая смокча з цябе ўсе сокі, гэта Малох, на алтар якому трэба класці лепшыя сілы душы, а падчас і само жыццё, ці гэта (калі ўмерыць эмоцыі) такая штука, якая пры бліжэйшым разглядзе можа памагчы творцу?”). Паводле няўмольных законаў зямной логікі гэтыя ўзнёслыя пошукі ўжо з самага пачатку былі марнымі і бессэнсоўнымі. У выніку — глыбінныя пытанні ў чарговы раз патанулі ў безлічы слоў. Радуе адно: у іх вырашэнні паўдзельнічаў (не важна, што безвынікова) і А. Федарэнка. Мае віншаванні!



Рэпрадукцыя з гравюры Морыца Эшэра.

У эпілогу другой часткі твора аўтар разважае над стратай невядомасці: “У “сярэдняга” пісьменніка заўсёды ёсць фора перад “славутым”. Многае яшчэ наперадзе — і сам не ведаеш, і іншыя не ведаюць, чаго ад цябе чакаць, — у адрозненне ад пісьменніка “славутага”, які сваю вышыню ўзяў, у якога ўжо ўсё адбылося і застаецца толькі або спачываць на лаўрах, або спускацца ўніз: паўтарацца, выпісвацца, гнаць вал, без надзеі кагосьці чымсьці здзівіць...” Атрымліваецца: лепш заўсёды сядзець у “сераднячках”, не вытыркацца, а то залічаць, крый Божа, у “славутасці” — бяды не абярэшся: імгненна скончацца тэмы, пойдзе вал за валам, пачнуцца бясконцыя паўтарэнні паўторанага... З такой шкоднай філасофіяй у сапраўднай літаратуры няма чаго рабіць. Ці варта шукаць тупік у Сусвеце?

А. Федарэнка канчаткова раскрывае карты ў эпілогу трэцяй часткі, дзе прызнаецца, што “розныя споведзі, аўтабіяграфічныя раманы, рэвізіі, успаміны, жыццяпісы, мемуары, межы, падвядзенні рысаў, выбраныя месцы з перапіскі з сябрамі і інш., інш., з’яўляюцца тады, калі пісьменнік пачынае выпісвацца як мастак. Інакш кажучы, у яго творчы крызіс. І даволі часта пісьменнік, сутыкнуўшыся з такой непрыемнай штукай, палохаецца, перастае ў сябе верыць, пачынае згасаць, слабець, хварэць, співацца і ўрэшце знікае як творца яшчэ пры жыцці, а то і памірае ў прамым сэнсе. А бывае... што пісьменніку ўдаецца абдурыць прыроду. Мы маем мноства прыкладаў, калі дзякуючы такім споведзям, такому вымятанню сусекаў, падвядзенню нібыта заключнай тлустай рысы пад сваім ранейшым жыццём і творчасцю ў пісьменніка раптам узнікала другое дыханне, з’яўлялася невядома адкуль энергія, і ўжо на іншым, больш высокім узроўні ён пачынаў ствараць новыя мастацкія рэчы. Праўда, для пачатку трэба абжыцца ў новым месцы. Агледзецца. Паазірацца. Раскласці свае транты. Асвоіцца ў гэтай субстанцыі, у гэтым невядомым дасюль за-межным свеце”.

Штосьці не стыкуецца ў гэтай штучнай светапогляднай канцэпцыі. Наколькі я памятаю, А.Федарэнка пачаў займацца рэвізійнай дзейнасцю яшчэ ў 2003-м (узгадайце раман “Рэвізія”), г.зн. прыкладна недзе ў 40 гадоў. І вось выяўляецца, што працэс гэты не спыніўся і ўсё доўжыцца... Ах, беларускае самаедства...

Разумее гэта і сам аўтар, інакш не заканчваў бы сваё пісанне суцяшэннем ад адваротнага: “І калі новыя творы не выспеюць, не з’явяцца, не папросяцца з душы — што ж, будзем суцяшацца тым, што маем (а што яшчэ застаецца чалавеку?! — заўв. С. Г.). А маем мы тое, што ведаем праўду, і не баімся ўслых яе назваць, і можам спакойна, без шуму і пылу, без лішняга ныцця, скаргаў і запояў (гэтых памінак па самім сабе), без каляровых акуляраў і розных кантактных лінзаў глянуць рэальнаму Жыццю ў вочы. Бо і проста жыць – замыкаючы пачатак і канец рамана — фізічна існаваць, выжываць у нашым свеце і ў нашых умовах насуперак усяму — гэта, можа быць, і ёсць найвышэйшы на зямлі талент, самая складаная з усіх магчымых навук, творчасць яшчэ тая, мастацтва ўга якое! – прынамсі, ку-у-ды важнейшае за ўменне закруціць сюжэт, выпісаць характар або малюнак прыроды ці зрыфмаваць “паненка — Федарэнка”...”

Не верыцца, што ад разумення гэтай горкай праўды пісьменніку насамрэч становіцца лягчэй і спакайней. Ну зірнуў А. Федарэнка рэальнаму Жыццю ў вочы — і што? Няўжо не карціць падзяліцца ўражаннямі ад убачанага з іншымі на паперы? Замест таго, каб хітраваць па-паляшуцку, раю здольнаму пісьменніку перастаць палохацца розных “фатальных” лічбаў і заняцца нарэшце стваральнай (нетэарэтычнай) працай. За плячыма — цікавыя жыццёвыя універсітэты, наперадзе — працяг займальнай гісторыі. І не важна — якой (сумнай ці вясёлай), галоўнае, што яна была, ёсць і абавязкова будзе. І толькі ад моцы чалавечага духу залежыць яе працягласць і вартасць — фінальныя акорды зямной дарогі.

Сяргей ГРЫШКЕВІЧ

# Замест рэцэнзіі на раман-эсэ Андрэя Федарэнкі «Мяжа»

Гэтая публікацыя павінна была зрабіцца рэцэнзіяй на раман-эсэ Андрэя Федарэнкі "Мяжа". Што ж, напішацца яшчэ і рэцэнзія. Але гэтым разам я змушана адрэагаваць на допіс Сяргея Грышкевіча, які лічу чарговай "авантурай" аўтара ("авантура" — ключавое вызначэнне, якім гэты крытык пазіцыянуе сваю дзейнасць).

Дык вось па "авантуры" С. Грышкевіча я ўжо даволі даўно звярнула ўвагу. І не толькі з-за адыёзных ацэнак і нетактоўных выпадаў аўтара. Большасць публікацый ("Сурагат" ("ЛіМ", 8 снежня 2000 г.), "Які час — такія творы" ("Звязда", 5 чэрвеня 2004 г.), "Пасрэднасць і халтура — не ёсць літаратура" ("Настаўніцкая газета", 22 чэрвеня 2004 г.)) пакідала ў мяне адчуванне déjà vu, якое не давала спакою. Пры гэтым асацыяцыі ўзнікалі не столькі з узорамі крытычнага жанру, колькі з нейкім мастацкім творам, каларытным літаратурным персанажам... "Азарэнню" паспрыяў артыкул С. Грышкевіча "Пра культуру дыскусій — 2" ("ЛіМ", 17 верасня 2004), дзе аўтар расказаў пра сябе шмат цікавага. Так, менавіта "пра сябе", бо слова "культура" не мае да публікацыі аніякага дачынення. Зачын быў такі: "Я даволі эмацыянальны і нераўнадушны да многага чалавек. У прыватнасці — да літаратуры, якой займаюся. Таму імгненна ўключаюся ў розныя дыскусіі і імгненна адгукаюся на палемічныя артыкулы ў друку. Адным словам, удзельнічаю ў авантурах, якія дальнабачны літаратар абыходзіць, а рызыкоўны — не". Менавіта тут і прыгадалася "візітоўка" знакамітага персанажа Андрэя Мрыя: "Я скажу ўсім, хто гэтага пачаў бы дамагацца, што я — сучасны чалавек. Маё імя — Самсон Самасуй. <...> Я заўсёды спрачаюся толькі тады, калі чаго-небудзь не разумею".

Самае цікавае, што фактычна кожнаму абзацу з крытычных доследаў "нераўнадушнага літаратара" ў рамане Мрыя знаходзіцца адпаведнік. Ну, вось, напрыклад, характарызуе С. Грышкевіч свой творчы шлях: "Усё пачалося з таго, што пяць гадоў таму "Звязда" змясціла мой матэрыял "Літаратурнае ашуканства"... А мне на памяць прыходзяць словы Самасуя: "Яшчэ тры гады назад я неяк напісаў у газету карэспандэнцыю аб выбарках старшыні кааператыву..." Альбо дзеліцца крытык набалелым, даводзіць, якімі высакароднымі мэтамі кіраваўся ў сваёй працы: "Я <...> спрабаваў разабрацца ў адарванасці пісьменнікаў ад грамадства, іх маральным вобліку"; "пераключыўся на рэцэнзіі, дзе паспрабаваў "увасобіць у жыццё" свае высокія (у сэнсе — ідэальна-правільныя) літаратурныя памкненні" і г.д. Чытаю Грышкевіча, а ў свядомасці ізноў гучаць словы мрыеўскага персанажа: "Я канкрэтна даводзіў, што ў сялян няма грамадскай рошчыны, свядомасці, дзякуючы чаму і бываюць перманентныя супярэчнасці..."; "Наш абавязак звярнуць увагу на жыццё і паводзіны нашых таварышаў. У іх жыцці ёсць гангрэны, якія трэба выразаць, знішчаць, не даваць ім развівацца"... І ўжо зусім ніякавата робіцца, калі чытаеш споведзь С. Грышкевіча пра пякельныя наступствы яго дзейнасці: "Пасля "Сурагату" <...> мяне, студэнта-трэцякурсніка мясцовай ВНУ, пачалі выхоўваць выкладчыкі "роднага" філфака: маўляў, нельга так з тутэйшымі паэтамі абыходзіцца... <...> І пачалася нейкая непрымірымая варажнеча – бясконцыя паўчанні і дробнае паскудства". Крытык дзеліцца балючымі ўспамінамі, а мне чуюцца скаргі Самасуя: "Папярэдняя інтрыганцкая фаза развіцця, у якую ўступіў я <...> вельмі моцна грукнула мне ў галаву і наскрозь пракалола ўсю маю істоту"...

Аналогій процьма. Але, пераадольваючы спакусу далейшага цытавання, скажу пра іншае. Вядомы пісьменнік аднойчы заўважыў: "Усё, што мы пішам, мы пішам пра сябе". Так і ў крытыцы. Амаль у кожным тэксце бачны найперш яго аўтар — яго розум, досвед, унутраны свет...

С. Грышкевіч "выяўляе сябе", калі з самазахапленнем расказвае, як рэагуюць пісьменнікі на яго "рэцэнзіі". Ізноў звярнуся да артыкула "Пра культуру дыскусій – 2", дзе аўтар выхваляецца, як здорава "зачапіў" двух брэсцкіх літаратараў: "Пры сустрэчы з першым той спярша хацеў мяне пакалаціць: знявага міжнароднага маштабу! Пасля супакоіўся, падумаў і сказаў, што "саставу злачынства" ў маім "недзяжэнтльменскім" учынку не бачыць — халтура ёсць халтура. І паабяцаў (!) істотна перарабіць кнігу, патрабуючы (!) напісаць на яе, дапрацаваную, новую рэцэнзію. Ніякіх праблем! Нармальны творчы працэс. Горш аказалася з другой аўтаркай, якая тут жа выступіла ў "ЛіМе" з артыкулам у абарону сваёй годнасці, пачаўшы з'едліва "даследаваць" разумовую паталогію крытыкана (хоць ужо яму ў суд з сустрэчным іскам звяртайся): гэта ж трэба ў адкрытую здзекавацца з жанчын, асабліва пісьменніц, смяяцца з іх літаратурных здольнасцей і г.д.!" Падобна на тое, што аўтар гэтых радкоў, шчодра распісваючы "асабістыя стасункі" з пісьменнікамі (усё як след — з імёнамі і прозвішчамі — хто перастаў з ім вітацца, хто пачаў "бокам абыходзіць" і г.д.), нават не разумее, што гэта, па меншай меры, непрыстойна. У тым і камізм. Узяўшыся разважаць пра "культуру дыскусій", крытык звёў усё да ўзроўню "пляткарства"... Вось ізноў згадваецца персанаж Мрыя, пра якога літаратуразнаўца Т. Мушынская заўважыла: "...Самасуй <...> – камедыянт міжволі, незаўважна для самога сябе. Ён з вялікай сур'ёзнасцю і паважнасцю гаворыць аб сваіх перамогах <...> і спадзяецца, што чытач яго запісак будзе ў захапленні ад такога "разумніка". Атрымліваецца наадварот. Супярэчнасць паміж сутнасцю характару і беспадстаўнай прэтэнзіяй, уяўнай сур'ёзнасцю выклікае смех. Сам герой не знаходзіць нічога смешнага ці абуральнага ў сваіх учынках і сваёй філасофіі. <...> У яго адсутнічае <...> здольнасць паглядзець на сябе збоку".

Не магу абысці ўвагай і артыкул С. Грышкевіча "Марнеў Пегас на восеньскай раллі, альбо Паэтычныя дажынкі Уладзіміра Лебедзева" ("ЛіМ", 26 лістапада 2004). Тут аўтар узяўся "даследаваць" паэзію свайго колішняга выкладчыка, якога "прадставіў" наступным чынам: "Уладзімір Лебедзеў "адтарабаніў" у Брэсцкім дзяржуніверсітэце больш трыццаці гадоў <...>. Сёння яму далёка за шэсцьдзесят. І сваю працоўную дзейнасць ён не спыняе. Чытае лекцыі, вядзе семінары і... піша вершы". Не буду вытлумачваць стыль і пафас "рэцэнзіі". Засяроджу ўвагу на іншым. Справа ў тым, што гэтым радкам папярэднічаў "мастацкі" ўступ, дзе гаворка ішла пра "стомленага непасільна-катаржнай працай старога Пегаса, які, ледзь дыхаючы, бяздумна глядзеў у вечаровае неба", а побач з "забытым усімі "літпенсіянерам" <...>, нібы адкарканая пляшка "чарніла", ляжаў паэтычны зборнік Уладзіміра Лебедзева..." Ну, а заключнымі радкамі сталіся наступныя: "Дачытаўшы зборнік У. Лебедзева і будучы глыбока расчараваны ў ім, я ўсё глядзеў на рыдлёўку для пахавання Пегаса..." Сэнс закідаў С. Грышкевіча і мэта яго "працы" прачытваюцца адназначна: прынізіць і "закапаць" аўтара. Аналізу паэзіі ў рэцэнзіі няма, яго падмяняюць ёрніцтва і хамскія закіды, якія самому крытыку, верагодна, падаюцца "досціпам". Праўда, ён спрабуе стварыць ілюзію "аналізавання": выпісвае з твораў "паддоследнага" пэўныя фразы, радкі (пры гэтым — досыць цікавыя) і выносіць вердыкт: "Ізноў паўтараем абрыдлыя "ісціны". Альбо цытуе хоку У. Лебедзева "Цвітуць дзьмухаўцы. // Нібы жоўтае сонца // Пад нагамі ў нас" і сцвярджае: "І я так магу". Толькі вось уласны ўзор "вершатворчасці", прапанаваны С. Грышкевічам у якасці доказу, стаўся бязглуздай лексічнай канструкцыяй: "Цвітуць гваздзікі. // Нібы чырвань на твары // Віном апякла". "Чырвань" апякае "твар", а не "на твары". Так што сам жа ён і абверг сваё сцвярджэнне, што "кожны, хто ўмее вылічваць склады і больш-менш будаваць звязныя сказы" здольны пісаць хоку. Як бачна, не кожны.

...Я не настойваю, што крытык заўжды павінен далікатнічаць. Ёсць рэчы, за якія, па-мойму, трэба адразу "лупіць па руках". Гэта, напрыклад, спісванне, якое сёння зрабілася амаль што новым "творчым прынцыпам". Як па мне, крадзеж — ён і ёсць крадзеж. Бо калі нехта ўкраў машыну і нават пафарбаваў ды адрамантаваў яе — гэта ўсё роўна будзе злачынствам. І калі толькі адно кола сцягнуў, то і гэта будзе крадзяжом. А ў літаратуры, быццам бы, дзейнічаюць іншыя механізмы... Ды не. Праўда, С. Грышкевіч лічыць, відаць, па-іншаму. Бо і сам не супраць цішком "папасвіцца на чужых палетках". Прывяду адзін прыклад "тэхналогіі" яго працы.

Вельмі падабаюцца С. Грышкевічу працы прафесара Бугаёва. Натуральна. Дзмітрый Якаўлевіч — таленавіты крытык, дасведчаны літаратуразнаўца. Але Грышкевіч настолькі захапляецца даследаваннямі аўтарытэтнага вучонага, што пачынае амаль "ідэнтычна мысліць". Так, напрыклад, у кнізе Дз. Бугаёва "Спавядальнае слова" (2001) адзін з артыкулаў пра В. Быкава мае назву "Несуцяшальны дыягназ", другі — пра А. Адамовіча — "У пошуках праўды і справядлівасці". У Грышкевіча неўзабаве з'яўляецца артыкул з назвай "Несуцяшальны дыягназ, альбо У пошуках страчанай радзімы" ("Дзеяслоў", 2007, № 28) пра творчасць Юры Станкевіча. Гэта можна было б палічыць супадзеннем, калі б не публікацыя С. Грышкевіча "Перамагчы ў чалавеку страх" ("Дзеяслоў", 2003, № 5), дзе ізноў — дзіўнае падабенства фрагментаў да артыкула Бугаёва з той самай кнігі. Так, напрыклад, Бугаёў піша: "Усе быкаўскія прытчы, як таго і вымагае прырода жанру, вызначаюцца гранічнай абагульненасцю высноў, могуць дастасоўвацца да розных сітуацый, часоў і народаў. Але вырастаюць яны з нашай найперш сучаснай рэчаіснасці і б'юць па самых клопатных, самых вострых нашых балячках". Высновы ў заключэнні публікацыі С. Грышкевіча: "Усе яны, як таго і вымагае прырода ўмоўна-метафарычнага жанру, вызначаюцца абагульненасцю высноваў, дастасоўваюцца да розных сітуацый, часоў і народаў. Але ўзрошчаныя яны найперш нашай сучаснай рэчаіснасцю, адлюстроўваючы яе праблемы і перспектывы". Дарэчы, калі ў дысертацыі эксперты знаходзяць падобныя "падабенствы" ў заключных высновах, даследчыка пазбаўляюць вучонай ступені...

* * *

Што датычыць працы С. Грышкевіча, прысвечанай раману-эсэ "Мяжа" А. Федарэнкі... Як па мне — гэта проста дэмагогія.

Гэты твор стаўся вельмі лагічным у пісьменніцкай біяграфіі А. Федарэнкі. Унутранае жыццё мастака і яго жыццё ў літаратуры па-рознаму даследаваліся пісьменнікам у рамане "Рэвізія", аповесці "Повесць", эсэ "З кошыкам, або Гісторыя ненапісанай аповесці", іншых творах. У рамане-эсэ ён ізноў звяртаецца да гэтай тэмы, але ўвасабляе яе зусім па-іншаму. Асноўная эмоцыя "Мяжы" — гэта здзіўленне. Азіраючыся назад, Федарэнка быццам сам ніякавее: як так здарылася, што ён стаў пісьменнікам? Усё ж было супраць яго – жыццё лупіла з усіх бакоў — і ў пераносным сэнсе, і ў прамым. Не разумелі, не прымалі, адпрэчвалі. Спрабавалі абражаць і прыніжаць... Па вялікім рахунку, ён расказвае пра самы галоўны раман свайго жыцця — раман з літаратурай, ён вядзе гаворку пра тое, як ратаваўся творчасцю. Гісторыя Федарэнкі, несумненна, індывідуальная. Але ў многім яна тыповая. Адной з каштоўнасцей твора з'яўляецца нязмушанае і арганічнае вытлумачэнне псіхалогіі творчасці, працэсу назапашвання ўражанняў і досведу, з якіх пазней нараджаюцца сюжэты і вобразы...

Падчас чытання "Мяжы" мне згадаўся знакаміты фільм "Миллионер из трущоб" (паводле рамана Вікаса Сварупа "Пытанне — адказ"), мінулагодні лаўрэат васьмі "Оскараў" і чатырох "Залатых Глобусаў". У фільме ўвасоблена гісторыя маладога чалавека Джамала Маліка, які вырас у бедных кварталах Мумбаі. Па збегу абставін яму выпадае ўзяць удзел у тэлешоу "Хто хоча стаць мільянерам?" Вядучы забаўляецца, высмейвае неадукаванага хлопца... Але пачынаецца гульня, і малады чалавек бярэ пытанні адно за адным. У перапынку, калі гульня даходзіць да самай высокай стаўкі, Джамала арыштоўвае паліцыя. Ніхто не можа даць веры, што хлопцу не падказвалі. Трываючы катаванні, герой прызнаецца, адкуль ён ведаў адказы. Ён згадвае ўсё сваё жыццё — жабрацкае дзяцінства, прыніжэнні, шматлікія выпадкі, калі цудам ратаваўся ад смерці... І пераконвае, што толькі жыццёвы досвед дапамог яму дасягнуць перамогі. Пры гэтым герой фільма неаднаразова паўтарае: "Мне пашанцавала". Але паводле падзей зразумела, што ніякага шанцавання не было, ён усяго дамогся дзякуючы свайму характару, волі, сумленнасці...

Федарэнка гэтаксама заяўляе, што яму "проста пашанцавала": "Любы мог апынуцца на маім месцы. Наўрад ці я вызначаю аблічча цяперашняй беларускай літаратуры — я нават не ведаю, як гэта і што гэта такое — "вызначаць аблічча". Ведаю толькі, што мне проста пашэнціла". Не. Не "пашэнціла". Выпадковага нічога не бывае.

Аўтарскае вызначэнне жанру — раман-эсэ — вельмі дакладнае. Аб'ёмная карціна станаўлення і жыцця героя, адлюстраванне яго шматстайных узаемадачыненняў з людзьмі і са светам разгортваюцца на фоне супярэчлівай эпохі і ахопліваюць некалькі сацыяльна-гістарычных перыядаў жыцця грамадства. Мноства сюжэтных адгалінаванняў узбагачаюць твор яркімі характарамі. Усё гэта адпавядае крытэрыям жанру рамана. Але паводле стылю — філасофска-аналітычнага разважання — гісторыя набліжана да эсэ.

Нельга абысці ўвагай і своеасаблівы "хітраванскі прыёмчык" — тыповы для федарэнкаўскай манеры. На працягу аповеда аўтар неаднаразова наракае на "гаротны" пісьменніцкі лёс... "Ты можаш з горкай зайздрасцю толькі назіраць чужое жыццё, амаль не прымаючы ў ім ўдзелу. Людзі вакол жывуць — ты адлюстроўваеш гэтае жыццё, усё піхаеш, усё укладаеш, як пракляты, самае лепшае сваё ў нейкі беспрацэнтны, банкрутны банк — без надзеі на аддачу..." Дый нават зачын твора — нібы намёк на дэпрэсію ці творчы крызіс: сорак пяць... заступіў за мяжу... толькі вось, маўляў, жывы ў труну не ляжаш, а таму "трэба неяк апраўдваць сваё тут існаванне". Толькі што ў выніку? Пісьменнік ізноў выбудоўвае арыгінальную — і па форме, і па змесце — гісторыю! Федарэнка — добры шэльма! Ён гуляе з чытачом, як гросмайстар з аматарам. Ён можа "здаць" некалькі хадоў. Яго пазіцыя можа выглядаць слабай. Але ў выніку — "шах" і "мат"! І застаецца адно разгублена чухаць патыліцу: як ён гэта зрабіў?.. Карацей, на яго "хітрыкі" сапраўды купляюцца "аматары", якія мысляць вузка, бачаць павярхоўна. Так што не ведаю "ці ўдасца Федарэнку абдурыць прыроду", але што яму ўдалося абдурыць С. Грышкевіча — гэта факт.

Лада АЛЕЙНІК



## Анатоль ЖУК

Дагэтуль не верыцца... Незадоўга да свайго раптоўнага адыходу ў лепшы свет Анатоль Жук прынёс у рэдакцыю "ЛіМа" новыя вершы. І вось так сталася, што гэтая падборка апынулася развітальнай – і па форме, і па змесце. Можна сказаць, што наш вядомы паэт і акцёр выказаў тут самае патаемнае, як быццам спавядаючыся ў апошнюю гадзіну. Прыслухаемся ж да гэтай споведзі.

* * *

Іржавы цень на сонечны прастор
Паволі апусціўся, і памёр
Дзень фарбамі сваімі, сваім словам,
Каб нарадзіцца заўтра ва ўсім новым.

І я памёр сягонняшні навек.
Каб заўтра зноў нанова свет спатоліць
Сваёю ласкай і сваёю доляй,
І не згубіць наймення — чалавек!

Як проста ўсё! І ўсё звычайна, нібы
На покуці абраз, пад ім куцця...
Ды толькі не бывае горшай хібы,
Калі зняважыш сам свой шлях жыцця...

* * *

Хай нябеснае будзе нябёсам,
А зямное — хай будзе зямлі.
Ціха свецяцца зорныя росы.
Спяць на кветках зямных матылі.

Месяц юны глядзіцца ў азёры.
Травы выбеліў срэбны бурштын.
Неба — месяц і зоры, і зоры...
А зямля — матылі, росаў дым...

Хараство. ажно сэрца нямее!
Дык чаго ж мне яшчэ мець, калі
Я жыву! І ўсё больш разумею:
Бог — на небе, а я — на зямлі.

* * *

Чаго шукаў — таго я не знайшоў.
А што знайшоў — мяне ўжо не хвалюе.
Слязой мая разбавілася кроў,
І раны мае кроў'ю ванітуюць.

Бо соль крыві і соль слязы маёй
Змяшаліся, і стала ім няўцешна
Пад гэтым небам
і святым, і грэшным,
Дзе я гавеў слязою і крывёй.

Мне невыноснасць легла маім днём.
Апошняе, што маю, — развітанне
З дабром і злом, вадою і агнём —
І большага мне век ужо не стане.

А будзе што — не ведаю куды
Я панясу свой час і разбяруся
Як з ім?! У вырай, нібы гусі,
Ляцяць мае апошнія гады.

### Я шукаю сябе...

Я шукаю сябе,
як аблудная птушка гняздзечка
Сярод кветак атрутных і вострых,
як кулі, шыпоў.
І ніяк не знайду. І сваёй новай веры ячэчка
Не магу дзе адкласці,
каб ім адрадзіцца наноў.

Я шукаю сябе. І не маю ні кроплі надзеі
На свой ранак,
дзе росы зіхцяць залатым дыванам,
І жывое маё ад адчаю сляпога нямее,
І ўжо верыць мне цяжка,
што я адбудую свой дом.

Я шукаю сябе.
У сваім пошуку я не шкадую
Ані веры, ні сілы, ні духу —
бо што шкадаваць?!
І жыццё нібы птушка
ў прасторы нябесным пульсуе,
І палёт той ад веку
нікому было не стрымаць.

Я шукаю сябе.
Я заўжды ў гэтым пошуку горкім!
І ніколі за іншае Бога не стану маліць...
Пэўна ўвесь сэнс тым —
каб згарэць мільгануўшаю зоркай,
Не пакрыўшыся пылам
трывожнай, пакутнай зямлі.

Я шукаю сябе.
І я буду шукаць да знікнення!..
Да апошняй надзеі,
апошняга ўздыху душы!
І ніхто мне не скажа,
што быў я адно толькі ценем
Сваёй долі,
дзе я гэтак шчыра любіў і грашыў.

### Хеўра

А над полем толькі крумкачы
Чорныя, нахабныя, адпетыя...
Ім хоць да знямогі ты крычы, —
Не пачуюць голас твой прыветны.

Гарлапаняць гучна між сабой,
Злосна пёркі рвуць адзін другому,
Палівай хоць ледзяной вадой —
Вэрхал не запыніш іх шалёны.

Як сляпое да дабра звяр'ё,
Да ўсяго адной прынукай сведчаць:
Усё што не маё — яно маё!
І няхай хто толькі запярэчыць;

Задзяўбуць, аблаюць, праклянуць
Без сумнення ў сэрцы, без спагады.
І святкуюць...
Любяцца...
Жывуць...
І сабе падобных плодзяць гадаў.

І ніякі ім не страшны клін,
Хоць дзяўбуцца вечна без прычыны.
Калі што не зможа хтось адзін —
Змогуць разам, хеўраю злачыннай.

* * *

Мне ўжо, братка, нецікава
Ні налева, ні направа,
Мне найлепшая дарога —
Дзе нікога і нічога...

Маё сонца — там, дзе ціха,
Без бяды каб і без ліха,
Каб ніякае патолі,
Што хвалюе сэрца болем.

Мне ўжо, братка, дзень — на вечар,
Ад парога — і да печы,
Лёг, устаў — і дзякуй небу
За ўсе клопаты, што зведаў.

І за сонца, і за поле.
І за луг з яго́най воляй,
За людзей, з якімі шчыра
Рыхтаваў свой дальні вырай —

Дзякуй! Дзякуй, што жылося,
Што былося і вялося...
Што направа і налева —
Ухвалёны боскім спевам.



## Яўген ГУЧОК

### Неба ад цябе не адвярнулася

* * *

Часам здаецца:
Дзесь на ускрайку неба
Месціцца наша зямля.

* * *

Прыглядзься: большасць людская
Жыве не пад небам,
А пад сталом.

* * *

Для беспрытульнай зямлі
У неба вароты —
з усіх бакоў,
А яна...

* * *

Усё, што вывернуць
Імкнецца чалавек у неба,
Сабе на галаву ён абрынае.

* * *

Чым болей небам хоча быць зямля,
Тым больш яна бунтуе
Праз землятрусы,
вывяржэнні і цунамі.

* * *

Каб адчуваў нагамі неба чалавек,
Тады шчэ меней
Быў бы ён пакорлівы.

* * *

На зямлі размнажаюцца плоццю,
А духам —
Праз неба.

* * *

Небам гандлююць не ў небе,
Небам гандлююць тут —
На зямлі.

* * *

Бяда зямлі і ў тым:
Здаецца часам ёй,
Што яна большая за неба.

* * *

Можа, нябёсы і адвярнуліся
Ад зямлі,
Ды толькі ні ў якім разе не ад цябе.

* * *

Хто у неба ўглядаецца,
Той не заблукае
І на зямлі.

* * *

Нібы малаком,
Пакрываецца неба аблокамі,
Каб шчыльней прытуліць
да сябе зямлю.

* * *

Прыносяць неба
На зямлю
Ерэтыкі.

* * *

Перакананні цвёрдыя ў таго,
Хто для сябе прытулак мае
І ў нябёсах.



Фота Кацярыны Мяцельскай



## Віктар ШНІП

### Балады крыві і любові

### Балада Пётры Сергіевіча (10.07.1900 — 1.11.1984)

Мастак — нявольнік вечнай прыгажосці,
Якому аж да смерці без спачыну
Не маляваць партрэты для кагосьці,
А ратаваць любімую Айчыну

Ад той самоты, што людзям не сніцца
І не дае табе спакойна жыць,
І век табе на родны край маліцца,
Які даўно распяты на крыжы

Дарог Еўропы, па якіх агнёва
Хадзілі заваёўнікі не раз,
Ды Беларусь жыве, жыве і мова,
Яна, як наша кроў, заўсёды ў нас.

І да цябе, да віленскай майстэрні,
Прыходзяць, як да Храма, мастакі
І прыгажосці беларускай зерне
Ты ў сэрцы рассяваеш на вякі,

І прыгажосць у людзях прарастае,
Якія любяць не сябе, Айчыну.
Айчына непрыгожай не бывае.
Яе любіць да смерці без спачыну.

І ты малюеш, што душа жадае,
За што табе не плацяць ні граша.
Малюеш, і душа твая спявае
І плача беларуская душа.

### Балада Тодара Кляшторнага (11.03.1903 — 30.10.1937)

Трамваі зноў разбудзяць горад шэры,
Засвецяцца, нібыта ліхтары,
Лістотай трапяткою клёны ў скверы
Жаўцюткія і чорныя ўнутры.

І ўсё абудзіцца, і дзень пачнецца,
І засмяецца сумнае дзіця,
Але тваё не страпянецца сэрца,
Бо куля ў ім і там няма жыцця,

Якое ты любіў пад родным небам,
З якога часта дождж і снег ішоў,
Ды неба іншага было не трэба,
Бо ў свеце лепшых снегу і дажджоў

Няма і не было, і больш не будзе,
І ў вершах застануцца назаўжды
Яны і новы дзень сабой абудзяць,
Нібы трамвай ад сонца залаты,

Што празвініць і знікне за дамамі
Старымі, як і гэты свет стары,
І будзе плакаць дзень дажджом-слязамі
Чарнюткімі і светлымі ўнутры.

### Балада Янкі Шутовіча (24.01.1904 — 9.12.1973)

У Віленскай карцінная галерэі
Ты сціплы беларускі вартаўнік.
І сэрца, і душу мастацтвам грэеш,
Не забываеш маладыя дні,
Дзе ты з паэтамі аб волі мроіў
Краіны, у якой жыве народ
Не цёмны і сляпы, нібыта крот,
А мудры, у якога ёсць героі
І замкі, храмы і дзяржаўнасць мовы...
Ды многае з жыцця забыць гатовы,
Дзе быў ты, вольны, за калючым дротам
І ў думках толькі Беларуссю жыў,
Што, нібы кветка папараць пад лёдам,
Была схавана ад людской душы
Пад пылам, як пад золатам, чужога,
Не лепшага, не горшага, чужога.
І наша ты ад згубы ратаваў,
Не просячы сабе ратунку ў Бога,
І потым зноў з-за кратаў уцякаў
У думках у музей, які ствараў,
З якога ты не зберажэш нічога
Амаль, але не знікне шлях адвечны,
Шлях беларускі, па якім і ты
Прайшоў па-беларуску чалавечна,
Пакінуўшы неўпыльныя сляды...

# Шпіёнскія страсці

## Апавяданне



Ніна ПРАКОПЧЫК

Апошнім часам трапляліся разведчыкі. Ураджальны быў на іх год. Шырокай шчыльнай сцяной яны рухаліся ўздоўж праспекта і абысці іх было немагчыма — расплюшчаць. Таямнічыя, пакамечаныя жыццём, нешматслоўныя.

Першага звалі... Як жа яго звалі, божачкі? Аля ішла сабе па скверыку, ішла — нікога не чапала. Плашч распахнуты, а пад ім — чорны, бы "мокры," касцюм, пояс з "залатой" спражкай сцягвае вузкую талію. Боцікі высокія, па назе, вусны падфарбаваныя ледзь-ледзь.

— Дзяўчына, вы, мабыць, фотамадэль?

— А вам хлусіць не сорамна?

Хлопец збянтэжыўся:

— А пра што я схлусіў?

— Фотамадэль — высокая, з вузкімі сцёгнамі, на шпільках. Я — маленькая, сцёгны маю класічныя, абцас — танкетка.

— Пардон, мадам.

— Мадэмуазель. Сеньярыта. Дзяўчына на выданні.

— Тады ў мяне ёсць шанцы?

Аля павольна агледзела яго з ног да галавы, і назад — з галавы да ног. Просты, відаць, што небагаты. Затое маладцаваты — так, зухаваты — так, весь як пісалі ў часы Пушкіна. Страхалюдная шапачка прыкрывала ягоны "глобус". А можа, ён лысы?

— Здыміце шапку. Трэба агледзець вашыя кучары.

Ён моўчкі, пасміхаючыся, сцягнуў шапку.

— Ці ж можна хаваць такую прыгажосць?

— А я для канспірацыі. ГРУ — чулі пра такую фірму?

Аля прыцокнула языком. Як жа, як жа! Радыстка Кэт і тры рублі на подкуп амерыканскага прэзідэнта.

— А дакумент у вас ёсць?

Хлопец узмахнуў перад Аліным носам нейкім пасведчаннем. А ў чужыя рукі дакумент, канечне, даваць нельга — гэта і каза разумее.

— Вы мяне сабраліся вербаваць? Запомніце, я патрыётка.

— Я толькі запрашаю вас за горад на пікнік з шампанскім і апельсінамі…

— І з піражнымі.

— Ды на здароўе.

Вядома, гэта проста такая хохма — пра разведку. А чаму б і не пахахміць? Шчыра кажучы, Алі заўсёды не хапала ў жыцці таямніцы. Не маленькай нейкай тайначкі, а менавіта таямніцы. Мата Хары, быццам бы. А пашпарт і наогул быў яе асабістым ворагам: бо там запісаны і год нараджэння, і мінулыя мужы, і нават адрас! А сапраўдная жанчына павінна быць у вэлюме недамоўленасці, паўцемры, прыхаванай прывабнасці. Інакш каму яна, уся такая адкрытая і зразумелая, будзе патрэбная? Хуценька надакучыць. А так, калі яе трэба разгадваць дзень і ноч...

— Валодзя Верамейчык, — прадставіўся ён, — дэсант, Чачню прайшоў.

Размаўляючы, яны перасякалі вуліцу там і тут, курсіруючы ад аднаго кіёска да другога, пакуль пакет у ягоных руках не запоўніўся "пад завязку".

Потым ехалі ў электрычцы, аддаляючыся ад Мінска ўсё далей. Выйшлі ў Ждановічах і пакрочылі па вялікай бруднай дарозе немаведама куды. Вясенняе сонца шчодрае. Цёпла.

— Слухай, вазьмі мяне ў разведку. Я нікому нічога не скажу. На мяне можна пакласціся.

— Я і сам мару хутчэй на цябе пакласціся.

Ах, вёска — ніякай культуры! А ён і сапраўды з вёскі з-пад Магілёва. "Цёмныя" бацькі, вядома, лічаць, што ён у бізнесе круціцца. А ён нават па п'янай справе нікому нічога не скажа, бо можа два літры "расціснуць", а галава ўсё роўна будзе пад кантролем.

Ля Мінскага мора нейкая высокая гара, зарослая кустоўем і рэдкімі дрэвамі. Птушкі спяваюць, свежае паветра. Аля і Валодзя падняліся на самую вяршыню. Зверху адкрываецца дзівосны далягляд — бязмежнасць. Яны расклалі апельсіны і піражныя на пакеце, але рудыя шары ўвесь час некуды коцяцца. Адзін апельсін наогул праваліўся ў малую яміну — відаць, пайшоў на падпольную працу: ён, канечне, таксама разведчык.

— Якія ў цябе мяккія вусны, — Валодзя лёгка-лёгка дакранаецца да Аліных вуснаў, і ад гэтых амаль нячутных дакрананняў у яе пачынае кружыцца галава, ці гэта ад шампанскага?

— А пісталет у цябе ёсць?

Валодзя расхінае пінжак і ў яго пад пахай — сапраўдны пісталет. Амаль як у шэрыфа з амерыканскага баевіка; канечне, пад дулам пісталета чаго не зробіш дзеля мужчыны.

Валодзя ставіць пустую бутэльку ад шампанскага ля сасны. Змяшчае пісталет у Аліну руку. Цяжкі, аднак.

— Страляй.

— Я не ўмею.

— Навучу.

Аліна рука дрыжыць. Прыцэльваецца яна чортведама куды. А Валодзя абдымае яе за плечы і сам націскае на курок. Бутэлька — ушчэнт. Пісталет вывальваецца з Аліных рук, а Валодзя цалуе яе так пяшчотна, так ласкава, так... І грубыя мужчынскія рукі прыбіраюць валасы з яе лба, блакітныя вочы глядзяць на яе кранальна і неяк безабаронна. Божачкі, адкуль у гэтым мужыку столькі пяшчоты?

…Потым яны бягуць з гары, схапіўшыся за рукі, як дзеці. Ужо вечар. Яны ідуць па дарозе і чырвонае сонца свеціць ім услед. Ногі патанаюць у дарожным пыле — на што стануць падобныя ейныя боцікі? Развітваюцца на станцыі. Усё адбываецца паводле шпіёнскага сцэнарыя: дамаўляюцца, што Валодзя патэлефануе ёй і салідным голасам запросіць яе ў сваю салідную кантору. Яна называе яму прыдуманы нумар тэлефона — яна павінна застацца таямніцай. Джэймс Бонд і Мата Хары развітваюцца назаўсёды. Заключныя апладысменты.

Аля працягвала сабе жыць спакойна і радасна, вывучаючы мужчын з менш рамантычнымі спецыяльнасцямі. Але ад разведчыкаў ёй было не схавацца. Яны высочвалі яе доўга і ўпарта. І вось аднойчы зноў выйшлі на сувязь.

Аля наўпрост бегла праз дарогу, і нехта схапіў яе за руку.

— Дзяўчына, вам надакучыла гэтае бруднае жыццё?

— Чаму — "бруднае"?

— А чаму вы тады ім рызыкуеце?

Плотны. Невысокі. З простым круглым тварам, упрыгожаным вусамі. Анатоль, палкоўнік КДБ. Шчыра кажучы, у Алі на сёння былі іншыя планы, але магічныя літары на ягоным пасведчанні зрабілі сваю справу — разведчыку Аля адмовіць не магла. Патрыятызм, вядома.

Ён кіўнуў на жоўты агромністы будынак на праспекце:

— Мой кабінет на трэцім паверсе. Бачыш, усе вокны яшчэ свецяцца? Мы ніколі не спім.

Спачатку яны гулялі па зялёнай алеі каля "Дынама", а потым Анатоль сказаў:

— А ці не выпіць нам гарбаты?

Гэтымі словамі ён Алю і "купіў". Адразу бачна — сапраўдны разведчык — гарэлкі наогул не п'е. Анатоль аказаўся вялікім "спецыялістам па гарбаце". Гадзіну апавядаў, як трэба заварваць сапраўдную гарбату, як захоўваць яе водар, што трэба піць яе маленькімі глыточкамі.

Яны ішлі па вячэрнім Мінску — шукалі месца, дзе можна выпіць гарбаты. Нарэшце, прыцягнуліся ў кафэ "Безэ", дзе падаваліся гарбата і піражныя. І пакуль Аля ўціскавала ў сябе нейкі арэхавы дэсерт, Анатоль схапіў два іхнія чайнічкі са стала і панёсся на кухню сам заварваць гарбату. Хвілін праз сорак ён з'явіўся расчараваны:

— Умовы не спрыяюць.

Гэтая кітайская цырымонія, здаецца, зацягвалася.

Потым яны апынуліся ў рэстаране. Есці ўжо не хацелася, піць не маглося. У напаўпустой зале ніхто не танчыў. Анатоль сказаў стомлена:

— Крыўдна. У мяне велізарны вопыт, а нікому гэта не патрэбна. Маладыя ды хваткія прыйшлі — ім месца пакінь. Пайду я. Папрасяць — не вярнуся.

І такое гора горкае было ў ягоных словах, што Алі нават стала яго шкада. Ці ж можна так з чалавекам?

Марожанае ўжо не запіхвалася ў страўнік. Анатоль маўчаў хвілін пяць, а потым моўчкі ж узяў яе за руку і павёў да выхаду; ля самых дзвярэй іх дагнала афіцыянтка:

— Вы не заплацілі.

Які ж ён, аднак, разгублены, гэты Анатоль. Падазронасць ужо зазірнула ў Аліну галоўку. Анатоль, не глянуўшы, кінуў афіцыянтцы грошы. Канечне, ён ад гора свайго забыўся заплаціць, ён такі пакрыўджаны, бедны. Ну як яму не паспачуваць? Эх, мужыкі, нялёгка вам, аднак, у гэтым жыцці.

І калі ён запрасіў Алю ў чацвёрты за вечар кабак, яна, вядома, не змагла адмовіць, тым болей, што ў "Іспанскім кутку" яна ніколі не была. Хулія Іглесіас у дынаміку і кальвадас на століку. Той кальвадас аказаўся горшы за самагонку. Ледзяны дэсерт у высокай шклянцы таяў на вачах. А афіцыянткі ў чорна-чырвоных спадніцах былі зграбныя, як газелі.

Анатоль запісваў свае тэлефоны ў Алін блакнот, а яна, зірнуўшы на іх, ажно пазелянела: чатырохзначны і сямізначны нумары — такіх жа не бывае!

— Ну, разведка, ты даеш! Мне што, цябе з інтэрполам шукаць?

— А я сам цябе знайду. Пойдзем адсюль — сумна. У мяне тут кватэрка непадалёк ёсць...

— Канспіратыўная? — ажывілася Аля.

— Канечне, якая ж яшчэ!

Яны ўжо спускаліся па лесвіцы, калі іх дагнала адміністратарка:

— Вы не заплацілі.

Анатоль пачаў рыцца ў кішэнях, а Аля плюнула і пайшла. Да чаго ж збяднела наша разведка — яна, мабыць, ужо і трох рублёў на подкуп амерыканскага прэзідэнта не знойдзе.

Аля ішла па начным горадзе і думала. Разважала: няшчасныя яны, сучасныя мужыкі. На "крутых" не цягнуць — грошай няма. А хочацца і дзяўчынцы пыл у вочы пусціць, і ў кабаку гульнуць. Вось і сачыняюць казкі пра разведчыкаў — гэта ж не праверыш. Малеча, хлопчыкі, шкада іх да слёз. Гэтая стовяковая славянская бабская шкадоба — яе не знішчыць, не забіць. Алкаголіка і лайдака, наркамана і бомжыка — усіх мы, бабачкі, пашкадуем. Шыкоўныя бізнес-ледзі купляюць сабе альфонсаў ці жывуць адны, а мы, бабачкі простыя, усё некага шкадуем і цягнем, цягнем з багны...

Затое трэці быў ужо сапраўдны разведчык. Адчувала Аліна сэрца, што пад гэтай смуглай скурай іграюць стальныя мускулы. Хадзіў ён вольна, але не ў "развалачку", а неяк упэўнена — гаспадар жыцця. Такому і пісталет не патрэбны — ён нічога не баіцца. Яўген.

Аля сядзела на лаўцы ў скверыку і вырашала вельмі важную вытворчую праблему. Яна зноўку пайшла ад чарговага мужа і думала, як бы гэта і развесціся, і пошліну за развод не плаціць. Дылема. А Яўген прысеў побач, працягнуў ёй пакецік з арэхамі:

— Сумуем, прыгожая?

— Ад мужа пайшла. У аўторак — развод.

— Гэта падзея сусветнага маштабу. Яе трэба адзначыць.

А спякота на вуліцы была страшная. Глабальнае пацяпленне клімату, бач ты. Яўген прынёс дзве бутэлькі піва, і яны пілі яго, бурштынавае і горкае, закусваючы арэхамі.

"Матухна-пехота", дзе ён, аказваецца, толькі ні служыў! Прайшоў увесь былы Саюз уздоўж і ўшыркі. Раскрыў кашулю на грудзях — адны шнары. А шнары, як вядома, упрыгожваюць мужчыну, і Аліна сэрца затрымцела. Яна нават пасведчання патрабаваць не стала — раз сказаў, што з камітэта, значыць, так яно і ёсць. Трэці разведчык у яе жыцці, а бог, як вядома, тройцу любіць.

Потым быў паўцёмны пакой у пяціпавярховым доме. Размаўляць гучна нельга — у суседнім пакоі мама спіць. Чокацца таксама нельга, каб не звінелі кілішкі. Стагнаць у час пацалункаў забараняецца. Канспірацыя. Калі пад акном раптам закрычалі падлеткі, выпіўшы кока-колы, Яўген ускочыў з канапы і сарваў са сцяны паляўнічае ружжо:

— Разагнаць пацаноў?

Аля нават спужалася:

— Не трэба. Хлопчыкі проста адпачываюць.

Божачкі, які нервовы.

— Лепей пакажы мне сваю форму. Ёсць жа ў вас форма, як у лётчыкаў, танкістаў.

— Павінна быць і ёсць.

Ён дастаў з шафы нештачка шэрае, бачна, што яно ніколі не апраналася, блёклае нешта. Ага, гэта, трэба разумець, так і задумвалася. Бо сапраўдны разведчык павінен умець схавацца ў натоўпе. У гэтым касцюме Яўген схаваецца дзе заўгодна — і сярод узбярэжных валуноў, і на лесапільцы, і сярод дэманстрантаў. Таму, што колер касцюма нагадваў колер гора-алкаголіка ў пахмельны ранак.

Пілі мінералку і елі шакаладнае печыва. Пытанне: як не хрумсцець печывам, каб не турбаваць маму у суседнім пакоі? А печыва правакацыйна гучна елася. І вельмі ж хацелася рагатаць уголас. Аля стрымлівалася як магла. А смяхоцце стымулявалі і рогат хлопцаў пад акном, і партрэт нейкай вусатай бабулі на сцяне. Нарэшце, Аля не вытрымала:

— Ха!

— Цішэй, — зашыпеў Яўген. Канспіратыўнасць кватэры знаходзілася пад яўнай пагрозай. Потым Яўген спытаў строга:

— Прозвішча? Узрост? Адрас?

Але не на тую патрапіў, дарагі разведчык!

— Сцепаніда Серапіёнаўна Плюшчанкова. Пяцьдзесят чатыры. Брайтан.

У Яўгена імгненна знікла ўся ягоная сексуальная энергія. Ён хуценька адхіснуўся ад Алі, закурыў цыгарэту і сказаў спакойна:

— Ты адсюль не пойдзеш, пакуль не адкажаш на мае пытанні.

Вось ён, сапраўдны разведчык! Аля захлынулася ад захаплення. Як жа доўга яна такога шукала! Як змарнела ад адзіноты ў натоўпе шэрых, звычайных, амёбных мужыкоў.

— А харчаванне тры разы на дзень?

— Вада без хлеба.

— А "два красивых охранника", як у Высоцкага?

— Ахоўнікаў пяцёра, адзін прыгажэйшы за другога, але тады ты скажаш усё.

З глузду з'ехаць. Пяцёра. Усё жыццё марыла.

— Мне, калі ласка, маладых, не старэйшых за дваццаць пяць год.

Яўген, нарэшце, усміхнуўся. Пацалаваў яе ў валасы і жорсткасць сышла з яго вачэй.

— Нашто табе маладыя? Яны нічога не ўмеюць.

— Затое ў іх шыкоўнае цела, ідэальная скура...

— Пустыя вочы, — дадаў ён. — Колюцца яны ўсе, малалеткі. Ім жанчына і не патрэбна.

Гадзіннік на сцяне паказваў ужо заўтрашні дзень. Сонца зазірала ў голае, без фіранак, акно. Халоднае ранішняе паветра ўварвалася ў фортку.

— Скажы сваё імя. Я проста хачу цябе запомніць.

— Сцепаніда Серапіёнаўна...

Яўген узарваўся:

— Я ж магу і пашпарт у сумачцы пагледзець.

— Ніколі не нашу з сабой дакументаў.

— А калі міліцыя затрымае?

— А я ім на вочы не трапляюся. У мяне высокая кваліфікацыя.

Так і развіталіся. Ён нават не стаў прасіць Алін тэлефон, зразумеў — безвынікова. Эх, разведчык! Якога ты кадра ўпусціў! Няўжо ты не зразумеў, што Аля для разведкі — проста знаходка. Прыгожая — любога злобнага шпіёна завярбуе. Французскую ведае (амаль). А, галоўнае, яе не "расколе" ніхто і ніколі — ні ФБР, ні Масад. Яна не п'е і не нюхае, і купіць яе немагчыма. Эх, разведка! А якая Аля патрыётка! Гэта ў наш час рэдкасць! А важна тое, што Аля ў глыбіні душы заўсёды разумела — там добра, дзе нас няма. За морам цялушка — палушка, ды рубель перавоз. Народная мудрасць.

А разведчыкі Алі болей не трапляліся. Шкада. Трапляліся іншыя, але ўсё не тое, не тое...

Адзінота каменем навальвалася на плечы, жалезным абцугом сцягвала сэрца… Т-с-с… Гэта паміж намі, ладна?

# Тэатр як жыццё

**Для Георгія Лойкі, вядучага майстра каласаўскай сцэны, тэатр — жыццё, а ніяк не наадварот. У Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Якуба Коласа ён працуе з 1981 года, пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (сёння — Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў). Добрыя знешнія дадзеныя, пластычнасць, музычнасць — гэтыя вартасці Георгія Мікалаевіча надаюць яго запамінальным характарным вобразам асаблівую абаяльнасць.**



Сёння ў рэпертуары акцёра нямала значных работ, сярод якіх — Джордж Пігдэн ("Ён. Яна. Акно. Нябожчык" Р. Куні), Трагік ("Доктар Айбаліт" паводле кінасцэнарыя "Айбаліт-66"), Менахем ("Памінальная малітва" Р. Горына), Мельнікаў ("Васа" М. Горкага), Ігар ("Аднакласнікі" Ю. Куліка), Альберт ("Псіхааналітык для псіхааналітыка" Д. Балыкі), Раґвалод і Расціслаў ("Крыж Еўфрасінні" І. Масляніцынай). Са спектаклямі "Пісьменныя" М. Чокэ і "Тузы" У. Відмера, дзе акцёр стварыў цікавыя вобразы Маладога чалавека і Білера, Георгій Лойка ўдзельнічаў у фестывалях сучаснай нямецкамоўнай драматургіі. Спектаклі былі адзначаны галоўнымі прызамі фестываляў, а работы Г. Лойкі высока ацэнены журы і тэатральнымі крытыкамі. Гэта далёка не ўсе прафесійныя дасягненні акцёра.

— Георгій Мікалаевіч, чаму вы вырашылі звязаць сваё жыццё з тэатральнай сцэнай?

— Яшчэ з дзяцінства я падсвядома імкнуўся да чагосьці незвычайнага. А што было незвычайным на той час? Тэлебачанне. Любіў глядзець спектаклі, кіно, быў "улюбёны" ў Андрэя Міронава, у акцёраў, што ўвасаблялі гайдаеўскіх персанажаў... Слухаў радыёспектаклі на беларускай мове, якая тады была больш запатрабаваная і распаўсюджаная, чым сёння. Упершыню ў дзяцінстве ўбачыў віцебскага "Несцерку". Тады нават і не думаў, што праз гады сам буду іграць у гэтым спектаклі. Бацькі, шчыра кажучы, былі здзіўлены маім выбарам прафесіі. Бацька працаваў машыністам на чыгунцы, маці — ткачыхай. Яна хацела бачыць мяне ў будучыні ваенным хірургам. Але я не здрадзіў сваёй мары. З першага разу паступіў у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, нягледзячы на тое, што групы набіраліся невялікія. Трапіў да цудоўных выкладчыкаў — Валерыя Мікалаевіча Раеўскага і Андрэя Валянцінавіча Карсакоўскага, якія садзейнічалі майму творчаму сталенню.

— Як вы мяркуеце, акцёрамі нараджаюцца або становяцца?

— Я не адмаўляю: ёсць найвышэйшая сіла, якая накіроўвае цябе, вядзе. Але кожная прафесія вымагае пастаяннай працы над сабой. Вучыцца трэба ўсё жыццё. У прафесійнага акцёра заўсёды павінна быць цудоўная і фізічная, і маральная, і духоўная форма, а таксама моцная грамадзянская пазіцыя. Акцёр павінен мець немалое здароўе, а для гэтага трэба прыкласці безліч намаганняў. Лічу, што вялікія заганы чалавека — гэта яго лянота, непавага да сябе. І яшчэ — артыст заўсёды павінен самаўдасканальвацца.

— Якой літаратурай вы захапляецеся?

— Я люблю класіку і не прызнаю сучасную масавую літаратуру. З дзяцінства чытаў Дастаеўскага, Талстога, хаця ў поўнай меры асэнсоўваў іх творы, толькі стаўшы дарослым. А наконт драматургаў… Я лічу, што ўсялякі твор можна "зрабіць" або "не зрабіць". Не трэба змешваць, напрыклад, Фанвізіна і Куні. Поспех спектакля залежыць не ад драматургічнай асновы, а ад працы ўсяго творчага калектыву, у першую чаргу ад рэжысёра. Той жа спектакль "Ён. Яна. Акно. Нябожчык" у пастаноўцы Юрыя Пахомава. Сама п'еса — не шэдэўр, але яна "зроблена". І спектакль сёння вельмі запатрабаваны, хаця яму ўжо больш як пяць гадоў.

— У многіх спектаклях вы іграеце разам жонкай — Святланай Жукоўскай. Прысутнасць каханага чалавека на сцэне вас разнявольвае ці, наадварот, скоўвае?

— Разам мы іграем у такіх спектаклях, як "Аднакласнікі", "Псіхааналітык для псіхааналітыка", "Ён. Яна. Акно. Нябожчык." Яна мне шмат у чым дапамагае. Асобную падзяку хочацца выказаць рэжысёру Юрыю Пахомаву, які дапамог мне стварыць арыгінальныя і запамінальныя гледачу вобразы. Менавіта з гэтым чалавекам у мяне падчас працы наладзілася ўнутраная еднасць, сяброўства і плённая сатворчасць.

Гутарылі Таццяна ДУБОЎСКАЯ, Іна СНЯЖКОВА
г. Віцебск

## Радуемся разам

Спектаклі Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача цяпер, падчас капітальнага рамонту і рэканструкцыі будынка, ідуць на дзвюх сталічных сцэнах: Дома літаратара ды Клуба імя Ф. Дзяржынскага. Адчуць творчы дух ТЮГа можна і на выстаўцы, што адкрылася ў "Гасцёўні Уладзіслава Галубка" (філіял Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі) і прабудзе тут да 31 сакавіка. Экспазіцыя пад назвай "Падарожжа ў казку" — гэта своеасаблівы, пазнавальны і захапляльны экскурс у гісторыю творчага калектыву напярэдадні яго 55-годдзя. Афішы і праграмкі спектакляў, архіўныя фотаздымкі, эскізы і макеты дэкарацый, тэатральныя



касцюмы ды іх эскізы абуджаюць фантазію наведнікаў выстаўкі. А камусьці, мабыць, нагадваюць пра ўласнае дзяцінства і першыя сустрэчы са сцэнічным мастацтвам, якія адбываліся ў сценах ТЮГа...

Антон Чэхаў у Беларусі, без перабольшвання, адзін з самых запатрабаваных сусветных класікаў. Яго творы чытаюць і чытаюць, перакладаюць, інсцэніруюць, ставяць. А сёлета, у сувязі са 150-годдзем з дня нараджэння вялікага рускага пісьменніка, увага да яго прозы і драматургіі асаблівая. На сцэне Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі,



напрыклад, нядаўна прайшла шматгадзінная імпрэза, падрыхтаваная Цэнтрам беларускай драматургіі і рэжысуры ды Беларускай дзяржаўнай акадэміяй мастацтваў. Тэатральны мікс "Чehow XXI" складаўся з работ маладых рэжысёраў, драматургаў і акцёраў, эксперыментальных пастановак паводле чэхаўскай прозы і яго неўміручых камедый.

"Крыга" — назва новай галерэі, што з гэтага года пачала працаваць у старажытным кутку Гродна. Адкрылася яна выстаўкай твораў заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, прафесара, старшыні Беларускага саюза мастакоў Уладзіміра Савіча.

А вось добра знаёмая жыхарам сталічнага мікрараёна Серабранка Гарадская мастацкая галерэя твораў Л. Шчамялёва здзівіла сваіх на-




веднікаў экспазіцыяй, незвычайнай для гэтага майстра. Работы знанага жывапісца, народнага мастака Беларусі Леаніда Шчамялёва, якія знаходзяцца тут пастаянна, дапоўніў "Дзённікі падарожжаў". Як удакладняе дырэктар галерэі, мастацтвазнаўца Таццяна Бембель, у "Дзённіках..." апроч жывапісу, прадстаўлена графіка — замалёўкі, накіды, эцюды, зробленыя Л. Шчамялёвым падчас вандровак у розныя гады: "Маляваны дзённік вандраванняў мастака — класіка жанру. Падарожныя замалёўкі цікавыя і тым, што гэта — "кухня" мастака, яго творчая лабараторыя. Тут бачыш імгненныя, спантанныя ўражанні, самы першы, непасрэдны позірк на свет..."

Лана ІВАНОВА

На здымках: макет дэкарацыі спектакля ТЮГа "Тарас на Парнасе" паводле С. Кавалёва (мастак Л. Рулёва); "прачытанне" оперы С. Картэса "Юбілей" паводле А. Чэхава; Гарадская мастацкая галерэя твораў Л. Шчамялёва.

Фота Віктара Кавалёва і Аляксандра Дзмітрыева

# Дотык шчырасці

**У кожнага чалавека на зямлі сваё прызначэнне. І як бы ён не імкнуўся сысці з наканаванага яму шляху, усё ж жыццёвыя пуцявіны прывядуць туды, дзе найлепшым чынам раскрыецца яго душа. Гэты закон жыцця спраўдзіўся ў лёсе нясвіжскай мастачкі Эвеліны Міцкун.**



Яна нарадзілася ва Украіне, у горадзе Крывы Рог у 1972 годзе, а ў 1976-м сям'я пераехала ў Нясвіж. Маленькая Эвеліна вельмі любіла маляваць. Калі дзяўчынка пайшла ў школу, мама ўгаварвала паступіць яшчэ і ў школу мастацтваў, але юная мастачка не лічыла, што малюе добра. Дарэчы, гэтую самакрытычнасць, строгасць у ацэнцы сваіх работ, захавала Эвеліна Міхайлаўна і да сённяшняга дня. Яе палотны захапляюць багаццем фарбаў, арыгінальнасцю. Яны настолькі рэалістычныя, што ў гледача ўзнікае адчуванне, быццам гэта не створаны мастачкай сюжэт, а рэальны куточак Беларусі. Хочацца пахадзіць басанож па роснай траве ("Раніца ў Альбе"), прайсціся вясковай вуліцай (карціны на вясковыя сюжэты), пасядзець на высокім беразе Нёмана і падумаць пра вечнае ("Высокі бераг"), з'ехаць з горкі на лыжах ці санках, удыхнуць марознага паветра ("Зімовыя малюнкі").

Але Эвеліна Міхайлаўна не заўсёды задаволеная вынікамі сваёй працы, прызналася, што калі-нікалі знішчае створанае раней, накладвае на выяву штосьці новае — на яе думку, больш цікавае.

Эвеліна Міцкун — выпускніца Мірскага вучылішча, скончыла аддзяленне рэстаўрацыі мастацкіх тынкоўвак і скульптурных вырабаў. Яна з удзячнасцю ўспамінае сваіх выкладчыкаў Міхаіла Шапяленку, Мікалая і Ірыну Чычканоў. Але першым настаўнікам выяўленчага мастацтва стаў для Эвеліны Віктар Міцкун, будучы муж, які набываў у вучылішчы спецыяльнасць дэкаратара-афарміцеля і яшчэ да паступлення туды пісаў цудоўныя карціны. Пазней Віктар Міцкун пакінуў маляванне, заспакоены тым, што раскрыў незвычайны талент сваёй жонкі. А сам заняўся заробкам "хлеба надзённага" з надзеяй калі-небудзь вярнуцца да ўлюбёнай справы. Эвеліна ж працягвала шукаць і знаходзіць менавіта тыя сюжэты і вобразы, якія не пакінулі б абыякавымі гледачоў. Яна "брала ўрокі" ў Івана Айвазоўскага, Леанарда да Вінчы, Сальвадора Далі, перамалёўваючы рэпрадукцыі іх карцін. Імкнулася самастойна авалодаць мастацкімі прыёмамі. Спрабавала сябе ў розных стылях. Калі-нікалі звярталася да сюррэалістычных матываў, па-сапраўднаму зразумелых толькі ёй. Але спынілася ўсё ж на рэалістычным напрамку: маляў, навошта прыдумляць сабе ўяўныя вобразы, калі прыгожага навокал так многа! Застаецца толькі прыпыніцца і занатаваць убачанае.

Добрыя выкладчыкі, урокі мужа, а да ўсяго і дванаццацігадовы ўласны вопыт паспрыялі таму, што работы Э. Міцкун былі заўважаны. Яе персанальныя выстаўкі праходзілі ў Клецку, Капылі, Нясвіжы. Мастачку вельмі засмучае недахоп акадэмічнай школы, а мне думаецца, ці не згубіла б Эвеліна сваю адметнасць, засвоіўшы каноны жывапіснага мастацтва?

У сям'і Віктара і Эвеліны Міцкуноў гадуюцца сын і дачка. Цяпер яны не падзяляюць захаплення бацькоў, хаця мастацтва — не на апошнім месцы ў іх жыцці: Лідзія займаецца танцамі, Франц закончыў Нясвіжскую школу мастацтваў па класе скрыпкі.

Ды хто ведае, ці не возьме адзін з іх калі-небудзь у рукі пэндзаль і пойдзе поруч з бацькамі, каб стварыць свой выяўленчы вобраз, непаўторны і арыгінальны, як само жыццё.

Валянціна ШЧАРБАКОВА
г. Нясвіж

На здымку: Эвеліна і Віктар Міцкуны ў час падрыхтоўкі вернісажа.



Ролі Генадзя Аўсяннікава не падзяляюцца на "знакавыя" і "прахадныя". Кожнаму яго выхаду на сцэну, як іспыту абітурыента, спадарожнічае трапяткі, шчыра ўсхваляваны настрой. Кожная, нават не адзін дзесятак разоў сыграная, роля — як жыццё з чыстага ліста. І ці магчыма выбраць нейкую адну з амаль дзевяноста яго роляў, пражытых за больш як паўвекавое служэнне ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы, каб назваць яе візітоўкай творчасці гэтага самабытнага артыста?

# Творчы «Вечар», творчы поўдзень!

У 1974 годзе Генадзь Аўсяннікаў атрымаў ганаровае званне народнага артыста БССР, у 1991-м ганараваны званнем "народны артыст СССР". За выкананне галоўнай ролі Мурашкі ў камедыі "Мудрамер" М. Матукоўскага адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі (1988 г.). У 1995-м Генадзь Сцяпанавіч узнагароджваецца медалём Францыска Скарыны. У 2006-м яму ўручаюць самую прэстыжную прэмію Беларускага саюза тэатральных дзеячаў — "Крыштальную Паўлінку" і высокую дзяржаўную ўзнагароду — ордэн Францыска Скарыны. А праз два гады — спецыяльную прэмію Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Тыдзень таму знаны артыст-купалавец адзначыў сваё 75-годдзе. З юбілеем артыста павіншаваў кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка. 21 лютага на сцэне Купалаўскага тэатра быў паказаны "Вечар" А. Дударава, дзе Генадзь Аўсяннікаў выконвае галоўную ролю. Пасля спектакля адбылася віншавальная імпрэза ў гонар юбіляра.



Візітоўкай унікальнага таленту і майстэрства Генадзя Аўсяннікава ўспрымаецца, бадай, кожная з увасобленых ім роляў беларускага нацыянальнага рэпертуару. Пранцысь Пустарэвіч у "Паўлінцы", Навум Прыгаворка ў "Ідыліі", Караўкін у "Браме неўміручасці", Цыбулька ("Таблетку пад язык"), Цярэшка Калабок у "Трыбунале", Мурашка ў "Мудрамеры", галоўны герой у "Страсцях па Аўдзею", Шляхціц Завальня ("Беларусь ў фантастычных апавяданнях"), Васіль у "Вечары"... Для каларытных персанажаў Янкі Купалы, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Кандрата Крапівы, Андрэя Макаёнка, Міколая Матукоўскага, Уладзіміра Бутрамеева, Яна Баршчэўскага, Аляксея Дударава ён знайшоў трапны, арганічны "акцёрскі эквівалент", надзяліў іх па-аўсяннікаўску і сакавітымі, і дасціпнымі, і непаўторнымі, і неадназначнымі, і зусім не простымі беларускімі характарамі.

Вясёлыя, сатырычныя, драматычныя, трагікамічныя фарбы з палітры Генадзя Аўсяннікава заўсёды ўпісваюцца ў агульны малюнак акцёрскага ансамбля. Якімі жывапіснымі атрымліваліся мізансцэны з удзелам гэтага майстра ў спектаклях "Характары" паводле В.Шукшына (роля Казуліна), "Вечны Фама" У. Бутрамеева паводле Ф. Дастаеўскага (роля Фамы Апіскіна), "Чычыкаў" паводле паэмы М.Гогаля "Мёртвыя душы" (роля Сабакевіча), "Памінальная малітва" Р.Горына паводле Шолама-Алейхема (роля Урадніка)...



Зрэшты, два апошнія з названых спектакляў, як і Купалава "Паўлінка", і пастаноўка паводле Я.Баршчэўскага "Беларусь у фантастычных апавяданнях", і леташняя прэм'еры "Вяселле" паводле А.Чэхава, "Хам" паводле Э. Ажэшкі (ёсць тут ролі і ў Генадзя Сцяпанавіча) — на афішы сезона і ў рэпертуарным активе Майстра. А вось "Вечар", пастаўлены паводле вядомай п'есы А. Дударава, быў абраны купалаўцамі для паказу ў гонар шаноўнага калегі Генадзя Аўсяннікава, якому споўнілася 75... Якая дзёрзкая ідэя: сыграць у святочны, юбілейны вечар спектакль-рэквіем, працяты шчымлівымі матывамі адзіноты, забыцця, развітання! А потым — пачуць ад жыццярадаснага, поўнага творчай энергіі, бенефіцыянта: "Яшчэ не вечар!"

Генадзя Аўсяннікава запрашаюць на тэлебачанне, яго ахвотна здымаюць у кіно. Яго каларытны тэмбр голасу, яго непаўторную, з невытлумачальнай "беларушчынкай", гаворку заўсёды пазнаеш у радыёэфіры...

Дарэчы, пра радыё. Гадоў 20 таму мне давялося прысутнічаць у легендарнай 4-й студыі на запісе музычнага радыёспектакля, да якога мела дачыненне як аўтар сцэнарыя і як музычны рэдактар. Дакладней, у самой студыі, перад мікрафонам, шчыравалі толькі акцёры. Гукарэжысёр, гукааператар, рэжысёр спектакля і рэдактар знаходзіліся ў апаратнай. (У аснове кампазіцыі былі ваенная проза Івана Чыгрынава і сімфанічная музыка Уладзіміра Кандрусевіча). Запомнілася ўсё — нібы толькі ўчора было...

"Гена, ты што?!! Толькі не куры ў студыі!" — спалоханым голасам азваўся з апаратнай рэжысёр. Ён адрэагаваў на гук, бо, вядома ж, не мог праз цьмянае акенца між радыёстудыяй і апаратнай бачыць, што адбывалася ў гэты момант перад мікрафонам. Уяўляеце, якога класа акцёр — а гэта быў менавіта Генадзь Аўсяннікаў — удзельнічаў у запісе радыёспектакля, калі нават спрактыкаваны рэжысёр "пачуў" агеньчык запаленай цыгаркі, гаркаваты дым самасаду, прарэзлівы смак першай зацяжкі! Акцёр жа "ўсяго толькі" адарваў, шаргатліва, шматок нейкай газеты, пацьфукаў на паперчыну, прасуючы пальцамі краі самакруткі; цмокнуўшы ды крэкнуўшы, пакхекваючы, прамаўляючы пры гэтым свой тэкст, "закурыў"... Імгненне, штрых... Але гэтага было дастаткова, каб Генадзь Аўсяннікаў запомніўся мне сваім грунтоўным прафесіяналізмам і тут, на запісе музычнага радыёспектакля, дзе нельга было "схавацца" за грым, сцэнічны касцюм, дэкарацыі...

І яшчэ помніцца, як некалькі гадоў таму ў Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі адкрывалася выстаўка, прысвечаная незабыўнай, народнай артыстцы СССР Галіне Макаравай. Прыйшоў на тую вечарыну і Генадзь Аўсяннікаў. Наколькі шчыра, эмацыйна, артыстычна распавядаў ён пра легендарную зорку Купалаўскай сцэны, адчуваеш нават сёння, углядаючыся ў чараду імгненняў, спыненых фотамайстрам...

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: народны артыст СССР Генадзь Аўсяннікаў расказвае...

Фота Кастуся Дробава



# Калі спяваюць рукі...

Ва ўсім свеце самабытная мікракультура людзей, якія не чуюць, выклікае цікавасць. Людзі з недахопам слыху — прыроджаныя артысты, непаўторныя мімы, мастакі з асаблівым успрыманнем колераў і фарбаў, вясёлыя і дасціпныя клоуны. "Мы надаём развіццю культуры людзей, якія не чуюць, самую пільную ўвагу і прапагандуем нашы дасягненні ў агульным культурным працэсе дзяржавы", — зазначае намеснік старшыні Беларускага таварыства глухіх Анатоль Нікіцін.

Не так даўно адбыўся рэспубліканскі семінар кіраўнікоў дамоў культуры Беларускага таварыства глухіх. Удзельнікі абмяняліся досведам у тым, як прыцягваць у свае ўстановы сродкі на развіццё культуры, падтрымліваць новыя ініцыятывы. Праводзіўся семінар на базе Палаца культуры гомельскага прыватнага унітарнага прадпрыемства "Віпра", і невыпадкова.

За 30 гадоў сваёй дзейнасці гэты палац стаў адметным асяродкам культуры, дзе збіраюцца аматары мастацтва, жыхары мікраараёна са сваімі сем'ямі, наведваюць студыі, гурткі. У студыях дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва заняткі вядуць Алена Токарава і Таццяна Паўлоўская. Перадае таленавітым маладым гамяльчанам любоў да творчасці кіраўнік студыі "Палітра" глуханямы мастак Васіль Сідарэнка, самародак з Палесся. Тут працуе 8 калектываў са званнем "народны", у тым ліку Тэатр мімікі і жэсту, створаны ў 1953 годзе. На сцэне тэатра з поспехам ішлі пастаноўкі паводле твораў класічнай літаратуры. У рэпертуары народнага ансамбля танца "Світанак", які заснаваны ў 1961-м, прадстаўлены беларускія народныя і эстрадныя танцы. Турысцкі рух, злёты, конкурсы, выстаўкі — многае было ў гісторыі гэтага своеасаблівага клуба інвалідаў па слыху. Людзьмі, якія не чуюць, была нават створана унікальная кінастудыя мастацкіх і дакументальных стужак "Ракурс", і яе фільмы дэманстраваліся па тэлебачанні.

Менавіта ў Гомелі на беразе Сожа з удзелам глухіх артыстаў, мімаў, мастакоў раз на два-тры гады праводзіцца непаўторны фестываль гумару "Белая варона", які прыцягвае аматараў з Беларусі, Украіны, Расіі. Між іншым, у пабрацiме Гомеля, шатландскім горадзе Абердзін, мову жэстаў вывучаюць сёння настаўнікі ў школах, медыцынскія сёстры ў шпіталях, святары.

Дзейнасць Палаца культуры неаднойчы заахвочвалася, у тым ліку ўзнагародамі міжнароднага конкурсу малюнкаў "На сваёй зямлі", гарадскіх конкурсаў " Зорнае юнацтва", "Вясёлка талентаў". Дырэктар палаца Валеры Іваноў упэўнены: "Наша прызванне ў тым, каб знаходзіць і адкрываць таленты ў маладых людзях. Заўважыць агеньчык, своечасова падтрымаць, накіраваць, — абавязак нашых педагогаў і мастакоў. Творчы чалавек заўсёды малады душой. Мы лёгка распазнаём тых, у каго асаблівае гарэнне ўнутры, гэта людзі, блізкія нам па духу".

Удзельнікам семінара быў і госць з краіны-суседкі, кіраўнік Кіеўскага культурнага цэнтра Украінскага таварыства глухіх Уладзімір Ганчарэнка. Ён распавёў, як у нялёгкіх умовах украінскім калегам удаецца арганізоўваць тэатральныя фестывалі, запрашаць да ўдзелу замежных артыстаў і зорак эстрады і дбаць пра тое, каб заробленыя сродкі ішлі на падтрымку людзей з абмежаванымі магчымасцямі.



Расказаў і пра дзейнасць прафесійнага тэатра пантамімы "Вясёлка" ў Кіеве.

А яго беларускі калега Іван Несцер, які 10 гадоў узначальвае Дом культуры "Метиз" у Магілёве, падзяліўся такой інфармацыяй. У гэтым Доме культуры — 3 творчыя аб'яднанні і 8 аматарскіх калектываў. У Магілёве ёсць надзвычай таленавіты народны маладзёжны калектыў "Спяваючыя рукі". За удзел у 6-ым гарадскім конкурсе-аглядзе "Зямля пад белымі крыламі" група артыстаў была ўзнагароджана дыпломам І ступені. На IV фестывалі творчасці інвалідаў у Смаленску "Мы — разам" група "Спяваючыя рукі" таксама атрымала дыплом лаўрэата 1 ступені. Ідэйным натхняльнікам выканання жэставых спеваў з'яўляецца мастацкі кіраўнік калектыву Марыя Скрыцкая.

Эма ДЗВІНСКАЯ

На здымках: узор дэкаратыўна-прыкладной творчасці; "Спяваючыя рукі".

Фота аўтара

Як чытач і аматар паэзіі прызнаюся ў адной сваёй слабасці, якая праяўляецца ледзь толькі я пераступаю парог кнігарні. Гэта — калектыўныя зборнікі. Так, так, тыя самыя, якія даўным-даўно ахрышчаны "брацкімі магіламі". Аднак, па сабе памятаю — кожны літаратар-пачатковец згадзіўся б быць "пахаваным" у іх, як гавораць, за мілую душу. Як напамін пра дарагія сэрцу даўнія літаратурныя падзеі, ляжаць на маёй кніжнай паліцы танюткія зборнічкі, выдадзеныя Калінінградскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў СССР: "Адзінаццаць", "Вечны агонь", "Гарызонты", "Вытокі"...



# Зрок сэрца

Але чаму я люблю іх і сёння, гэтыя калектыўныя пісьменніцкія «вылазкі» ў свет? Таму што ў іх больш павагі да мяне, навучанага вопытам чытача, чым я знаходжу яе ў тоўстых кнігах. Паэт, які прадстаўлены ўсяго 5—10 вершамі, не дасць мне падмануцца ў ім. Ён шчыры сваім талентам альбо яго адсутнасцю. Тым самым ён паважае мой час і грошы. Так адной кропелькі крыві ў прабірцы больш чым дастаткова, каб зрабіць усебаковы аналіз стану арганізма. Больш за тое, я запомню імя аўтара, вершы якога мне спадабаліся, і потым не прайду міма яго ўласнай кнігі. З такімі думкамі і пачуццямі я адкрыў яшчэ адзін калектыўны зборнік. Гэтым разам ён выйшаў у Віцебску і названы ў гонар вялікай ракі — "Дзвіна".

Але ён мае істотнае адрозненне ад звычайных зборнікаў вершаў і прозы пад адной вокладкай. Перш за ўсё, гэта альманах. А пры ўсёй нерэгулярнасці такога роду выпускаў усё-ткі іх працяг мяркуецца, і па меры папаўнення рэдакцыйнага партфеля паўстае пытанне пра выданне новага тома. У гэтым сэнсе яго рэдактар-укладальнік падобны да свайго калегі, які займаецца складаннем серыі кніг на планавай аснове. З адной, праўда, істотнай розніцай. Серыя наўрад ці задумваецца і абвяўляецца будучым чытачам без упэўненасці ў яе фінансавым забеспячэнні. А вось на альманах штораз трэба шукаць грошы. І, чытаючы на адваротнай старонцы тытула "Дзвіны" радкі: "Віцебскае абласное аддзяленне ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі" дзякуе Віцебскаму аблвыканкаму і асабіста старшыні Аляксандру Мікалаевічу Косінцу за паважлівыя адносіны, падтрымку творчай працы пісьменнікаў і выхад у свет дадзенага выдання", — разумееш, як шмат гэтыя радкі важаць. Канкрэтны выраз "вагі" — 15 мільёнаў рублёў. І гэта, зазначым, у сучасных эканамічных умовах.

У альманаху прадстаўлены 74 паэты і празаікі. Сярод іх — як шырока вядомыя чытачу імёны, так і тыя, што з'явіліся ўпершыню. Сказаць пра ўсіх, зразумела, не змагу. Кожны з раздзелаў кнігі, а іх дзевяць, варты асобнай гутаркі. Таму гэтую рэцэнзію прашу ўспрымаць як заўвагі на палях нататніка. Але і тут прыйдзецца абмяжоўвацца: амаль усе аўтары маюць запамінальныя радкі, страфы, вершы і аповеды.

Адкрывае альманах Барыс Бележэнка. Лепшы Бележэнка — у вершах пра прыроду. "Дзве ружы чорныя — сяброўкі па бядзе — // плылі учора ў чоўне па вадзе." Барыс Паўлавіч — паляўнічы. Апасродкавана пра гэта захапленне сведчыць яго аповед "Попутчик", які нібы спісаны з самога жыцця.

Прадметныя і "асязальныя" вобразы Маіны Бабарыкі: "За подводой мокрый жеребенок // Тоненькими ножками форсит". "Форсит" — узнагарода назіральнасці паэтэсы. Альбо такое: "Я слышу, как спешит будильник, постукивая каблучками, // Из ниоткуда и в никуда». Аднак жа як блізка падышла Маіна Бабарыка да вялікага арабскага паэта Халіля Джэбрана, які напісаў у "Прароку" пра час: "от себя к себе летит сквозь космос как на крыльях".

Уражвае зрок сэрца Міколы Балдоўскага: "Я благодарен, как солнышку, маме, // Чей огонёк, догорев, не потух". Выдатна! У лепшых традыцыях паэзіі пра маці. А вось да паэтычнага зроку Мікалая Якаўлевіча ёсць прэтэнзіі. "Покрылся пухом молочай. // Пылит на сумерки дорога". Значыць, з набліжэннем змяркання дарога пачынае пыліць? Бо іншага прачытання тут няма. Або: "С крыла в голубизну // Про небыль и про быль я // Все песни расплесну // Из рога изобилья!". Дык з крыла ці з рога багацця паэт абяцае расплюхаць песні?

Наогул, дачытаўшы альманах да канца, я ўбачыў, што наяўнасць у паэтаў двух зрокаў (сэрца і таго, якім вочы ўспрымаюць навакольную рэальнасць) — досыць тыповы выпадак. Там, дзе творцы аналізуюць, заглыбляюцца ў свой унутраны свет, яны больш дакладныя і індывідуальныя, чым у малюнку яго знешніх прыкмет. Пацвярджае гэтую супярэчнасць і спакойная, мудрая лірыка Аляксандра Жыгунова. У ёй мінімум слоў, максімум падтэксту, які заўсёды вызначае талент. "Выпаў лёс. І яго не зыначыць. // Проста выткаўся гэткі сувой. // Што хацеў я урэшце пабачыць // На далёкай радзіме сваёй? // Я не маю на гэта адказу. // Дзень самотны. Журба. Лістабой. // Нечакана і неяк адразу // Захацеў размінуцца з сабой. // Ліст апошні з галінкі зляцеў. // У прыродзе такая падзея! // ...Размінуцца з сабой захацеў? // Значыць, ёсць яшчэ ў сэрцы надзея."

Але ў таго ж Жыгунова чытаем: "Вось прыхінешся да бярозы, // Нібыта ўзыдзеш на прастол". Спрабую перакінуць масток паміж першым і другім — не атрымліваецца. Не падобная бяроза да прастолу, хоць забі!

Прыкладна такую ж паспешлівасць у малюнку прыроды дапускае Ганна Зінкевіч. Вось яна піша: "Першым промнем рабіна сагрэта". Але ці можна ў гэта паверыць? Не, вядома. Хоць Ганна Браніславаўна ў тым жа вершы знаходзіць параўнанні, якім нельга не парадавацца: "Дзень пачаўся, і летняя стома / / Пралілася, як мёд з гладыша". Або: "Ціша, нібы гусачка, плыве". Западае і ў памяць, і ў душу.

Заўсёды з нецярплівасцю чакаю новых вершаў Генадзя Казака. Яны ў яго, як правіла, размашыстыя, нечаканыя. Дагэтуль памятаю яго: "И как художник в аккурат, // В рубахе красной и просторной/ Он плугом рисовал квадрат, // Большой, загадочный и чёрный". У альманаху Казак не такі каларытны, хоць сустракаюцца і тут безумоўныя ўдачы. Як гэтая, напрыклад: "А листья опускаются на землю, // Как будто птицы после перелёта". Галоўны недахоп яго падборкі ў кніжцы — даўготы вершаў і нават, на жаль, штампы: "О,если б в мире порохом не пахло!// О, если б в мире пахло только хлебом!"

Зноў шкрабануў па сэрцы "Дурачок" Тамары Красновай-Гусачэнкі. Прачытаўшы або пачуўшы яго аднойчы, нізавошта не забудзеш, як жыў у вёсцы няшчасны юродзівы, які не ўмеў гаварыць. А калі памёр, аказалася, што ніхто не ведаў яго імя, бо ўсе звалі яго Иох, — адзінае, што той і ўмеў вымавіць. Пахавалі яго ля маці і напісалі: "Любімы сынок". Тамары Іванаўне асабліва ўдаюцца сюжэтныя вершы, вершы-гісторыі. Шкада, што няма ў альманаху яе каронных "Трамвая", "Потопа", нядаўна апублікаваных у "Нёмане". Лепшае з прадстаўленага ў кнізе, на мой погляд, — драматычны верш "Молитва". У ім "дышит почва и судьба". Жанчына просіць Бога выканаць яе жаданні, але згоду атрымлівае толькі на адно. Што прасіць? Здароўя? Але "не болеет тот, кто не живёт". Вечнага жыцця? Гэта неспасцігальна. Кахання? Але нельга няволіць таго, хто кахае. Шчасця? Але гэта "значит, у кого-то отнимать". Бязбеднай долі дзецям? Але тады "радости труда я их лишу". Багацця? Але "его с собой не унести". Каб ворагі сталі сябрамі? Каб "ожил сын мой! Или мама!" — праносіцца ў галаве малітоўніцы. І яна вырашае: "Господи! Даруй мне разум, Боже, // Чтобы всё, что дал, перенести..."

Ужо намытых мной залацінак на капальнях "Дзвіны" дастаткова, каб адчуць сябе багатым чалавекам. Але яны трапляюцца яшчэ і яшчэ. "И столько холода в глазах, // что снег не тает на ресницах». Гэта шыкоўная знаходка Алёны Крыклівец. Запаліў клёны, "словно ярмарки" (!), Мікалай Наменнікаў. У самым найпрацейшым ён убачыў, як трэба ставіцца да ўзросту: "А вдоль забора — не пропадём! — густо росла крапива". Или: "И так светло звенели воды, // И так легко дышала грудь, // Что показалось: можно годы, // как будто градусник, стряхнуть..."

На вялікі жаль, выхаду "Дзвіны" не дачакаліся тры яго аўтары: Эдуард Зубрыцкі, Алесь Мазур і вядомы празаік Уладзімір Сітаў. Дваіх з іх я добра ведаў яшчэ са студэнцкіх гадоў. Літаральна за пару тыдняў да смерці Эдуард у тэлефоннай гутарцы абяцаў даслаць свае апошнія кніжкі: "Пачытай. Спадабаецца — мо што напішаш". А "Святліца" Алеся даўно ляжала на маім пісьмовым стале і сапраўды падавалася светлай, аптымістычнай, якім і быў яе творца. Пасля яго смерці яна адразу неяк пацямнела, пасумнела і за радкамі стала відавочна праступаць прадчуванне паэтам свайго лёсу. Вершы паэта, які пайшоў з жыцця, заўсёды падаюцца іншымі, чым пры яго жыцці. Яны дальнамерныя. Вось як гэты, Зубрыцкага: "Ізноў збягу ў сваё маленства, // У край, найлепшы на зямлі. // Адкуль ніколі б не вяртацца, // Дзе бессмяротнымі былі... // Убачу, шэрая зязюля, // Даўно забыўшыся на дом, // У цёмным ельніку заснула, // Мой век схаваўшы пад крылом" ("Зязюля").

А пакуль бессмяротнымі з'яўляюцца самыя маладыя аўтары альманаха. Яшчэ, вядома, не вершамі, але надзеяй на тое, што яны, сапраўдныя, прыйдуць. Такое ўражанне застаецца пасля прачытання раздзела "Новыя імёны", — творы Марыны Гарбачэўскай, Аляксандры Канаплёвай, Ірыны Карэлінай, Аляксандра Шура, Уладзіміра Свірковіча і іншых.

Цёплыя і разумныя пачуцці нараджаюцца ў душы пасля аповедаў Генадзя Пацыенкі (асабліва ўдалыя яго накцюрны), абразкоў Мікалая Мароза, замалёвак Маіны Бабарыкі, псіхалагічна дакладна выпісаных карцінак Тамары Красновай-Гусачэнкі, Генадзя Катлярова, Марыі Лук'яненкі, Кастуся Нілава, Уладзіміра Сауліча, Валерыя Строкіна, драматургіі Фёдара Палачаніна. Гэтае адчуванне камфорту крыху перабівае фантастыка Андрэя Герашчанкі, але такая ўласцівасць жанру. Публіцыстыка ў выкананні Міхася Кузьміча і Аркадзя Русецкага, успаміны пра бацьку, беларускага паэта Тодара Кляшторнага, якімі дзеліцца з чытачом яго дачка Тадзіяна, нарэшце, старонкі, гасцінна прадастаўленыя паэтам і пісьменнікам з Браншчыны, — усё гэта робіць гонар густу і прафесіяналізму рэдактараў-укладальнікаў альманаха.

Афарыстычна напісала Кацярына Сосна: "Час бяжыць, лёсы вяжуцца вёснамі..." Думаецца, што лёс альманаха "Дзвіна" будзе шчаслівым. Бо яго "вяжуць" дзесяткі вёснаў яе аўтараў. Чаму вёснаў? Таму што натхненне — заўсёды вясна!

Юрый САПАЖКОЎ

## Запрашэнне да дыскусіі

# Вектар беларускай фантастыкі

Фантастыка была і застаецца адным з самых папулярных літаратурных жанраў. Яна імкнецца даследаваць чалавека як частку рэчаіснасці, што імкліва мяняецца пад уплывам навуковых і тэхнічных адкрыццяў; пісьменнікі-фантасты даследуюць асаблівасці мыслення, паводзінаў і стасункаў людзей у незвычайных, нярэдка экстрэмальных сітуацыях, спароджаных дасягненнямі навукі. І хаця фантастычныя творы, як правіла, паўстаюць апераджальнымі адбіткамі рэчаіснасці, яны дазваляюць уздымаць і абмяркоўваць надзвычай важныя і актуальныя навуковыя, сацыяльныя і псіхалагічныя пытанні.

Тыражы твораў вядучых расійскіх фантастаў братоў Стругацкіх, С. Лук'яненкі, В. Галавачова, Д. Глухоўскага дасягаюць мільёнаў асобнікаў.

А што ж у Беларусі? У пачатку 1990-х фантастычныя творы беларускіх пісьменнікаў актыўна друкавалі дзяржаўнае выдавецтва "Юнацтва" і прыватнае выдавецтва "Эрыдан". "Юнацтва" выпускала славутую серыю "Бібліятэка прыгод і фантастыкі", у якой пабачылі свет творы Н. Новаш, У. Кулічэнкі, С. Трусава ды іншых. Выдавецтва "Эрыдан" арганізавала выпуск часопіса "Фантокрим-Мега", у якім былі апублікаваныя творы С. Булыгі, Я. Дразда, Б. Зяленскага, Ю. Брайдэра, М. Чадовіча ды іншых аўтараў, выдавала зборнікі і кнігі. Даволі рэгулярна праводзіліся літаратурныя конкурсы, фестывалі і сустрэчы пісьменнікаў-фантастаў.

Прыкладна з сярэдзіны 1990-х, пасля аб'яднання дзяржаўных выдавецтваў "Юнацтва" і "Мастацкая літаратура" і ліквідацыі прыватнага выдавецтва "Эрыдан", сітуацыя пачала імкліва пагаршацца. На кніжны рынак Беларусі абрынулася хваля фантастычных твораў расійскіх аўтараў, папулярызацыі якіх спрыялі рэкламныя кампаніі ў СМІ. Беларуская фантастыка апынулася на ўзбочыне кнігавыдавецкага працэсу. Аўтары, назвы чыіх твораў яшчэ ўчора былі на слыху ў шырокай чытацкай аўдыторыі, мусілі пісаць "у стол" альбо пагаджацца на шматгадовыя чэргі ў маскоўскіх выдавецтвах, дзе іх ніхто не чакаў. Калі пісьменнік, які ахвяраваў на напісанне свайго твора некалькі гадоў, нарэшце прыходзіў з рукапісам у выдавецтва, яму з ветлівай усмешкай тлумачылі, што чытач страціў цікавасць да беларускай фантастыкі, што неразумна траціць час на спаборніцтва з маскоўскімі "акуламі пяра", лепш "малаціць" так званую "папулярку", гэта значыць навукова-папулярную, даведачную і вучэбную літаратуру, якая заўсёды будзе карыстацца ўстойлівым попытам.

У пачатку 1990-х фантастычныя творы беларускіх пісьменнікаў актыўна друкавалі дзяржаўнае выдавецтва "Юнацтва" і прыватнае выдавецтва "Эрыдан". "Юнацтва" выпускала славутую серыю "Бібліятэка прыгод і фантастыкі", у якой пабачылі свет творы Н. Новаш, У. Кулічэнкі, С. Трусава ды іншых. Выдавецтва "Эрыдан" арганізавала выпуск часопіса "Фантокрим-Мега", у якім былі апублікаваныя творы С. Булыгі, Я. Дразда, Б. Зяленскага, Ю. Брайдэра, М. Чадовіча ды іншых аўтараў, выдавала зборнікі і кнігі. Даволі рэгулярна праводзіліся літаратурныя конкурсы, фестывалі і сустрэчы пісьменнікаў-фантастаў.

У пачатку 2000-х акрэсліўся агульны спад інтарэсу да кнігі. Імклівае распаўсюджванне Інтэрнета і лічбавых тэхналогій толькі ўзмацніла гэтыя працэсы. Час лёгкіх і хуткіх грошай у кніжным бізнесе мінуў. Кніга стала дарагім падарункам. Многія выдаўцы ў пагоні за прыбыткам забыліся, што стварэнне кнігі — гэта ў значнай ступені мастацтва, а не толькі вытворчасць. Заўсёды існуе дэфіцыт таленавіта выдадзенай кнігі, у якой важнае ўсё — змест, афармленне, паліграфічнае выкананне, навізна падачы інфармацыі — як візуальнай, так і тэкставай. Аднак менавіта па частцы прафесійных ідэй беларускія выдаўцы выглядаюць даволі сціпла, у каторы раз прапануючы чытачам зборнікі кулінарных рэцэптаў ці дапаможнікі па садаводстве. Кіраўніцтва выдавецтва прыкладае ўсе намаганні для прасоўвання прадукцыі на рынак, а рэдактары не хочуць браць на сябе адказнасць за фарміраванне "партфеля рукапісаў", справядліва мяркуючы: калі прапанаваны для рэалізацыі праект акажацца няўдалым, давядзецца развітацца з працоўным месцам. У выніку атрымліваецца, што з аўтарамі працаваць няма каму. Асобна паўстае пытанне і пра аплату пісьменніцкай працы. Аб'ектыўна кошты на зыходныя матэрыялы для вытворчасці друкаванай прадукцыі набліжаюцца да сусветных. Аднак прадаць саму кнігу па сярэднім сусветным кошце практычна немагчыма.

Нягледзячы на згаданыя цяжкасці апошніх гадоў, многія беларускія пісьменнікі-фантасты здолелі выстаяць і захаваць любоў да творчасці. За дзесяцігоддзі плённага супрацоўніцтва Ю. Брайдэр (які нядаўна пакінуў нас) і М. Чадовіч апублікавалі каля трыццаці твораў, галоўным чынам у маскоўскіх выдавецтвах. Актыўна друкуецца ў Маскве Вольга Грамыка. На жаль, творчыя лёсы іншых вядомых беларускіх пісьменнікаў-фантастаў склаліся іначай, у большасці сваёй іх тэксты пыляцца ў шуфлядах пісьмовых сталоў. Варта згадаць, што кантынгент аўтараў складаюць у асноўным людзі перадпенсійнага ўзросту. Прэстыж літаратурнай працы рэзка знізіўся. Моладзь "не ідзе" ў літаратуру, баючыся паўтарыць незайздросны лёс старэйшых калег.

Мы хочам друкавацца ў беларускіх выдавецтвах і чакаем падтрымкі ад дзяржавы, ад прыватных выдаўцоў. У верасні 2009 года выдавецтва "Харвест" выпусціла 12 кніг серыі "Беларуская сучасная фантастыка". Прадстаўлены раманы і аповесці М. Чаргінца, Ю. Брайдэра і М. Чадовіча, А. Сілецкага, Н. Новаш, М. Дзеравянкі, С. Цаханскага, Я. Дразда, А. Конышавай і А. Груздова, У. Кулічэнкі. У серыю таксама ўвайшлі напісаны па-беларуску раман Г. Аўласенкі "Дзікія кошкі Барсума" і зборнік аповесцяў А. Аляшкевіча "Дзеці зорак". Перамяшчэнне ў часе, пакарэнне далёкіх планет, барацьба цывілізацый, кантакты з іншымі формамі розуму, эвалюцыя чалавецтва пасля глабальных катаклізмаў — вось толькі некаторыя тэмы твораў, многія з якіх выдадзены ўпершыню. І беларускія чытачы маюць магчымасць першымі пазнаёміцца з цікавымі кнігамі папулярных аўтараў.

Уладзімір КУЛІЧЭНКА,
старшыня секцыі
прыгод і фантастыкі
Саюза пісьменнікаў Беларусі

Уладзімір МАРУК

## Пегас і авёс

Пегас мой думны, кормлены аўсом,
Не раз мяне імчаў высока...
Мікалай Вініцкі

Быў і ў мяне зайздросны лёс,
Быў час — і я наўсцяж галёкаў:
Пегас мяне высока нёс
Сваім крылатым лётам-скокам.

Ды неспадзеўны выпаў год —
Дзікі авёс мой патапталі.
Змарнеў Пегас, прыцішыў лёт,
І крылы лёткія апалі.

І ціха стала навакол,
А на душы —
пякельна-ціха...



Конь раптам грымнуўся аб дол,
А з ім і я — на тое ліха.

Ляжыць Пегас,
не можа ўстаць,
І на мяне тарашчыць зрэнкі:
"Як хочаш трохі палятаць, —
Пазыч хоць сечкі
ў Федарэнкі".

## Парадыйная парода

...Калі з мяне выводзілі пароду.
Прызнаюся: сядзелі ў рэстаране...
Сяргей Панізнік

Я вераў, што спазнаю асалоду
І мой спадзеў
выключнай з'явай стане...
Калі з мяне выводзілі пароду,
Сядзелі парадысты ў рэстаране.

Сядзелі, быццам суддзі
на пасудзе.
І першы страпянуўся Толя Зэкаў:
"Не ведаю, якой парода будзе,
А толькі —
каб па-наску кукарэкаў".

Здалёку распачаўшы:
"Так бы мовіць...",
Сказаў з прanoнсам
зианы Барадулін:
"Хай толькі кукарэкне, бы Шабовіч,
Адважу яму безліч наскіх дулін".



Не змоўчаў, угару узняўшы палец,
З хітрынкаю нясмелай
у паглядзе,
Завёў гугнява-думна
Янусь Малец:
"Шабовіч...
Ён жа сёння пры пасадзе..."

Пал рэстаранны сцішыў Ермалаеў,
Адчуўшы, што не так пяе катрынка,
З ухмылкай лавеласа ён прабаяў:
«А што, калі спародзіцца дзяўчынка?..»

## Вершастихи

Я збавіцель твой аднойчы,
А заўжды — "палач"...
Анатоль Кудласевіч

Хата мая з краю.
Там я шчы вару,
Вершы там ствараю,
А парой — "творю".

Можа, ад ляноты,
Як настрой благі,
Не купляю боты,
Лепей — "сапоги".

Смела гляну ўгору,
Быццам незнарок:
Столь бялела ўчора,
Сёння — "потолок".

А зірну пад ногі,
Як з-пад хмар арол:
Дзе была падлога —
Непамыты "пол".

Нехта есць са смакам
Костку ля бяроз.




Гэта ж мой сабака,
Злосны-злосны "пёс".

Дзесьці сярод ночы
Мэкае каза.
Што не бачаць вочы —
Ведаюць "глаза".

Я такі не першы
У наш час ліхі:
Днём пішу я вершы,
А ўначы — "стихи".

Шаржы Алега Карповіча
Пароды — публікацыя
Веранікі Марук

Барыс КАВАЛЕРЧЫК

## Сёе-тое з жыцця

- У маладосці часта аналізуюць сваё жыццё. У старасці даводзіцца больш увагі ўдзяляць медыцынскім аналізам.
- Не ўсе жанчыны ведаюць, што для міні-спадніцы патрэбны яшчэ і максі-ногі.
- Ніводны фокуснік не ведае, як з дулі з маслам зрабіць добры бутэрброд.
- Французы пры добрым настроі выпіваюць адну бутэльку віна, пры дрэнным — дзве. Цікава ведаць, які ўчора настрой быў у майго суседа Сцёпы, калі ён адразу выпіў тры бутэлькі віна?

## Скарга

Паважаны галоўны рэдактар!

Узяцца за пяро мяне прымусіла работа вашага мастака Уладзіміра Кастрова. У апошнім нумары вашай газеты змешчаны два яго шаржы — на мяне і яшчэ аднаго паэта. Звярніце ўвагу: майго калегу мастак намаляваў паўнатварым, вясёлым, з ямачкамі на шчоках, можна сказаць, квітнеючым. Мяне ж зрабіў вельмі худым, празмерна сумным і задумлівым, без маёй шыкоўнай шавялюры.

Лічу, што тут яўна ёсць задумка прынізіць маё значэнне ў літаратуры. Логіка разважанняў вашага мастака празрыстая: які аўтар, такі і яго ўнёсак у развіццё паэзіі. А хіба ж гэта так, шаноўны рэдактар?! Мой калега (прозвішча яго вы і самі ведаеце) яшчэ малады, пачынаючы паэт, можна сказаць, смаркач, а яго ўжо змясцілі ў газеце побач са мной! І аўтар пароды таксама мяне не паважае, прывёў маіх паэтычных радкоў менш, чым маладога калегі.

Лічу неабходным, паважаны галоўны рэдактар, у бліжэйшых нумарах вашай газеты даць новы малюнак з майго партрэта, максімальна наблізіць падабенства, зрабіць з размахам, ярка, каларытна, перадаць асаблівасці майго таленту, што будзе адлюстроўваць мой уклад у сучасны літаратурны працэс.

З надзеяй — Арцём Зарэчны, паэт.

Скаргу атрымаў Міхась СЛІВА

Уладзімір ЦАНУНІН

## П'яныя выбрыкі

* * *

Званок у дзверы ў позні час.
Пытае жонка: "Хто там?" Ціха.
Затым яшчэ ў каторы раз
Званкі, нібы на тое ліха.

Затым заціхла ўсё. Яна
Пайшла паспаць. Назаўтра рана
Не пад дзвярыма — ля вакна
Знайшла цвярозага Івана.

"Чаго сябе ты не назваў?" —
На мужа жонка наляцела.
Той у адказ: "Дык я ж ківаў!
А ты, відаць, не зразумела".

* * *

"Ці ёсць на маім лобе гузакі?" —
Прахожага пытаецца
з пагрозай,
Паркан абняўшы
моцна ў дзве рукі,
Мужчына абсалютна
нецвярозы.

Спыніўся азадачаны прахожы
І здолеў у адказ адно сказаць:
"На лысіне тваёй
гузоў прыгожых,
Здаецца мне,
што не адзін, а пяць".

Ад выпітага напалову хворы,
Прыплюшчваючы вочы, як сляпы,
Мужчына сам сабе
сказаў з дакорам:
"Да хаты засталося тры слупы".

Мікола СІСКЕВІЧ-НАРАЧАНСКІ

## Калун

Сухіх сукоў не абсякае, —
Жалезнай тупасцю збівае.

## Крыўда збана

Выбачайце за постаць крывую.
Я абпальшчыку здзек не дарую.
Ён над намі красуецца богам —
І даводзіць да стану такога…

## Творчы аматар

Любіў гарэлку,
Піў і квас.
Лез альпіністам
На Парнас.

Калі туды
Усё ж залез,
То страціў
Творчы інтарэс.

Тых, з кім яшчэ
Зусім не піў,
Ушчэнт
Паганьбаваць любіў.

Калі іх творы
Знеслаўляў,
Свае
У прыклад выстаўляў.

Меў перавагу
Да масцітых,
Лічыўся ім
І сам нібыта.

Ухіл рабіў
Прамы ад іх,
Чытаў для жонкі
Вершы ўслых.

Пегас ягоны —
Спрыт нахабны, —
Начальніцкі,
Але не вабны.

Таму не думае
Ніхто
Яму хоць
крышачку
Зайздросціць, —
Не ходзяць чытачы
У госці,
Бо ён для іх —
Даўно нішто.

Анатоль ВАЛАХАНОВІЧ

# А было гэта так

Пасля Вялікай Айчыннай вайны ў беларускую савецкую літаратуру ўліўся шэраг маладых таленавітых пісьменнікаў і паэтаў. Многія з іх прайшлі ўсю вайну — фронт, партызанскія зямлянкі, патрыятычнае падполле, атрымалі баявыя дзяржаўныя ўзнагароды.

Бравыя, смелыя, баявыя, напорыстыя, пісалі пра тое, што бачылі, што перажылі, перацярпелі. Пісалі добра, рэалістычна, па-баявому. Але яны яшчэ не мелі свайго літаратурнага імя, вядомасці, папулярнасці, і адпаведна ім плацілі аўтарскі ганарар па самай ніжэйшай шкале — па самых нізкіх стаўках. Тады было так прынята.

Аўтарскі ганарар у той час вызначаў, як цяпер сказалі б злыя языкі, ад "балды", другі сакратар Мінскага гаркама КПБ, які займаўся пытаннямі ідэалогіі, Сцяпан Лукіч Саламаха. А паэты-франтавікі не хацелі быць падобнымі да іншых паэтаў, якія сядзелі "в тылу", — нават па шкале ставак аўтарскага ганарару. І вось лёгкі на адчайную і з'едлівую сатыру і "забойчы" гумар беларускі паэт-франтавік Анатоль Астрэйка, што, як і іншыя паэты-франтавікі, пакутаваў ад Саламахі, напісаў пад "злую руку" вершаваныя радкі пра "распарадчыка" ганарару:

Бацька з маці далі маху —
І зрабілі Саламаху!

Анатоль Астрэйка не вельмі клапаціўся, каб гэта яго паэтычнае двухрадкоўе эпіграмы захоўвалася ў тайне і яго ніхто не ведаў. Яно хутка распаўсюдзілася і пайшло шырока гуляць сярод беларускіх пісьменнікаў, дзеячаў культуры і мастацтва, па ўсім Мінску і ў хуткім часе дайшло да самога Саламахі.

Увогуле інтэлігенцыя недалюблівала Саламаху за яго надзвычайную актыўнасць і што ён часам лез куды не трэба, як яна лічыла, і вельмі многім ён ужо наступіў на балючы мазоль. Усе чакалі, што будзе далей.

Даведаўшыся пра з'едлівую эпіграму, Саламаха "незамедлительно" выклікаў Анатоля Астрэйку да сябе ў кабінет.

Працягнуўшы Анатолю Астрэйку лісток, на якім было надрукавана на машынцы яго двухрадкоўе, Саламаха са злосцю запытаў:

— Ты гэта напісаў?

— Я!

— Чаму? Як ты адважыўся на мяне гэта напісаць?

— Мала нам, паэтам-франтавікам, вы плаціце аўтарскі ганарар за вершы.

Саламаха, па сваёй партыйнай звычцы, спрабаваў паўшчуваць паэта — але не на таго нарваўся. Анатоль Астрэйка, выслухаўшы партыйнага чыноўніка, яго пустую тыраду, даў яму здачы, ды якой:

— Вось пабачыце, калі вы не перагледзіце нам, паэтам-франтавікам, аўтарскія ганарары, напішу такое, што ЦК вас здыме з пасады ў імгненне вока!

Саламаха не чакаў такога адпору: відаць, добра трухнуў (тады партыйная дысцыпліна была сапраўды жалезнай!) і пагадзіўся з Анатолем Астрэйкам, што будзе выплачваць ганарар ім, франтавікам, не па трэцяй катэгорыі — самай нізкай, — а значна вышэй — бліжэй да памеру аўтарскага ганарару народных паэтаў і пісьменнікаў БССР Якуба Коласа, Кандрата Крапівы, Аркадзя Куляшова, Петруся Броўкі і іншых беларускіх літаратараў. Свае слова Саламаха стрымаў — і як! Анатоль Астрэйка і малады літаратары праз непрацяглы час пачалі атрымліваць значна большыя аўтарскія ганарары, чым раней.

З першага значна большага аўтарскага ганарару хлопцы-франтавікі зрабілі "замочку". Яны выпілі не "па кроплі", як гэта было раней, а добра ўзялі на грудзі, як толькі можна было, як кажуць, панесці.

Калегі па паэтычным цэху шчыра дзякавалі Анатоля Астрэйку за яго, па тым часе, смелы ўчынак (во, даў дыхту такому партайгеноссе!) і, не шкадуючы, падлівалі адзін другому "Московскую особую" пад маласольныя агуркі-пальчыкі і печань траскі — самую танную закусь у той нялёгкі пасляваенны час.

# Беларускі варажбіт

Хлопчык свой голас шукаў
(Хаваў каралевіч-конік).
Хлопчык свой голас шукаў
У кроплі вады — ў прадонні.

Ф. Г. Лорка,
"Нямы хлопчык"
(пераклад Рыгора Барадуліна)


Рыгор Барадулін з Васілём Быкавым.

Паэзія, паэтычная творчасць — матэрыя гнуткая, дынамічная. Валодаючы такой уласцівасцю, яна патрабуе і ад аўтара, творцы гэткай жа гнуткасці, пластычнасці. Апрыёры служэнне муз не цярпіць ні мітусні, ні бяздзейнасці. Як першае, так і другое ў роўнай меры небяспечнае для сапраўднага мастацтва. Паэт павінен увесь час балансаваць паміж безданямі, быць і меланхолікам, і халерыкам у адной асобе, спалучаць у сабе дэманічны і анёльскі пачаткі. Бо там, дзе прарастае і ўкараняецца догма, заканчваецца паэзія.

У беларускай літаратуры найяскравым прыкладам такога творцы можа паслужыць народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін. Яго творчасць усеахопная, універсальная. Няма такога паэтычнага прыёму, якім ён бы не авалодаў, няма такой з'явы, якую б ён не здолеў пераасэнсаваць, "перавыдыхнуць" па-свойму, "па-барадулінску". Ён кіруецца эстэтыкай вышэйшага плана — эстэтыкай Слова, з дапамогай якой паэтызуе з'явы, здавалася б, зусім не паэтычныя. Патлумачыць гэты механізм немагчыма, навучыцца такому майстэрству нельга — інакш у нас быў бы не адзін Барадулін. Але ён унікальны. І ён — маг, чараўнік, жрэц.

Па ўсіх прыкметах паэты дзеляцца на дзве катэгорыі: паэты-трыбуны і паэты-самотнікі. Першыя рэалізуюць сябе праз соцыум, іх тэксты набываюць паўнавартаснасць у сяброўскіх гуртках, у шматлюдных залах, на стадыёнах. Другія — самотнікі — адасобленыя ад людзей, заглыбленыя ў першакрыніцы, іх стасункі з чытачом у большасці выпадкаў апасродкаваныя. Рыгор Барадулін цалкам не падпадае ні пад першую, ні пад другую катэгорыі, а дакладней, узвышаецца над усімі азначэннямі. Барадулінскі голас то прарочa-пафасна гучыць над усім Сусветам, то адпускае барадатыя жарты падчас сяброўскай бяседы, то малітоўна шэпча, звяртаючыся да Усявышняга. І ўсюды — сапраўдны Барадулін. Кожны знаходзіць у яго творчасці нешта сваё. Безумоўна, як не бывае ідэальных людзей, так і не бывае ідэальнага паэта для ідэальнага чытача. А калі ўлічыць рознасць чалавечых густаў, уяўленняў, прыхільнасцей, то атрымоўваецца, што стаць шырока запатрабаваным паэтам практычна немагчыма. Але Рыгор Барадулін запатрабаваны. Прычым самым розным чытачом.

Ёсць людзі, пасля знаёмства з якімі з'яўляецца адчуванне, нібыта гэта твой даўні, вельмі добры знаёмы. Гэткае ж адчуванне, ведаю, у большасці чытачоў узнікае пры знаёмстве з творчасцю Рыгора Барадуліна. Гэтая першая сустрэча адбываецца без напругі, без сканаванасці і насцярогі. Абраны Барадуліным тон, лад гамонкі з чытачом надзвычай лаяльныя, спавядальныя, даверлівыя, для адных — па-сяброўску зычлівыя, для іншых — па-бацькоўску дарадчы. Барадулін і ягоны лірычны герой непадзельныя. Рэдкі выпадак, бо жыццё змушае літаратараў крывадушнічаць: пісаць адно, а жыць зусім па-іншаму. Але толькі не ў выпадку з Рыгорам Барадуліным. Слову сапраўды народнага песняра верыш, яго радкі адкладваюцца ў падсвядомасці, у душы, каб пасля прарасці нечаканымі здагадкамі, адкрыццямі, высновамі. Для прыхільнікаў сваёй творчасці Барадулін — пажыццёвы псіхатэрапеўт і псіхааналітык. Ён звяртаецца да глыбінных архетыпаў, агульных для кожнага чалавека, і з іх дапамогай "перайграе" негатыў, прымушае па-іншаму зірнуць на рэчы.


Ля вогнішча Рыгор Барадулін з Анатолем Анікейчыкам.

Скажыце, ну чыю душу не крануць радкі, звернутыя да Той, што дала жыццё кожнаму з нас:

Вочы твае
Нада мной узышлі
Сузор'ямі цішыні.
Сусветамі дабрыні,
Пакуль ёсць яны —
Мне на зямлі
Светла, Мама!

Альбо такі незвычайны твор, напісаць які дазволена было, відаць, толькі Барадуліну — ён складаецца ўсяго з двух радкоў і называецца "Паэма":

Мне цябе не стае
Тае…

Акрамя таго, кожны паэт — гэта свайго роду місіянер духоўнасці, інтэлекту, унутранай свабоды. Усё вышэйпералічанае ўласціва Барадуліну, з'яўляецца яго другім "я".

"Дзіця з вачыма празарліўца…" — такую характарыстыку даў Рыгор Барадулін у адным з вершаў свайму сябру, Уладзіміру Караткевічу. Гэтыя словы можна паўтарыць і ў дачыненні да самога Рыгора Іванавіча. Каб заставацца верным сабе, паэт мусіць штодня нараджацца і пражываць гэты дзень як апошні, свaімі радкамі прадказваючы прышласць. Як той нямы хлопчык з верша Гарсія Лоркі, ён абавязаны адшукаць для кожнага слова свой уласны голас, нават калі для гэтага спатрэбіцца зазірнуць у халоднае прадонне нябыту.

Між тым, барадулінская паэзія, як і ўся класічная паэзія наогул, патрабуе асаблівай методыкі чытання. Яе нельга чытаць нахапкам, як газетныя тэксты, альбо запоем, як прозу. Нават у самага "натрэніраванага" чытача ўзнікне ў такім выпадку "эфект перанасычанасці", стомы. Але гэта звычайная прафесійная хвароба крытыкаў, яна не мае ніякага дачынення да сярэднестатыстычнага аматара літаратуры, які не лічыць сваім абавязкам у сціслыя тэрміны прачытаць паэтычны зборнік і адрэцэнзаваць яго. Звычайнаму чытачу альбо падабаецца творчасць паэта, альбо ён надоўга адкладае томік убок. Тканка ж барадулінскай паэзіі складаецца са скразных метафар, яна працята эпітэтамі, гіпербаламі і рознымі іншымі тропамі, якім літаратуразнаўцы яшчэ нават не паспелі даць наймення. Таму наша вока, звыклае да роўненькіх напеўных радкоў беларускіх класікаў з анталогій і хрэстаматый, сапраўды бянтэжыцца ад такой шматмернасці, пярэстасці, разнастайнасці адценняў, нібыта пазіраеш на стэрэамалюнак альбо глядзіш фільм у 3D-фармаце. А менавіта такая барадулінская паэзія. Гэта не азначае, што яна лепшая за паэзію папярэднікаў, яна проста іншая, больш непаўторная і адметная. Беручы ўсё самае лепшае ад традыцыі, Барадулін стварае свой асобны паэтычны універсум, дзе ёсць месца і для класікі, і для авангарда:

Пад высветленымі дубамі
Салодкімі смягне губамі
Пасека —
класіка.
Маладое сена
Расе на
Паспытак
Растрэсена —
экспрэсія.
Дыхае Белавеж
Спакойна,
як белы верш.

Іосіф Бродскі ў сваёй "Нобелеўскай лекцыі" даў, на мой погляд, надзвычай трапнае вызначэнне сутнасці паэзіі: "Існуюць, як мы ведаем, тры метады пазнання: аналітычны, інтуітыўны і метад, якім карысталіся біблейскія прарокі — пасродкам адкрыцця. Адрозненне паэзіі ад іншых форм літаратуры ў тым, што яна карыстаецца адразу ўсімі трыма (схіляючыся пераважна да другога і трэцяга), бо ўсе тры закладзены ў мове {…}. Той, хто піша верш, піша яго перш за ўсё таму, што верш — каласальны паскаральнік свядомасці, мыслення, светаўспрымання. Зазнаўшы гэтае паскарэнне аднойчы, чалавек ужо не ў стане адмовіцца ад паўтарэння гэтага досведу, ён робіцца залежным ад гэтага працэсу, як робяцца залежнымі ад наркотыкаў і алкаголю. Чалавек, які знаходзіцца ў такой залежнасці ад мовы, мяркую, і называецца паэтам".

Працытаваныя вышэй словы аднаго з найвялікшых творцаў XX стагоддзя ўражваюць не так дакладнасцю і пераканаўчасцю, як тым, наколькі проста, праўдзіва і актуальна ўсё сказана. Здавалася б, падобныя ідэі стагоддзямі вандруюць сярод мысляроў, філолагаў, лінгвістаў, літаратуразнаўцаў. Але выказаныя непасрэдным чыннікам тамніцы — самім паэтам — яны набываюць вагу золата. Кожны сапраўдны паэт — Мідас, шчаслівы ўладальнік і адначасова заложнік свайго шчасця, ахвяра свайго лёсу. Як падчас напісання прозы героі "ажываюць" і робяцца самастойнымі, пачынаючы дыктаваць празаіку далейшае развіццё сюжэта, так і ў паэзіі моўная стыхія, нібыта велізарны жывы акіян, падхоплівае "п'яны карабель" паэта і нясе ўдалеч, дзе яго можа чакаць усё, што заўгодна — і дзівосныя выспы з каралеўнамі, і нават сустрэча з Богам.

Паэт — нявольнік, ён амаль што пазбаўлены выбару. Дакладней, выбар у яго ёсць, але вельмі малы: альбо працягваць сваё невераготнае падарожжа, альбо на нейкім этапе адцурацца мары.

Рыгор Барадулін — прыклад паэта, які не адцураўся слова, нягледзячы ні на што:

Яно пачаткам маім было.
І першым слова
мяне сустрэла.
Я рос і старэў,
А яно не старэла,
Было высокім яго чало.

Я траціў і набываў сяброў,
Былі са мною мае анёлы.
Але зрабіўся як вецер голы,
Знізеў з вадой
забытлівай роў,

Дзе я намацваў на броды дно.
І зразумеў,
Што адно магчыма –
Са словам ціха
сустрэцца вачыма,
Чакаць,
Што на ростань
мне скажа яно.

Разважаць пра барадулінскую паэзію, цытаваць яе можна бясконца, гэтаксама як можна бясконца знаходзіцца ва ўладзе вербальнай магіі аўтара "Нерушы", "Рума", "Свята пчалы", "Вечалля", "Ксгоў" і шмат якіх іншых цудоўных кніг. Новыя грунтоўныя даследаванні творчасці паэта, упэўнены, яшчэ чакаюць свайго часу, як чакае свайго зорнага часу і выданне слоўніка мовы Рыгора Барадуліна, і слоўнікаў яго метафар і афарызмаў.

За больш чым паўстагоддзя плённага слугавання айчыннай літаратуры (а значыць і самой Бацькаўшчыне) беларускі варажбіт аздобіў нашае прыўкраснае пісьменства выдатнымі ўзорамі лірыкі, эсэістыкі, перакладамі паэзіі з незлічонай колькасці моў свету. Аўра паэта ззяе так моцна, што яе нельга не прыкмеціць і на адлегласці, таму імя Рыгора Барадуліна вядомае далёка за межамі нашай краіны.

Гэтымі днямі Рыгор Іванавіч адзначае сваё 75-годдзе. Багаты і на паэзію, і на сяброў, ён не страчвае імпэту і маладосці духу. Дзякуй Вам, дзядзька Рыгор, за тое, што Вы ёсць, здароўя Вам і натхнення на доўгія гады!

Янка ЛАЙКОЎ

# Феномен гомельскай школы

У Гомельскім дзяржаўным універсітэце адбылася прэзентацыя манаграфіі І. Штэйнера "Дняпроўскія матывы", прысвечанай асэнсаванню творчасці пісьменнікаў — ураджэнцаў Гомельшчыны. Гэта першая з шасці запланаваных кніг, што сведчыць пра грунтоўнасць ахопу матэрыялу, унікальнасць выдання. У кожнай кнізе мяркуецца асэнсаваць творчасць пісьменнікаў пэўнага рэгіёна Гомельшчыны і самога горада. Так, у "Дняпроўскіх матывах" разглядаецца творчасць пісьменнікаў гомельскага Падняпроўя. Усяго пададзена 77 творчых партрэтаў пісьменнікаў. І гэта толькі шасці раёнаў Гомельшчыны! Выданне фінансуецца Гомельскім аблвыканкамам. А асэнсоўваць ёсць што. На тэрыторыі Гомельшчыны сфарміравалася унікальная літаратурна-мастацкая традыцыя, своеадметная літаратурна-мастацкая плынь, якая вылучаецца сваёй арыгінальнасцю, унутранай цэласнасцю на агульнанацыянальным фоне. Творы, дзейнасць ураджэнцаў ці жыхароў Гомельшчыны адыгрывалі выключную ролю ў нацыянальнай культуры і гісторыі, пачынаючы ад старажытнасці, славутага Кірылы з Турава і па сённяшні час.

Гомельшчына дала чатырох народных пісьменнікаў Беларусі: Івана Мележа, Івана Шамякіна, Івана Навуменку, Андрэя Макаёнка. Нездарма наш край называюць Іван-градам беларускай літаратуры. На Гомельшчыне нарадзіліся і працавалі лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі Беларусі: В. Казько, Б. Сачанка, А. Грачанікаў, І. Сяркоў, М. Мятліцкі, М. Башлакоў. Варта таксама назваць імёны ўраджэнцаў Гомельшчыны С. Палуяна, М. Грамыкі, С. Некрашэвіча, Л. Гаўрылава, В. Коўтун, А. Федарэнкі, А. Бароўскага, У. Ліпскага, В. Яраца, С. Шах, І. Катлярова, Н. Тулупавай, А. Сыса, В. Ткачова, А. Наўроцкага і многіх іншых.

На кафедры беларускай літаратуры праводзіцца вялікая работа па зборы фактычнага матэрыялу, звязанага з жыццём і дзейнасцю нашых славутых землякоў. Карысным для настаўнікаў і школьнікаў вобласці стаў дапаможнік В. Смыкоўскай і В. Генаш "Літаратурная Гомельшчына" (Гомель, 1991), дзе сабраны звесткі аб васьмідзесяці пісьменніках, што нарадзіліся на Гомельшчыне. У 1999 годзе пабачыў свет зборнік лірыкі выпускнікоў Гомельскага дзяржуніверсітэта «Крыніцы», укладальнікам, аўтарам прадмовы і ўступных артыкулаў да якога з'яўляецца І. Штэйнер. Тут пададзены творчыя партрэты К. Кірэнкі, П. Пранузы, Т. Мельчанкі, М. Башлакова, А. Сыса, А. Зэкава, І. Багдановіч, Э. Акуліна, В. Куртаніч, Л. Раманавай, В. Яраца, А. Мельнікава, С. Сыса, С. Крупенькі, А. Дуброўскага, А. Майсеенкі. Гэта была першая спроба выдання падобнага плана, дзе пад адной вокладкай сабраны творы студэнтаў і выпускнікоў ГДУ, пачынаючы яшчэ з саракавых гадоў мінулага стагоддзя. "Крыніцы" сталі і першым даследаваннем "феномена гомельскай школы ў беларускай паэзіі" (тэрмін І. Штэйнера).

У тым жа годзе быў выдадзены зборнік крытычных артыкулаў «Душа прычаліцца крылом да неба…» (пад рэдакцыяй І. Штэйнера), прысвечаных асэнсаванню творчасці колішніх студэнтаў ГДУ. Адметнасць зборніка ў тым, што аўтары яго — самі студэнты ці аспіранты Гомельскага ўніверсітэта.

Сёння на кафедры беларускай літаратуры падрыхтавана другое выданне "Крыніц" і зборнік, прысвечаны прозе і публіцыстыцы.

Напярэдадні 75-гадовага юбілею Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта, у 2003 годзе, пад рэдакцыяй І. Штэйнера і І. Бароўскай падрыхтаваны зборнік "Універсітэт літаратурны. Універсітэт песенны", дзе пададзены творчыя партрэты колішніх і сённяшніх студэнтаў ГДУ, якія праявілі сябе ў мастацкай творчасці.

У 2004 годзе супрацоўнікамі кафедры вялася плённая работа па зборы і асэнсаванні матэрыялаў, звязаных з традыцыйнай культурай, літаратурнымі здабыткамі Мазыра. Упершыню асэнсавана дынаміка асноўных жанраў і відаў традыцыйнай гарадской духоўнай культуры ў яе гістарычным развіцці і перспектыўнасці ва ўмовах глабалізацыі сучаснага свету. Пад кіраўніцтвам І. Штэйнера падрыхтаваны зборнік эсэ і навуковых артыкулаў, прысвечаных увасабленню Мазыра і Прыпяці ў мастацкай літаратуры, песнях і дакументальнай прозе ("Мазыр літаратурны"), а таксама фальклорна-этнаграфічны зборнік "Адвечнай мудрасці скарбонка", у якім сабраны ўзоры традыцыйнай народнай творчасці і міфалагічныя ўяўленні жыхароў "сталіцы Палескага краю".

У 2008 годзе пабачыла свет чарговае выданне — "Рэчыца лірычная", дзе разглядалася творчасць пісьменнікаў Рэчыцкага раёна.

У рамках прэзентацыі "Дняпроўскіх матываў" адбылася сустрэча з пісьменнікамі Гомельшчыны.

Анжэла МЕЛЬНІКАВА,
дацэнт кафедры беларускай літаратуры
Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта





# Уздзенскі вытак

**Уздзенскі раённы гісторыка-краязнаўчы музей ажыццявіў цікавы мастацка-асветніцкі экспазіцыйны праект — персанальную выстаўку жывапісу мастака-земляка Алеся Філіповіча.**




Выпускнік Мінскага мастацкага вучылішча і Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, Алесь Філіповіч вылучыўся першымі ж самастойнымі шматфігурнымі кампазіцыямі на тэмы этнаграфічна-гістарычнай спадчыны, гераічнага мінулага Айчыны. На агульнасаюзных маладзёжных (у час СССР), рэспубліканскіх і некаторых замежных выстаўках станоўчы водгук атрымалі яго палотны "Свята ў Камаях", "Сеча" ("Бітва на Уле"), "Укрыжаванне" ("Узвіжанне крыжа капліцы ў Мінску ў 1989 годзе"). Апошні з названых твораў, на жаль, не вярнуўся на радзіму — ён быў прыдбаны ў Італіі невядомым аматарам для прыватнага збору.

Асобная старонка творчай біяграфіі таленавітага майстра — яго працяглыя далёкія і блізкія вандроўкі на прыроду падчас адпачынку, падарожжы на пленэр. Разам з калегамі-аднадумцамі мастак аб'ездзіў бадай што палову былой савецкай дзяржавы — наведваў Карэлію, Прыбалтыку, Архангельскую вобласць, Украіну, Паволжа, Забайкалле, Цянь-Шань і Далёкі Усход. Паўсюль плённа працаваў і прывозіў на радзіму мноства прыгожых, назіральных, смелых па выкананні карцін і эцюдаў. Дарэчы, па мастацкіх якасцях і глыбіні эстэтычнага ўздзеяння гэтая серыя карцін падаецца адной з найлепшых, і не толькі ў творчасці Алеся Філіповіча, але і ў сучасным беларускім выяўленчым мастацтве адпаведнай тэматыкі. Вылучаецца пейзаж "Вялікая мойка" ("Байкал. Вясёлка. Пасля навальніцы"), варыянт якой увайшоў у музейную экспазіцыю ва Уздзе. Надта ж уражвае, чаруе, глыбока кранае гэты суровы, велічны, "першабытны", непрыступны, таямнічы, чысты і прыгожы край!

Жанр пейзажу, бясспрэчна, асноўны, вядучы ў творчасці жывапісца. Алесь Філіповіч — актыўны ўдзельнік амаль усіх буйных калектыўных рэспубліканскіх майстар-пленэраў, якія ладзяцца штогод Беларускім саюзам мастакоў з нагоды самых розных адметных для Бацькаўшчыны падзей або юбілеяў выдатных дзеячаў нацыянальнай гісторыі і культуры. Апроч таго, Алесь Міхайлавіч па-ранейшаму працягвае ўласны, самастойны творчы этнаграфічна-краязнаўчы пошук: уважліва вывучае і пранікнёна апявае ў фарбах на шматлікіх маляўнічых палотнах сваю малую радзіму — Уздзеншчыну, цудоўны, лясісты, шчодры, багаты на народныя таленты край. Апошнім часам мастак стала тут жыве і працуе на сядзібе бацькоў у вёсцы Куль.

З рэспубліканскага пленэру, прысвечанага памяці Язэпа Драздовіча, Алесь Філіповіч прывёз адзначаны крытыкамі экспрэсіўны, поўны дынамікі краявід "Парэчча" з выявай драўлянай старасвецкай царквы (цяпер твор знаходзіцца ў Амерыцы). Добрымі мастацкімі якасцямі вылучаюцца таксама яго "Запавет нашчадкам на ўзлессі" ("Уніяцкая капліца каля Смаргоні"), "Засценак Пунькі. Радзіма Я. Драздовіча". Падзеі паўстання ў Беларусі 1863 — 1864 гг. пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага бліскуча адлюстраваны ў невялікім па памерах палатне "Прарыў".

Нядаўна Слуцкай карціннай галерэі перададзены захапляльны краявід мастака "Восень" з вельмі моцнай, насычанай энергетыкай, якая нібы зыходзіць ад раскідзістага магутнага рэліктавага дуба-волата (мабыць, убачанага дзесьці на прасторах Уздзеншыны). Для ўпрыгожвання інтэр'ераў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі экспертамі Міністэрства культуры былі таксама адабраныя некалькі лірычных пейзажаў А. Філіповіча...

Светлыя, цёплыя, узнёслыя, пяшчотна-задуменныя, шчымліва-родныя... Менавіта такімі эпітэтамі можна ахарактарызаваць кожны пейзаж мастака, горача ўлюбёнага ў сваю родную старонку. Аднак Алесь Філіповіч добра вядомы ў прафесійным мастакоўскім асяроддзі і як партрэтыст. Героі яго партрэтаў, як правіла, звычайныя, простыя сучаснікі, прыгожыя сучасніцы і дзеці — і кожны з іх са сваім унікальным светаадчуваннем. У выявах людзей мастак імкнецца раскрыць перш за ўсё іх духоўны, унутраны свет і перадаць тонкі псіхалагічны настрой. Нельга не вылучыць у яго своеасаблівай партрэтнай галерэі "Селяніна-беларуса", "Мастака А. Маціевіча", "Франса Тэмана", "Дзяўчынку, якае чытае".

Плённая, самабытная творчасць Алеся Філіповіча, жыццелюбівая па характары і рамантызаваная па стылістыцы, кранае асноўныя, адвечныя ісціны быцця, дае магчымасць адчуць крэўнасць сваіх каранёў, повязь часоў, а галоўнае прытым — успрымаць навакольны свет нібы вачамі дзіцяці: усхвалявана, непрадузята. Гэта, пагодзімся, так важна…

Каб павіншаваць з вернісажам і падтрымаць свайго выхаванца і сябра, цяпер сталага майстра, ва Узду ладзіўся з альма-матэр спецыяльны рэйд мастацтвазнаўцаў і сталічных мастакоў.

Алесь РУНЕЦ

На здымках: творы Алеся Філіповіча "Байкал", "Вёсачка" (фрагмент), "Краявід з жытам. Заслаўе" (эцюд), "Партрэт бацькі", "Зімовы Нёман".

## У наступным нумары

Алена Папова – сталы празаік і драматург, піша на рускай мове, жыве ў Мінску. Сёння імя пісьменніцы даволі вядомае ў Беларусі, але значна шырэй яе творчасць ведаюць замежныя аматары прыгожага пісьменства і сцэнічнага мастацтва. Творы Алены Георгіеўны перакладзены на англійскую, нямецкую, японскую і беларускую мовы, больш як паўтара дзесятка п'ес аўтара атрымалі сцэнічнае ўвасабленне ў тэатрах розных краін свету. Наша суайчынніца з'яўляецца пераможцай Першага еўрапейскага конкурсу п'ес у Германіі (Касель, ФРГ, 1994), яе творчасць прадстаўлена ў анталогіі "Жанчыны-пісьменніцы Цэнтральнай і Усходняй Еўропы" (Лондан, 1999). Напрыканцы мінулага года часопіс "Нёман" (№№ 11, 12) прапанаваў увазе чытачоў новы твор Алены Паповай — раман "Этот сладкий голос Сирены", які станецца чарговым аб'ектам увагі ў рубрыцы "Абмеркаванне".

Сваімі ацэнкамі твора падзеляцца Ірына Шаўлякова, Ціхан Чарнякевіч, Марыя Шамякіна і Лада Алейнік.

## З глыбінкі

### Вершы над Зальвянкай

Тавар не ўмею тварам паказаць.
І, значыць, у гандлярkі не гаджуся.
Я толькі ўмею шчыры верш сказаць
Пра Беларусь, за Беларусь, аб Беларусі.

Пад гэтымі шчырымі радкамі мясцовай паэтэсы Валянціны Ададуравай можа паставіць подпіс кожны паэт-зэльвенец. Бо зэльвенская зямля ўзгадавала нямала слаўных творцаў, якімі яна ганарыцца. А першыя спробы пяра амаль кожны з іх зрабіў на старонках раённай газеты "Праца". Невыпадкова ў рэдакцыі газеты ўзнікла вядомае ў Гродзенскай вобласці літаратурнае аб'яднанне "Зоры над Зальвянкай", якому ўжо амаль сорак гадоў.

Працяглы час літаб'яднаннем кіраваў светлай душы чалавек Пётр Марціноўскі (вечная яму памяць), а вось ужо чатыры гады апякуе "Зоры" былы бібліятэкар, мясцовая паэтэса Яніна Шматко.

Штомесяц, а то і часцей, збіраюцца "паэтычныя галасы" ў рэдакцыі ці ў раённай бібліятэцы. Так было і нядаўна, калі ў гасцёўню да членаў клуба "Ліра" завіталі мясцовыя паэты. Загадчык аддзела абслугоўвання Валянціна Масюк і бібліятэкар гэтага аддзела Людміла Попка зрабілі агляд літаратуры, а потым запрасілі прысутных да шчырай размовы. Паэты гаварылі пра нараджэнне сваіх твораў, чыталі новыя вершы.

Алена Букатая — былы медыцынскі работнік — і гэтым разам парадавала слухачоў сваімі новымі творамі. А багатую на таленты старажытную вёску Дзярэчын прадставіў Генадзь Коўш. Яго зборнік "Вершакроплі" (Мн., "Кнігазбор", 2009) — сапраўднае адкрыццё на паэтычным небасхіле. Паэтычны зборнік Генадзя Коўша, гэтак жа, як і паэтычныя выданні Валянціны Сямянякі, Алены Карозы, Алены Букатай, Святланы Патаповіч, Юркі Голуба, Алены Таболіч і іншых паэтаў-землякоў, прэзентаваліся менавіта ў раённай бібліятэцы.

Дарэчы, да 750-годдзя Зэльвы пабачыў свет калектыўны зборнік вершаў "Зоры над Зальвянкай". Дваццаць чатыры аўтары падарылі чытачу радасць Слова.

Галіна РАМАНЧУК

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

Рэдакцыйная калегія:
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Святлана Берасцень
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікола Станкевіч
(намеснік галоўнага рэдактара)
Юрый Цвяткоў
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер



Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск,
вул. Захарава, 19

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі
і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04,
284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856
Наклад 3104
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 25.02.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 886

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-6majority